Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# КАСТРЫЧНІК У ШКОЛЕ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК—1927

## ЗЬМЕСТ

### I. Як жылося сялянам і рабочым за царом і панамі



### II. Як рабочыя і сяляне змагаліся за свабоду



### III. Як дзеці рабочых і сялян дапамагалі ў рэволюцыйнай барацьбе



### IV. Рабочыя і сяляне будуюць новае жыцьцё

**V. Тэатр і музыка**

Максім Гарэцкі

# Досьвіткі

Доўга цягнуцца зімовыя досьвіткі. За вокнамі цёмна і лютая сьцюжа, а ў сьцюдзёнай хаце невясёла гарыць цямнявая лучына, нудна трынкаюць марудныя верацёны. Да сьвету яшчэ далёка-далёка.

Не пяюць удосьвецьця песень, і маўклівыя пральлі толькі ціха думаюць свае ціхія досьвітныя думы.

Але бяссонны дзядуля, размачыўшы лыкі і сеўшы ў кажусе на калодачку пасярод хаты, любіць гэтым часам разьвеяць сонны сум у маладых сваімі перaказамі аб розных прыгодах з даўнае мінуўшчыны.

Пляце дзядуля старадаўнія плятні і любіць іх, як свае лапці, а ўжо яго старэйшы ўнук, яшчэ і не дзяцюк, а толькі ладны хлопчык, што ні ў вошта, аднак, ставіць лапці перад ботамі, ужо ён ня можа ўцерпіць—і перабівае ціхую стройную плынь казаньня й слуханьня. Бунтуецца яго маладое сэрца супроць незразумелай для яго пакоры панскіх падданых.

— А каб на мяне,—кажа ён дзеду,—то ўзяў-бы я добры кол, прыпільнаваў-бы пана дзе-небудзь у зручным куточку ды так-бы сьвіснуў яго поўху, што ён-бы і сваіх не пазнаў! Ня стаў-бы другі раз сячы людзей.

— Эх, братка ты мой, братка!—усьміхаецца на ўнука дзед.—Няўжо-ж ты гэтак любіш біцца? Ці табе, такому маладому, так казаць! Брыдка гэта—біцца... Але быў у нас адзін: бывала, як яго сячы, возьме кол, стане ў кут і не даецца. «Палезьце толькі! Першаму, кажа, растаўку мазгаўню». А потым уцячэць у лес і басьцяецца дзён дзесяць. Але што-ж? Ня дзе-ж яму дзецца—вернецца сам або яго зловяць. Схопяць зьнянацку, зьвяжуць, пакладуць на ўслоне, пара людзей сядуць на ногі, пара на галаву, а трэцяя пара з двух бакоў так адлупцуюць беднага, што пасьля яшчэ дзён колькі ляжыць ды стогне...

— Каб усе не даваліся, як ён, то не абсеклі-б!

Дзед толькі засьмяецца і кажа далей перарваную гісторыю.

— А каб на мяне,—ізноў замінае дзеду ўнук—узяўбы я каробачак сернікаў і добры пук саломы, выбраў-бы я цёмную восенную ночку і так-бы засьвяціў у панскім двары, што пан той і сваіх-бы не пазнаў.

— Эх, братка ты мой, братка!—усьміхаецца дзядуля.— Лацьвей табе цяпер казаць,—ня тое было ў даўны час. Быў у нас гэткі адзін. Бывала, як толькі восень—гарыць гумно ў нашага пана. Згарэла раз, паставіў цераз год другое. Згарэла й тое, паставіў трэцяе. А пасьля прыехалі к пану казакі, сагналі ўсіх людзей у двор, выбралі ад кожных дзесяці сем'яў па чалавеку, разлажылі іх голых на таку ў гумне. Прышоў пан, запаліў сьвечку ўвелькі з добрую качалку і ну па радоўцы падсмальваць задраныя бароды, дый пытаецца: «Ня ведаеш, цераз чый грэх спалілася гуменца ў твайго пана?»—«Ой, паночку, зьмілуйцеся, ня ведаю». Абышоў усіх, а ляжалі ў два рады, як снапы,—і ніхто ня ведае...—«Ну, то, кажа, як вы такія сьвятыя, што ніхто з вас ня мае грэху,—царства вам нябеснае!»



**Панаехала войска, сагналі ўсіх людзей...**

Вышаў з казакамі за вароты, сказаў заперці там нягрэшных і запаліць і гэтае гумно... Божухна-бацюхна! Пан багаты, што яму значыць спаліць гумно (пустое, бяз хлеба) і страціць сотні дзьве падданых, калі ў яго лесу таго за колькі дзён вокам ня скінуць, а падданых не адна тысяча. Завылі ўсе людцы, што стаялі вонках, кінуліся да пана,

але ня з кольлем, а з гаручымі сьлязьмі, каб ня губіў невінаватых. Плачуць, галосяць, поўзаюць наўкол пана па зямлі, як ракі або чэрві.—«Запалівайце!—крычыць пан,—мае людзі, мой адказ!» Хацелі ўжо казакі паліць, аж крычыць з гумна адзін: «Мой грэх!» Выпусьцілі ўсіх, а яго зьвязалі, павязьлі некуды скрозь ноч. Дзейкалі ў нас людзі, што спаліў яго пан у лесе. Можа праўда, можа—не, толькі ўжо ён прапаў недзе навекі, ніколі не вярнуўся. А начальству пан сыпнуў грошы, каб ня слухала людзкіх дзейканьняў і ня шукала чалавека. Сам-жа пан быў і начальнік...

— Каб усім кагалам кінуліся на пана, то не прапаў-бы чалавек,—сьпіраецца задуманы хлапец.

— Эх, братка ты мой, братка!—ківае галавою дзед:—паглядзім, што-то ўжо будзе з вас, маладых ды бойкіх.

Маўчыць тады, бывала, малады ўнук.

---

І так цягнуцца доўгія-доўгія зімовыя досьвіткі... Да сьвету яшчэ далёка, і кажа дзед, як загінуў малады Васіль, што кахаў харошую дзяўчынку-немку, і любіў ён маляваць, і як зьвялася па сьмерці дзедавага дзеда багатая пчэльня, і як трасла дзедавага дзядзьку трасца, здаўшыся яму начою ў лесе нямою бабаю...

— Ня ймецца веры, дзедку, у тое, што ты кажаш,—усьміхаецца нарэшце-такі і ўнук.—Трасца ня можа здацца бабаю, бо гэта ёсьць толькі хвароба.

— Можа й так,—пакорна згаджаецца дзядуля,—а людзі кажуць, і я кажу... Мне самому нічога ніколі не здавалася. Вам-жа, маладым, лепей тое ведаць, бо вам у школе кажуць, а нам, цёмным, што... Што мы ведаем?..

— Як чалавек хворы, дык яму тады здаецца ў хворых мазгох...—сьпяшаецца ласкавей сказаць унук, бо цяпер жаль ён чуе да свайго цёмнага, пакорнага дзядулі.

---

Ів. Вольнов

## Як спаганялі падаткі

На пакровы малінаўскі соцкі, дзядзька Лявон, склікаў народ на сходку.

— Мужчыны, чуеце ці не? Земскі прывалачэцца,—голасна крычаў ён, пастукваючы ў вакяніцу кійком.—Падаткі... зьбіраць будуць...

Бацька вярнуўся са сходу позна ўвечары, калі ўсе ўжо спалі. У часе сьнеданьня, раніцою, ён быў сярдзіты і ні завошта аблаяў Матрунку.

Перад калядамі Лявон зноў стукаў пад вокнамі, зноў склікаў народ. Цяпер земскі прыехаў ужо не адзін, а прывалок з сабою станавога прыстава. Што яны там гаварылі, народу нямаведама, але пасьля іх гутаркі мой бацька цэлыя суткі не зьяўляўся дадому.

— Ну, што ты там чуў?—запыталася матка, спаткаўшы яго.

Бацька так адказаў, што я аж падскочыў на лаве. Цэлы дзень у хаце ня чуваць было аніякае размовы.

Раніцою, калі яшчэ было цемнавата, бацька з сястрою доўга капаліся ў хляве, потым павялі туды Пструкаткуцёлку. Прыбегла маці, трымаючы пад хвартухом самавар, за маткаю прыбег і я. Бацька хаваў цёлку паміж снапамі, якія былі нарыхтаваны на дах, і сьценкай. Ён закрываў цёлку зьверху і зьнізу саломай, якую кідаў на жэрдкі. Паміж жэрдкамі, праз дзірку відаць была спалоханая цёлка.

— Глядзі, каб не задушылася,—шаптала маці.—Ці моцныя жэрдкі?

Матрунка цягала віламі салому, матка хавала ў мякіну самавар і новыя чаравікі, якія купіла сабе на сьмерць. Я стаяў і дзівіўся гэтаму.

— Што гэта, мамка, робіце, га?

— Брысь дадому,—грымнуў бацька, грозячы вяроўкаю.—Усюды, чарцянё, пасьпяваеш.—І шэптам прамовіў: калі каму-небудзь скажаш, заб'ю да поўсьмерці.

Па вёсцы разьяжджалі начальнікі, зьбіралі падаткі, нядоімкі і харчовыя грошы. Яны хадзілі ад двара да двара, брыдка лаяліся, пагражалі загнаць туды, куды Макар цялят не ганяў, выматаць душу. Сьледам за імі цягнуўся старшыня са старастам з бліскучымі мэдалямі на грудзёх. За імі ехалі на шырокіх санках панятыя—мяшчаны з гораду.

На вуліцу, у сьнег, выкідалі з камор палатно, вопратку, самавары, збрую, словам, усё, што можна прадаць... Купляў усё гэта руды мешчанін у футры. Станавы называў яго Васіль Васілічам і частаваў жоўтымі папяросамі з добрай, лёгкай табакі. Цану вызначаў прыстаў. Стараста маўчаў. Панятыя ўздыхалі. Васіль Васіліч, пхнуўшы нагою ў выкінутую з кладоўкі рэч, сіпата казаў: бяру. Работнікі кідалі купленыя рэчы ў санкі, а мешчанін лез за пазуху, вымаў даўгі з поўаршына партманэт, доўга ў ім капаўся і плаціў грошы за ўзятыя рэчы. Бабы дзіка вылі. Мужыкі кіда-

ліся ў сьнег на калені, малілі паліцэйскіх, стукаліся ілбамі аб калёшы, зьмятаючы з іх сваімі валасамі бруд. Станавы адсуваў лежачых канцом шаблі і злосна крычаў на іх.

Забраўшы ўсё з камор, паліцэйскія пачыналі выводзіць жывёлу: парасят, кароў, птушак. Курэй і парасят садзілі ў мяхі, авечак, скруціўшы ім ногі, кідалі ў сані, а кароў і цялят прывязвалі да аглабель і да санак ззаду. Куры квахталі, вырываючыся з рук. Па вуліцы лётала пер'е. Парасяты, бабы і дзеці пішчалі. Каровы дзіка раўлі, білі капытамі сьнег і круцілі галовамі... Здаецца, надыходзіў канец сьвету...

Хутка чэцьвера мяшчанскіх санак былі даверху навалены дабром.

Станавы прамовіў:

— Здаецца, ужо час, Васіль Васіліч, крыху падмацавацца?

— Але, час,—адказаў мешчанін.

Санкі, наваленыя палатном, абуткам, вопраткай і іншым хатнім дабром, накіравалі з хлопчыкам і дзесяцкімі ў горад. Начальнікі, натапырыўшыся ад холаду, паціраючы рукі, пасунуліся ў хату да старасты. Соцкі пабег за гарэлкай. Паняты—да пападзьдзі за мочанымі яблыкамі.

Покуль начальства падсілкоўвалася ў цяпле і выгодзе, мужыкі мерзьлі на дварэ. Дачка старасты, Палута, ды і сама старасьціха лёталі з варыўні ў камору, з каморы ў склеп і цягалі місы з гуркамі, квашаную капусту, хрэн, шынку і гладышы з малаком. Мужыкі з зайздрасьцю паглядалі на ежу і гаварылі:

— Ну і любіць начальства жэрці...

— Папрывыкалі, каб і больш, і саладзей.

Добра падсілкаваўшыся, начальнікі курылі папяросы, моцна ікалі, а мужыкі, якія знаходзіліся паблізу, зьняўшы шапкі, зьдзіўлена паглядалі на іх.

Папіўшы гарбаты з рагулямі начальства зноў пачало адбіраць і прадаваць сялянскае дабро. Крыху адпачыўшы, бабы зноў пачалі галасіць; зноў пристаў тупаў нагамі, а мужыкі кідаліся яму ў ногі і поўзалі па сьнезе.

Дайшоў чарод і да нас. У нас прадаваць ня было чаго.

— Беднасьць нявымоўная, ваша благародзьдзе,—гаворыць стараста, зьнімаючы шапку.—Нічога ў іх няма... Адна толькі і слава, што сяляне... Грэх нават і лічыць іх сялянамі... Праўду кажу...

Панятыя глядзяць на пасінеўшага бацьку.

— Ня пужайся, чалавеча,—ціха шэпча паняты бацьку.—Кінься на калені ды кажы: зарэжце, забіце, няма ні-

чога, грошай—ані капейкі. Ён ужо і не такі злы, адыходзіць у яго злосьць... Пакрычыць, пакрычыць, ды кіне... Галоўнае, кажы, што голад прыдушыў, праелі ўсё... Бачыш, на табе і кажух не кажух, а нешта да барана падобнае...

Уваходзячы з вуліцы ў хату, станавы рэзнуўся ілбом аб касяк і груба вылаяўся, падымаючы шапку. Маці з перапуду схапіла венік ды і пачала разьмятаць сьмецьце з-пад ног станавога галосячы:

— А родненькі, а наш ты мілы начальнік... якое шчасьце, што вы зазірнулі да нас...

Вураднік таўхануў яе ў плечы.

— Адыйдзі, старая, не перашкаджай,—прамовіў ён.

— Кідайся пану ў ногі, пень,—падскочыла да мяне маці.—Кідайся перад ім. Кідайся...

Убачыўшы сучку на саломе, маці прынялася лупцаваць яе венікам.

— Каб цябе ваўкі, га? Вон на вуліцу! Вопратку хочаш паном парваць, а? вопратку?!.

Сучка вышчарылася.

— А, дык ты гэтак!

Матка стукнула сучку тоўстым канцом мятлы па галаве.

— Вон адсюль, паскуда!.. Паном задумала вопратку парваць?.. Вопратку рваць?.. Чыстую панскую вопратку рваць? А мятлы ня хочаш?.. Я табе парву!.. Ты ў мяне пазнаеш!.. Пані якая знайшлася!..

Маці да таго разышлася, што валасы выбіліся з-пад хусткі, кепска прывязаная на правай назе абора разьвязалася, ануча спаўзла, а маці, як ашалелая, усё бегала ў сенцах.

Станавы паглядзеў і ўхмыльнуўся.

— Вось дык пудзіла.

За станавым і вураднік ухмыльнуўся.

З адчыненых дзьвярэй з хаты няслося цяпло. Станавы скрывіў рыла і, плюнуўшы, прамовіў:

— П-фэ...Які-ж тут смурод... Быдла... І хуценька, стукнуўшы дзьвярыма, выскачыў на вуліцу.

— Дзе гаспадар!?

— Вось я, гаспадар, я...—прамовіў бацька.

— Падаткі.

— Няма... голад... б'емся, як рыба аб лёд... пачакайце...

Бацька кінуўся на калені. Барада ў яго трэслася, вецер разьвяваў яе, на лысіну падалі сьняжынкі.

Бацька на каленах нешта мармытаў, нешта гаварыў, аб нечым прасіў і царапаў кіпцямі свае грудзі. Матрунка

блядая, з чырвонымі плямамі на твары, трасецца і ломіць пальцы. Матка таксама трасецца і плача, а бацька пасабачаму глядзіць у вочы то станавому, то ураднiку. Я стаю ў натоўпе вясковых хлопчыкаў.

— Бацька твой, здаецца, заплакаў,—шэпча мне Міхалка Нямчонак.

Мне сорамна за бацьку і я кажу:

— Гэта яму мусіць ветрам зацярушыла...—Ён у нас моцны ты сам ведаеш, сьлязы і даўбнёй ня выб'еш. Не, ён плакаць ня можа...

Але Міхалка хоча паставіць на сваім:

Плача, глядзі, дальбог, плача. Глядзі: за нос схапіўся.

Тады я сам скрозь сьлёзы кажу:

— Пачакай, прыдзе і твая чарга, і твой бацька заплача... Засталося толькі тры двары...

— Мы яшчэ раніцою адплакалі ўсё і ўсе разам,—кажа Нямчонак.—Бацька нас лае, а мы—галосім... Бацька кажа: трэба вешацца, а маці кажа: добрыя людзі жывёлу хаваюць, як мага лепей, а ня вешаюцца... Бацька карову і жарабка завёў і схаваў у яр, а вялікую сьвіньню, кажа, схаваць няма куды, ды як загаласіў. Чэрці, кажа, зьядуць яе, а ня мы... А матка яму ў адказ: ня так ужо чорт і страшны, як яго малююць...

Нахіліўшыся да вуха Міхалка шэпча:

— Бацька сьвіньню закалоў... Не смаліўшы, ня чысьціўшы, захаваў яе у прыгуменьніку. Парэзаў на кавалкі і схаваў... Хадзем, я пакажу...

Начальнікі пайшлі рабіць вобыск у нашым двары, а мы з Нямчонкам пабеглі паглядзець, дзе захована сьвіньня.

— Сюды, сюды. У сярэднім,—крычаў Міхалка.— Вунь з таго краю.

Топячыся ў сьнезе ён мармытаў:

— Зараз пакажу, дзе схавана наша парасяціна, зараз, браточак, ты ўбачыш.

Але завярнуўшы за вугал, Міхалка загаласіў:

— Па-гля-дзі-і?

Чэцьвера здаравенных сабак, раскапаўшы схоў, жэрлі мяса. На сьнезе відаць былі чырвоныя плямы крыві. У баку ад іх круцілася беласаватае шчанё і тры вароны. З-пад саломы тырчэла аб'едзеная вялізная сьвінячая костка.

— Татка-а,—завыў Міхалка, угледзеўшы гэты абразок.—Татка-а!—Нямчонак выскачыў з гумна, і панёсься па вёсцы, галосячы немым голасам:

— Сабакі, татка-а!.. Сьвіньню... Толькі костачкі засталіся, тата!..

Мужыкі, якія стаялі каля ганку, зьдзіўлена пaглядалі на Міхалку і на яго бацьку.

— Што ты, дурніца,—цыкнуў стараста, схапіўшы мятлу.

— Сабакі... зьелі,—раптам грымнуў Нямчонак і разьвёў рукі.

— Што ты пляцеш, што,—ледзь здолеў прагаварыць Міхалкаў бацька.—Што ты пляцеш... Перажагнайся... Што з табою?..

— Шынку зьелі сабакі,—лемантаваў Міхалка.—Казала маці: хавай добра, не паслухаўся,—і ён заплакаў, зморшчыўшы пастарыкоўску свой дзіцячы твар.

— А божанька-ж ты мой, а прапала-ж мая галоўка,—схапіўся за валасы Міхалкаў бацька; па блядым яго шчокам каціліся буйныя, як боб, сьлёзы.

Я да таго перапалохаўся, што, трасучыся, паглядзеў на бацьку і завыў:

— Татачка-а і нашу кароўку сабакі зьядуць... Бяжы хутчэй у хлеў...

Начальнік хутка абярнуўся.

— Што ты, хлопча, сказаў?—запытаўся ён у Міхалкі.

Той вылупіў вочы, расчыніў рот і змоўк. Начальнік запытаў мяне:

— Што здарылася? Чый ты, га?

— Свой,—хуценька адказаў я, глытаючы сьлёзы.—У Міхалкі закалолі сьвіньню, а яе сабакі зьелі на прыгуменьніку, а ў нас у хляве цёлка...

Глянуўшы на бацьку, я ўспомніў, што гаварыць аб гэтым забаронена, закрычаў, абліваючыся сьлязьмі:

— Зараз ён будзе мяне калечыць-біць!.. Няма ў нас цёлкі, мы яе прадалі.

Міхалкаў бацька сядзеў на сьнезе і, ківаючыся, скуголіў; мой бацька паваліўся ў ногі станавому. Матруна раўла, мужыкі перапалохаліся—здранцьвелі.

Начальнік, разьвярнуўшыся, ударыў бацьку па твары. Жоўтая пільчатка яго лопнула. Бацька паваліўся галавою на парог і застагнаў. Як зьвер, Матрунка кінулася на станавога і ўчапілася за рукаў. Яе ўдарылі па галаве і яна звалілася побач з бацькам, але, ускочыўшы, зноў наважылася кінуцца на станавога, яе зноў ударылі. Матрунка павалілася. Начальнік ботам ударыў бацьку ў жывот і ён, сагнуўшыся крукам, енчыў. Маці чамусьці палезла на столь.

— Гвалт!.. Ратуйце!!!—крычала маці і з чацьвертай прыступкі зьляцела на зямлю.

Калі начальнікі паехалі ў горад, Міхалку вывернулі нагу. Яго потым вазілі ў горад лячыць. Я з тыдзень хварэў на крываўку. Вось як я адпакутваў за цёлку.

---

**Мацей Бурачок**

## Пан і мужык

Адзін ходзіць у саеце,
У золаце з плеч да ног,
А другому каб прыкрыцца
Хоць анучай,—велькі труд:
Ўвесь, як рэшата, сьвяціцца—
Адны латы, адзін бруд.
Адзін мае хатаў многа,
І вялікіх . . . . . .
. . . . . . . . .
. . . . . . . .
У другога ў сьцяне дзюры.
Вецер ходзіць, дым і сьнег;
Тут карова, сьвіньні, куры...
Тут пакута, тут і грэх.
Гэты едзе у вагоне,—
Цёпла, мякка—толькі жыць.
А ляціць, як віхар гоне,
А ён сабе толькі сьпіць.
Той ў мяцеліцу, ў марозе,
Што аж вон яму прэ дух,
Паўзе з клункам па дарозе,
У сьнягу увесь па брух.
Гэты хлеба і ня знае—
Толькі мяса ды пірог,
І сабакам выкідае
Усё тое, што ня змог.
А той хлеб жуе з мякінай,
Хлебча квас ды лебяду,
Жыве разам і есьць з сьвінкай
З канём разам п'е ваду.
Аднаму дзесяткі служкі
Зарабляюць сотні сот;
Рукі ў яго, як падушкі,
Як кісель, дрыжыць жывот.

Другі-ж, сам аж на дзесятак,
Працуючы, льле свой пот,
А высахшы, як аплатак,
Цянюсенькі, як той кнот.

---

С. Под'ячев

## Выдача грошай

Час ішоў... Я ўцягваўся ў працу, прыглядваўся да людзей, прывыкаў да парадкаў.

Прайшоў травень, надышла першая «палучка».

У нядзелю, а гадзіне дзевятай раніцы, усе рабочыя сабраліся ў цемнаватай пярэдняй, штурхаючы і, націскаючы



**Коштам сялянскай працы паны пабудавалі сабе палацы**

адзін на другога. У кантору з пярэдняй выходзілі шкляныя дзьверы, праз якія можна было бачыць усё, што там рабілася.

Нейкі нізка падстрыжаны малады чалавек, з маленькімі вусікамі, закручанымі ўгору,—як выявілася, канторшчык,—нешта выводзіў, нахіліўшы галаву налева і высалапіўшы язык, у тоўстай кнізе. Аконам хадзіў па пакоі з кутка ў куток, курыў цыгару, час-ад-часу перакідваючыся словамі з прыганятым, які пахілена стаяў каля парогу.

Чакаць нам давялося доўга. Аконам нарочна прабаваў нашу цярплівасьць... Мы стаялі кучаю, не асьмельваю-

чыся прысесьці, ціхенька, як пакараныя дзеці, гаманілі паміж сабою, і былі падобны не на людзей, якія прышлі атрымаць свае загарованыя грошы, а скарэй да басякоў, што чакаюць, калі ім выкінуць па пяць капеек на ўспамін дабрадзея. Нешта нявольніцка-зьніжанае адчувалася сярод рабочых... Выцягнуўшы шыі, спалоханымі вачыма заглядвалі яны ў кантору, і калі толькі хто-небудзь крыху ўзвышаў голас і пачынаў размаўляць галасьней, дык адразу-ж на яго накідваліся іншыя...

— Ціха ты!—чуўся з усіх бакоў злосны шэпат— ч-с-о-рт! Куды прышоў?.. Да жонкі, ці што? Вёска! З-за цябе няпрыемнасьць выйдзе, байбус!

Урэшце, аконам падышоў да бюрка, спыніўся і махнуў рукою прыганятаму. Апошні, як добра вымуштраваны падлыжнік, з усіх ног кінуўся да дзьвярэй і адчыніў іх насьцеж.



**А сяляне, працуючы на паноў, жылі ў цёмных і брудных хатах**

— Ці-і-і-ха-а!—вымавіў ён шыпячым голасам, выпучваючы губы.

Рабочыя і бяз гэтага стаялі ціха, а цяпер зусім замёрлі.

— Журлоў!—выклікнуў аконам.

— Каваль! Журлоў!—паўтарыў прыганяты,—ідзі!

У кантору увайшоў каваль і спыніўся каля парогу.

— Ты што-ж гэта, братка, а?—гледзячы на яго з-за бюрка голасна сказаў аконам,—а?

— Слухаю! Што загадаеце-с?—сказаў каваль.

— «Што загадаеце-с!»—перакрывіў яго аконам і раптам закрычаў: «Ах ты, нягоднік! Брыдота! Вон! Каб духу твайго ў маёнтку ня было! На тваё месца ўжо знойдзем другі! Генадзі Іванавіч, колькі яму, падлюгу, належыць?»

— Ён наперад забраў-с!—адказаў канторшчык:—належыцца яму два руб. 75 кап.

— Злыдзень!—зноў закрычаў аконам,—п'яніца!.. Чаму ня прышоў сустракаць князя?.. Я-я-к... ты мог не паслухацца! а? Як ты асьмеліўся адсекчы хвост у сабакі? Хто падбухторваў Соплю біць жонку... а? Я вось зараз урадніка паклічу! Вось твае грошы... вон!

Каваль, маўкліва, з пачырванеўшым тварам, падышоў да бюрка, забраў грошы, паклаў іх у кішэню і сказаў:

— Дзякуй!..—І, раптам скрывіўшы рот, дадаў:—Што-ж ты, свалата, да гэтага часу маўчаў? Я-ж бы даўно ўжо месца сабе знайшоў-бы, чорт паршывы, нямецкая малпа... правалiся ты і з кузьняй сваёй... Цьфу!..

Ён плюнуў, завярнуўся і пайшоў да дзьвярэй.

— Памятай,—раптам зварочваючыся да прыганятага і пагражаючы яму кулаком, крыкнуў ён,—памятай! Знайду я цябе!—І ён вышаў, стукнуўшы дзьвярыма ў сенцах так, што аж сьцяна задрыжала.

— Галавою стукні так!—сказаў прыганяты,—рабаўнік!

— Трымайце яго!—крыкнуў аконам, быццам пабітае шчаня;—зьвязаць яго! Ураднiка...

Ён, быццам абліты кіпнем, выскачыў з-за бюрка і кінуўся да дзьвярэй...

Прыганяты падбег да яго і асьцярожна прытрымліваў за руку...

— Паночак, родненькі,—пачаў упрашваць ён, чуць ня плачучы:—плюньце на яго... Паночак, даражэнькі,—сабака брэша, а вецер носіць... Спаліць, ашуканец, са злосьці наробіць такога... Плюньце, ня турбуйце сябе з-за ўсякай, з дазволу сказаць, брыдоты-с!

— Як ён асьмеліўся?! як сьмеў!—крычаў аконам, тупаючы нагамі.

— Напляваць, далі-бог, напляваць-с!—паўтараў прыганяты:—будзьце спакойны-с,—мы яго знойдзем. Ня турбуйце сябе... Ня варта так, далі-бог...

— Каб духу яго ня было! чуеш? Калі пабачу, дык і цябе да чорта...

— Будзьце спакойны-с, ён тут ня будзе... За пяць вёрст абыходзіць пачне...

Аконам, чмыхаючы носам і вылупіўшы вочы, увесь чырвоны, зноў стаў за бюрка і закрычаў:

— Сопля!

— Сопля,—як рэха паўтарыў прыганяты.

Худы, даўгі, страшэнны Сопля пераступіў парог і спыніўся, нахіляючы галаву і гледзячы на падлогу.

— Ты што,—закрычаў на яго аконам,—чо-о-орт! а? Ты што гэта, а? Ах ты, морда! да я цябе!.. Колькі яму?—зьвярнуўся ён да канторшчыка.

— Усе-с.

— На, вось, трымай тры рублі... Рэшта за канторай... п...шоў!

— Зьмілуйцеся...—пачаў Сопля.

— Во-о-н!—закрычаў аконам,—п'янстваваць таксама... падлюгі...

Атрымаўшы сваю «пэнсію», я вышаў разам з Кульцяпкай з канторы і па дарозе на кухню спытаў у яго:

— Што гэта, заўсёды грошы выдаюць вось так—з крыкам і лаянкаю?

— А ты вось пачакай, што ўвосень будзе,—адказаў ён,—або зімою... ня дай бог... Толькі і чакай, што ў морду за свае загарованыя дастанеш... далі-бог. Зімою нашага брата ціснуць, як уціскох... і ня дыш! Цяпер яшчэ што... Цяпер царства нябеснае, рай, цяпер мы ім патрэбны...так... А зімою,—ён махнуў рукою,—што дадуць, тое і добра, і ня пытай больш... А як што-небудзь—за браму! «Вас, кажуць, як сабак паршывых, колькі хочаш. Да Масквы не перавешаеш»... Ды што казаць... Справа вядомая... усюды так... Наш, мусіць, браток, адзін гонар: у морду, да «дурань», «хам», «п'яніца», «свалата»... Охо, хо, хо!.. Ну, што-ж рабіць-то? перакуліць, ці што, па маленькай, а! Ах, ты, доля, мая доля, а? Лезь да Лізкі... далі-бог, а? Чаго ўжо... плачаш, да п'еш, адна радасьць, ісьціны бог.

---

**М. Горкі**

# Жыцьцё рабочай слабодкі

Раніцою кожнага дня над рабочаю слабодкаю, у дымным, масьляным паветры, гучэў фабрычны гудок, і, паслухмяныя клічу, з маленькіх, шэрых хат выбягалі на вуліцу панурыя людзі, не пасьпеўшы сном асьвяжыць свае мускулы.

Халодным досьвіткам ішлі яны па вузкіх небрукаваных вуліцах да фабрыкі, а яна з абыякай упэўненасьцю

чакала іх, асьвятляючы людзям гразкі шлях дзесяткамі сваіх масьляных, квадратовых вачэй. Гразь хлюпала пад нагамі. Чутны былі воклічы хрыплых, сонных галасоў, злосная лаянка разрывала паветра, а насустрэч людзям плылі глухія гукі—цяжкі стук машын, незадаволенае бурчэньне пары, панура і строга маячылі высокія, чорныя трубы, уздымаючыся над слабодкай, быццам жэрдкі.

Увечары, калі заходзіла сонца і на шыбах вокан зморана блішчэлі яго чырвоныя праменьні, фабрыка выкідвала людзей з сваіх мураваных нетраў, быццам перапрацованую жужлу, і яны зноў ішлі па вуліцах, запэцканыя, з чорнымі тварамі, распаўсюджваючы ў паветры ліпучы пах машыннага алею і бліскаючы галоднымі зубамі. Цяпер у іх галасох гучала ажыўленьне і нават радасьць,—сягоньня скончылася катарга працы, дома чакалі вячэра і адпачынак.

Дзень праглынула фабрыка, машыны высмакталі з мускулаў людзей столькі сілы, колькі ім было патрэбна. Дзень бяз сьледу выкрэсьлен з жыцьця, чалавек зрабіў яшчэ крок да свае магілы, але ён бачыў блізка перад сабою асалоду адпачынку, радасьць дымнага шынку і быў задаволены.

У сьвяточныя дні спалі гадзін па дзесяць, пасьля людзі сталыя і жанатыя ўбіраліся ў сваю лепшую адзежу і ішлі слухаць абедню, лаючы пры гэтым моладзь за яе абыякасьць да царквы. З царквы варочаліся дамоў, елі пірагі і зноў клаліся спаць—да вечара.

Зморанасьць, назапашаная гадамі, пазбавіла людзей смаку, і для таго, каб есьці, многа выпівалі, раздражняючы бясьсільны страўнік вострым абпальваньнем гарэлкі.

Вечарам павольна гулялі па вуліцах, і той, у каго былі галёшы, надзяваў іх, калі нават было суха, а маючы парасон, насіў яго з сабою, хоць-бы і сьвяціла сонца.

Сустрэўшыся адзін з другім, размаўлялі пра фабрыку, пра машыны, лаялі майстроў,—гаварылі і думалі толькі пра тое, што было зьвязана з працай.

Адзінокія іскры няўмелай, бясьсільнай думкі чуць мігцелі ў нуднай аднастайнасьці дзён. Прыходзячы дадому, сварыліся з жонкамі і часта білі іх, не шкадуючы кулакоў. Моладзь сядзела ў шынкох, або спраўляла ігрышчы адзін у другога, іграла на гармоніках, пела бессаромныя брыдкія песьні, танцавала, лаялася і выпівала. Змораныя працаю людзі п'янелі хутка і ва ўсіх грудзях абуджалася незразумелае хваравітае раздражненьне. Яно вымагала выхаду. І, моцна хапаючыся за кожную магчымасьць разрадзіць гэтае трывожнае пачуцьцё, людзі з-за глупства кідаліся адзін

на другога з шалёнаю злосьцю зьвяроў. Узьнікалі крывавыя бойкі. Часамі яны канчаліся цяжкімі калецтвамі, а часам і забойствамі.

У адносінах паміж людзьмі найбольш за ўсё было пачуцьця падпільноўваючай злосьці, і яно было гэткае-ж самае, даўнішняе, як і нявылечная зморанасьць мускулаў. Людзі радзіліся з гэтаю хваравітасьцю душы, атрымоўвалі яе ў спадчыну ад бацькоў, і яна чорнаю ценьню спадарожнічала ім да магілы, пабуджаючы ў часе жыцьця да шэрагу ўчынкаў, агідных сваёю непатрэбнаю лютасьцю.

У сьвята моладзь зьяўлялася дадому позна ўначы, у падранай адзежы, у гразі і брудзе, з пакалечанымі тварамі, злорадасна пахваляючыся зробленымі таварышу ўдарамі, або зьняважаная імі, у гневе, або сьлёзах крыўды, п'яная і мізэрная, бяздольная і агідная. Часамі хлапцоў прыводзілі дадому мацяркі, бацькі. Яны знаходзілі іх дзе-небудзь на вуліцы, або ў шынкох, да няпрытомнасьці п'янымі, брыдка лаялі, білі кулакамі мяккія, напампованыя гарэлкаю целы дзяцей, потым больш-менш руплíва клалі іх спаць, каб раніцою, калі ў паветры цёмным ручаём пальлецца злосна рык гудка, абудзіць іх для працы.

Моцна лаялі і білі дзяцей, але ў той самы час п'янства і бойкі моладзі здаваліся старым зусім звычайнаю зьяваю,—як бацькі былі маладыя, таксама пілі і біліся, іх таксама білі мацяркі і бацькі. Жыцьцё заўсёды было такое,— яно роўна і павольна плыло некуды мутным ручаём, ґады і ґады, і ўсё было прасякнута моцнымі, даўнішнімі прывычкамі думаць і рабіць адно і тое з дня ў дзень. І, здавалася, ніхто ня меў ні часу ні жаданьня паспрабаваць зьмяніць яго.

Сяды-тады ў слабодку аднекуль прыходзілі чужыя людзі. Спачатку яны зьвярталі на сябе ўвагу проста тым, што былі чужыя, пасьля ўзбуджалі да сябе лёгкую, надворную цікавасьць апавяданьнямі аб месцах, дзе раней яны працавалі, потым навіна сьціралася з іх, да іх прызвычайваліся, і яны станавіліся няпрыкметнымі. З іх апавяданьняў было ясна: жыцьцё рабочага ўсюды аднолькава. А калі гэта так, дык аб чым-жа размаўляць?

Але часамі некаторыя з іх гаварылі нешта чужое, нячуванае на слабодцы. З імі не спрачаліся, але слухалі іх дзівосныя прамовы недаверліва. Гэтыя прамовы ў адных абуджалі сьляпое раздражненьне, у другіх—нейкую трывогу, у трэціх—непакой, лёгкі цень надзеі на нешта няяснае, і яны пачыналі больш выпіваць, каб выгнаць непатрэбную назольлівую трывогу.

Прыкмеціўшы ў чужаку нязвычайнае, слабаджане доўга не маглі забыць яму гэта і адносіліся да чалавека, непадобнага да іх, з несьвядомай асьцярогаю. Яны быццам палохаліся, што чалавек кіне ў іх жыцьцё нешта такое, што парушыць яе панура-правільны ход, хоць цяжкі, але спакойны. Людзі прызвычаіліся, каб жыцьцё ўціскала іх заўсёды з аднолькавай сілай, і, не чакаючы ніякіх зьмен да лепшага, яны лічылі, што ўсякая зьмена можа толькі павялічыць уціск.

І людзей, якія гаварылі новае, слабаджане моўчкі цураліся. Тады гэтыя людзі зьнікалі, зноў некуды адыходзілі, а, застаючыся на фабрыцы, яны жылі ў паасобку, калі не маглі злучыцца ў адно суцэльнае з аднастайнай масай слабаджан.

Пражыўшы такім жыцьцём гадоў пяцьдзесят чалавек паміраў.

---

А. Купрын

## Панская ласка

Яшчэ з раніцы жонкі, сёстры і мацяркі рабочых, пачуўшы пра меўшую быць панскую маёўку, пачалі зьбірацца на вакзале: многія ўзялі з сабою і грудных дзяцей. З выразам дзеравянай цярплівасьці на загарэлых, змораных тварах сядзелі яны ўжо некалькі гадзін на ўсходцах вакзальнага ганку і на зямлі, уздоўж сьцен, ад якіх паўставалі даўгія цені. Іх было больш за дзьвесьце. На запытаньні станцыённага начальства яны адказвалі, што ім трэба «рыжага і тоўстага начальніка». Вартаўнік прабаваў іх адпіхнуць, але яны ўзьнялі такі шум і гам, што ён толькі рукою махнуў і больш не адважваўся іх чапаць.

Кожная пад'яжджаўшая брычка выклікала паміж імі хвілёвы перапалох, але «рыжага і тоўстага начальніка» да гэтага часу яшчэ ня было, і яны зараз-жа супакойваліся.

Як толькі Базыль Церахавіч, ухапіўшыся рукамі за брычку, крэкчучы і нахіліўшы ўсю каламажку, ступіў на падножку, усе жанчыны зараз-жа хутка абкружылі яго з усіх бакоў і кінуліся на калені. Напалоханыя шумам натоўпу, маладыя і гарачыя коні захраплі і пачалі кідацца ў розныя бакі: фурман, нацягнуўшы лейцы і зусім перагнуўшыся назад, чуць стрымліваў іх на месцы. Спачатку Квашнін нічога ня мог разабраць: жанчыны крычалі ўсе адразу і выцягвалі да яго грудных дзяцей. Па бронзавых тварах раптам пацяклі ручаі сьлёз.

Квашнін убачыў, што яму ня вырвацца з гэтага жывога колца, што абступіла яго з усіх бакоў.

— Стойце, кабеты! Не гарланіць!—крыкнуў ён, пакрываючы адразу сваім басам іх галасы.—Гарланіце ўсе, як на рынку. Нічога ня чую. Кажы хто-небудзь адна: у чым справа?

Але кожная хацела гаварыць адна. Крыкі яшчэ больш узмацніліся, і сьлёзы яшчэ больш пацяклі па тварах.

— Дабрадзей ты наш... родны... паглядзі ты на нас... Ніяк ня можам цярпець... Згалелі... паміраем... з дзецьмі паміраем... Ад холаду, можна сказаць, проста здыхаем!

— Што-ж вам трэба? Ад чаго вы паміраеце?—крыкнуў зноў Квашнін.—Да ня крычэце ўсе адразу. Вось ты, маладуха, гавары,—ткнуў ён пальцам у рослую, і, ня гледзячы на бледнасьць змoранага твару, прыгожую калужскую кабеціну.—Усе іншыя, маўчы.

Большасьць змоўкла, толькі ня спыняла хліпаць і ціхенька галасіць, выціраючы вочы і насы бруднымі спадніцамі...

Усё-ж такі разам гаварыла ня менш дваццаці жанчын.

— Паміраем ад холаду, паночак... Зьлітуйся над намі, падумай як-небудзь пра нас... Сілы больш няма... Запёрлі нас на зіму ў бараці, а хіба ў іх можна жыць-та? Адна толькі слава, што баракі... З лучыны збудаваны... Цяпер і то нельга трываць ад холаду... зуб на зуб не пападае... Што-ж узімку будзе? Ты дзетак нашых пашкадуй, дапамажы, галубчык, хоць печы загадай паставіць... Харчоў варыць няма дзе... на дварэ гатуем... Мужыкі нашы цэльны дзень на працы... Замерзнуць... Намокнуць... Прыдуць дадому...—абсушыцца няма дзе.

Квашнін папаў у засаду. У які бок ён не паварочваўся, усюды яму дарогу загараджвалі жанчыны. Іншыя з іх валяліся на зямлі, а іншыя стаялі на каленях. Калі ён паспрабаваў праціснуцца паміж імі, яны лавілі яго за ногі і за крысы доўгага шэрага паліта. Бачачы сваю нязмогу, Квашнін рухам рукі паклікаў да сябе Шаўкоўнікава, і калі той праціснуўся праз цесны натоўп жанчын, Базыль Церахавіч спытаў яго пафранцуску, з гнеўным адценьнем у голасе:

— Вы чулі? Што гэта значыць?

Шаўкоўнікаў бездапаможна растапырыў рукі і замармытаў:

— Я пісаў у кіраўніцтва, дакладваў... Вельмі абмежавалася колькасьць рабочых рук... Летні час... касавіца... Цэны высокія... Кіраўніцтва не дазволіла... нічога ня зробіш...

— Калі-ж вы пачняцё перабудоўваць рабочыя баракі?—строга спытаў Квашнін.

— Зусім невядома... Няхай патрываюць як-небудзь... Нам перш за ўсё трэба сьпяшацца з памяшканьнямі для служачых.

— Чорт ведае, што за брыдоты робяцца пад вашым кіраўніцтвам,—прабурчэў Квашнін. І, зьвярнуўшыся зноў да жанчын, ён сказаў голасна:

— Слухай, кабеты! З заўтрашняга дня будуць рабіць печы і накрыюць вашы баракі дранкаю. Чулі?

— Чулі, родненькі... Дзякуй табе... Як ня чуць,—адказалі некаторыя ўзрадаванымі галасамі.—Гэтак, вядома, лепш, калі сам начальнік загадаў... дзякуй табе... ты ўжо нам, саколік, дазволь і трэскі зьбіраць з пабудовы...

— Добра, добра, і трэскі дазваляю зьбіраць.

— А то паставілі ўсюды чаркесаў... [1]) Як толькі падыдзеш за трэскамі, дык ён зараз гарапнікам і стараецца лупянуць.

— Добра, добра... прыходзьце сьмела за трэскамі, ніхто вас не кране,—заспакойваў іх Квашнін.—А цяперака, кабецінкі, марш па хатах, крупнік варыць! Да глядзеце ў мяне, жвава!—крыкнуў ён падахвочваючым, зухаватым голасам.—Вы загадайце,—сказаў ён ціхутка Шаўкоўнікаву,—каб заўтра палажылі каля баракаў два вазы цэглы... гэта іх надоўга здаволіць. Няхай цешацца.

---

Тарас Гушча

# Бунт

## I

Нешта трывожнае і патаённае рабілася ў вёсцы. Сяляне зьбіраліся ў кучкі, спрачаліся між сабою і талкавалі. Як толькі паяўляўся старшыня ў гэту кучку, яны змаўкалі або пачыналі гаварыць аб чым-небудзь другім.

Вечарамі сяляне зьбіраліся ў крайнюю хату дзеда Юркі. Гэта быў самы стары чалавек у вёсцы, як жывая кніжка. Дзед нікому не баяўся сказаць у вочы праўду; на ўсіх, нават на земскага начальніка, казаў ён «ты». Раз на судзе ў валасным праўленьні земскі сказаў на дзеда, як дзед рэзнуў яму адну праўду:

— Гэта цябе не касаецца, стары бацук!

---

[1]) У паўднёвым краі на заводах і маёнтках вартаўнікамі наймалі чаркесаў, якія адзначаліся сваёю адданасьцю і наганялі страх на насельніцтва.

Гневам заблішчэлі вочы дзеда:

— А што, ня так баліць, як сьмярдзіць?

І, памаўчаўшы, дабавіў з гневам, глянуўшы на вусы земскага:

— Ой, падла, хрушч, жабіны начовачкі!—Плюнуў дзед і вышаў з канцэлярыі.

Сабраўшыся ў хаце вось гэтага Юркі і закурыўшы люлькі, сяляне садзіліся каля стала, над каторым смутна блішчэла лямпа. Дзед сядзеў на лаўцы каля печы. У пячурцы ляжаў яго капшук з тутуном і крэсіва. Вакруг дзеда круціліся ўнукі. Некалькі хвілін у хаце панавала цішыня. Толькі дым ад люлек зьвісаў над стольлю, хрыпеў часам чый-небудзь цыбук ды стукаў хто люлькаю аб кіпець, выбіваў з яе попел.

Гутарка йшла аб зямлі, аб цяперашнім уціску народу.

Сьцёпка Ляўшун у гэтых справах быў самы дук ува ўсім сяле. Гарою стаяў ён проці крыўды вобчаства і на сходах быў першы праціўнік начальства. Ня любілі яго ні пісар, ні старшыня. Нават сам земскі наводзіў часта спраўкі ў старшыні пра Сьцёпку Ляўшуна. Адным словам, гэта быў чалавек «падазрыцельны», і поп ня раз казаў:

— Да, Ляўшун врэдны чалавек. Ды і народ з яго ласкі стаў не такі, як быў раней: нядобрае ён нешта замышляе; пазірае воўкам і гаварыць з табою ня хоча. Трэба пазіраць за ім.

— А вот у мяне ёсьць сьвежы лісток,—казаў той самы Сьцёпка сабраўшымся сялянам і даставаў з-за пазухі проклямацыю.

Сяляне цесным кружком садзіліся каля Сьцяпана. Лямпу зьнімалі на стол і ставілі яе ў гаршчок. Лісток чыталі доўга. Многа было ў ім незразумелага для сялян. Былі там такія словы, каторых яны ніколі ня чулі.

— А праўда!—казалі сяляне, як лісток дачытваўся ўвесь:—у нашай, напрыклад, воласьці шэсьць вобчастваў, а каб памерыць нашу зямлю, то ў нас яе будзе пэўна меней, як у двары.

— Меней!—засьмяяўся Сьцяпан:—у нас усяго 3 тысячы маргоў, а ў пана—27 тысяч! Гэта я добра ведаю.

— От ты і шукай праўды!

— Шукай—нойдзеш!..

Далей сяляне гаварылі аб тым, як цяпер трудна ім стала жыць; што дваровае поле, як падкова, абкружыла іх благія палеткі і што няма як і кроку ступіць, каб не папасьці ў панскія лапы.

— Эгэ!--круціў стары Юрка сівою галавой,—а я, нябогі, яшчэ сам, як быў маладым хлопцам, пасьвіў быдла

пад Дубамі. А ў затоках, што цяпер арандуе старшыня і царкоўны стараста, усё сяло лавіла рыбу. А рыбы, рыбы было!

І дзед ня раз гаварыў пра зямлю пад Дубамі, пра заплавы на рэчцы, каторыя калісь-то належалі да мужыкоў.

Сяляне слухалі, і злосьцю і зайздрасьцю гарэлі іх вочы.

II

— На начлег сюды мы езьдзілі,—гаварыў стары Юрка, ходзячы раз у сьвята з сялянамі па полі,—коняй тут пасьвілі. Пад гэтымі старымі дубамі агонь калісь-то клалі. І дзед прыглядаўся на зямлю, як-бы шукаў даўнейшага вогнішча, каб падцьвярдзіла яно яго праўду. Але ня было ніякага знаку: пяцьдзесят панскіх ніў вырасьлі ўжо на гэтым полі.

— Сьмех і песьні хлопцаў і дзяўчат будзілі некалі начны спакой гэтых палёў. Увесь кавалак аж да Сярэдніх Дароґ засявалі нашы мужыкі...—даканчваў дзед сваю мову.

Мужыкі хадзілі з хмурымі тварамі і мерылі шырокімі крокамі поле, каторае належыла цяпер да двара. Яны астанаўляліся, радзіліся, шукалі спосаб вярнуць сваю зямліцу.

— А вы вось 'шчэ пахадзілі-б па полі,—сьмяяўся з іх дзед:—можа што і выхадзілі-б.

— А што-ж ты кажаш рабіць?—пыталіся сяляне.

— Мне ня трэба зямлі. Я, брат,—у вырай скора; досі тапталі мае ногі сырую зямлю. Вунь дзе мая зямля!—і стары Юрка паказаў рукою на могілкі з трухлявымі крыжамі, што сіратамі стаялі ў полі, як і самі могілкі, абкопаныя нявысокім пяшчаным валам.

Раз, ужо ў позьнюю восень, грамада мужыкоў прывваліла ў школу. Сьцяпана выбралі дэпутатам і адправілі яго да вучыцеля.

— Пане вучыцель,—пачаў Сьцяпан, прышоўшы на кватэру вучыцеля:—мы маем да вас просьбу. Ніколі вы нам кепскага не рабілі і кажаце нам адну толькі праўду. Напішэце вы нам пэтыцыю (прашэньне) да пана. Самі мы малаграматныя, а прасіць, апроч вас, няма каго: поп запужае нас пеклам, пісар—казакамі.

І Сьцёпка расказаў, у чым іх просьба.

— Вось паглядзеце на плян, калі няпраўду мы гаворым.

Сьцёпка дастаў з-пад кажуха бляшаную качалку, у каторай быў плян і ўсякія дакуманты.

— Праўда: па пляну—зямля ваша,—сказаў вучыцель,—толькі, браце, ня ведаю, ці паможа вам гэта пэтыцыя. Гэта выйдзе ня больш і ня менш, як страляньне вараным гарохам у цагляную сьцяну. А вы з панам нічога не гаварылі аб гэтым?

— Як не гаварылі?—гаварылі. Першы раз нам сказалі, што пана няма ў хаце, другі раз пан сказаў, каб прышлі іншым разам; а трэці раз, як прышлі, пан накрычаў, нашумеў—не баяўся, казакоў быў повен двор—і, паказаўшы сваю панскую сьпіну, ён схаваўся ў пакоях. Вось і ўся наша гутарка з панам.

— Ну, то добра. Я напішу вам; прыходзьце вечарам—падпішацеся.

— Дзякуем вам, пане вучыцель!

Увечар, як рой пчол, гудзелі сяляне ў школе. Яны прышлі ўсім сялом паслухаць, што напісаў вучыцель, і падпісаць пэтыцыю. Вось коратка, гэта пэтыцыя:

«Вам (пану) павінна быць ведама, што робіцца цяпер у Расіі. Льлецца кроў, гараць панскія палацы... Людзям няма куды дзявацца, няма чаго есьці, і яны пайшлі адбіраць ад паноў тое, што паны адабралі ад іх. Мы ня хочам грабіць і паліць, каб чужою крывёй і сьлязьмі купіць сабе шчасьце; ня хочам браць чужога, а трэбуем ад вас таго, што вы ўсякімі канцэлярскімі кручкамі адабралі ад нас: 1) вярнуць назад зямлю ў урочышчы Дубы, каторая, як значыцца на пляне, належыць да нас; 2) вярнуць права карыстаць з рэчкі: лавіць рыбу, зьбіраць чарот і г. д.

Чакаем скорага і пэўнага адказу»...

— Добра напісана!—хвалілі мужыкі.

І мазалістыя рукі з вялікім трудом пісалі фаміліі сваіх уласьнікаў. Крывыя подпісы сялян занялі ўвесь ліст паперы.

— Як пазволіць пан лавіць рыбу, дык тады панічу будзе рыбы, колькі паніч захоча!—казалі мужыкі вучыцелю.

### III

Прачытаўшы пэтыцыю, пан не драмаў. На тройцы коняй панёсься ён у павятовы горад П. проста да маршалка. Усё начальства паднялося на ногі. Паклікалі поліцмайстра, спраўніка, земскага начальніка, прыстава, казацкага афіцэра. На гэтым ваенным савеце-радзе знайшлі, што мужыкі бунтуюцца. Казацкі афіцэр навёў спраўкі, колькі

ў вёсцы мужыкоў. Расчытаўшы, што адзін казак «у пяць мінут можа забіць дваццаць пяць мужыкоў», ён сказаў, што для «ўсьмірэньня» мужыкоў досыць будзе дваццаці казакоў.

Спраўнік паслаў у вёску выведаць, хто пісаў пэтыцыю.

Нічога аб гэтым ня ведалі сяляне і ўсё чакалі ад пана адказу. А як пан адказу не пасылаў, то сяляне, уважаючы што закон яны споўнілі, сабраліся ізноў і напісалі прыгавар лавіць рыбу ў тых затоках, каторыя па пляну належалі да іх. Узваліўшы на сані невад, чалавек дванаццаць сялян пад камандаю Ляўшуна паехалі на рыбу. Як на грэх, лоў быў шчасьлівы. Пападаліся найбольш ліны і шчупакі.

За высокім сухім чаротам нічога ня бачылі рыбакі.



**Сотні і тысячы рабочых і сялян гінула ад рукі царскіх катаў**

Толькі што яны выбралі рыбу з апошняй тоні, бачаць—лятуць на іх казакі ў высокіх касматых шапках. У бедных «бунтароў» і люлькі павыпадалі з зубоў на лёд, адна нават укінулася ў палонку.

— Кладзі невад на сані!—крыкнуў адзін казак.

Пакорна споўнілі сяляне гэта прыказаньне, худая кабылка цягнула мокры невад і цэбар з рыбаю, а мужыкі, апусьціўшы галовы, ішлі за возам, падганяныя казацкімі нагайкамі.

Бедных мужыкоў вялі цераз сяло. Дзеці галасілі на ўсю вуліцу; бабы прычыталі, як па нябожчыках.

На другіх санях, на абапал каторых ехалі конна казакі, сядзеў вучыцель. На ім было халоднае паліто і летняя шапка.

— Вось і рыбы налавілі, і на санях, як губарнатары, пад ахранай павозімся,—жартаваў вучыцель, каб развесяліць кампанію, а сам такі бледны, і гора сьвяцілася ў кожнай яго жылцы...

---

## Хто вінаваты?

*(З запісак рабочага А. І. Сьвірскага)*

У мэханічнай майстэрні, дзе мы працавалі, адзін чорнарабочы трапіў пад кола паравога такарнага варштату. Яму адарвала правую руку вышэй локця.

Мне ўрэзаўся ў памяць гэты момант. Я працаваў ціскамі і раптам пачуў нечалавечы лямант. Хутка абярнуўся і сам ледзь не паваліўся. У трох кроках ад мяне ляжаў барадаты чалавек, які крычаў і корчыўся ад болю. З таго месца, дзе была рука, фантанам струменіла кроў. Машыну спынілі. Кроў гэтага чалавека сьцякала з зубцоў машыны. Пад варштатам ляжала адарваная рука з мёртвай, пасінелай пясьцю... На месца здарэньня зьявілася начальства: майстар і ўсе старшыя.

— Сам вінен: глядзець трэба. На гэта і вочы дадзены...—хуценька пралепятаў майстар, яшчэ нават ня ведаючы ў чым справа і як ўсё гэта здарылася.

— Ён падаваў мне разак,—апавядаў сусед токар,— працягнуў руку... А вось як яго рука трапіла ў зубцы варштату, я не заўважыў. Мусіць машына захапіла за кашулю.

— Дык-жа-ж я і кажу, што сам вінаваты. Вось яны ўсе, гэтыя шэрыя чэрці, ніколі не асьцерагаюцца. Гэй вы, хлопцы, вазьмеце і занясеце яго ў больніцу. Я паведамлю аб здарэньні фэльчара,—крыкнуў майстар.

Рабочага, які так цяжка пацярпеў, узялі і вынесьлі з майстэрні. Крыкі і стогны яго спыніліся, і толькі на месцы здарэньня стаяла нярухомая лужына крыві.

Нехта з рабочых дастаў з-пад машыны адарваную руку. На ёй віселі шматкі вопраткі—сіняй блузы. На твары таго, хто яе дастаў, яскрава выяўляўся жах і агіда. І калі ён яе выносіў з майстэрні, то хістаўся, як п'яны.

— Сам вінаваты... Вочы дадзены для таго, каб глядзець імі,—амаль ня ў дзесяты раз паўтараў майстар, у якога, як відаць, сумленьне было ня зусім чыстае.

— Выбачайце, ён не вінаваты,—раптам нечакана прамовіў Арсень Глыбаў, і карыя вочы яго зазіхацелі маланкаю.

Майстар ад зьдзіўленьня адышоў на крок назад і пачаў углядацца сваімі рыб'імі вачыма ў Глыбава. Ён быў так зьдзіўлены нячувалай гарэзнасьцю, што спачатку нічога ня мог прамовіць.

— А хто, патвойму, вінаваты?—ледзь прамармытаў майстар.

Відаць было, што злосьць душыла майстра, і паволі чырванеў яго тлусты карак.

— Вінаваты завод,—роўна, як-бы рубячы кожнае слова, прамовіў Глыбаў і паволі агледзеў чырвоны, круглы азызлы твар майстра.

— Чаму завод?—шэптам запытаўся майстар і падступіўся на крок уперад.

— Таму вінаваты завод, што машыны не агледжаны і няма перад імі ахоўваючых футаралаў. Завод ня лічыцца з чалавечым жыцьцём, ня цэніць яго. Сёньня вы зжэрлі двох чалавек, і ні адным не падавіліся. Дык будзьце-ж вы тройчы праклятыя!..

Глыбава нельга было пазнаць. Ён раптам зрабіўся не падобным на звычайнага рабочага. Высокі, стройны, з высока паднятай пілой у руцэ, ён гучна гаварыў:

— Вы, уладары нявольнікаў! У вас няма сумленьня і жалю. Мы, рабочыя, ствараем вам ваша сытае жыцьцё. Мы робім вас багатымі. Мы куем сваімі рукамі шчасьце і радасьць. Вы гэтае шчасьце і радасьць цалкам адбіраеце ад нас і пакідаеце нам толькі адно гора, жабрацтва ды калецтвы. Дык памятайце, прыдзе дзень і...

— Досыць!—з усёй сілы зароў майстар.—Досыць, бунтаўшчык! Я пакажу табе, рыжаму чорту... Марш у кантору за разьлікам... Здавай струмант.

Майстар тупаў нагамі, брыдка лаяўся, і твар яго набег крывёю. Усім здавалася, што вось зараз гэты паскудны чалавечак лопне.

Праз поўгадзіны Глыбава на заводзе ўжо ня было...

---

Якуб Колас

## Волі, волі і прастору!..

— Волі, волі і прастору!
 Прэч граніцы!
Жыве ў сэрцы плынь крыніцы,
Дух жыве—агонь дзяньніцы.

Гэй, у гору!
Волі, волі і прастору!
Не зайздрошчу вашай долі,
Багацеі!
Вы—крыўдзіцелі-зладзеі,
Вы разьбілі мне надзеі...
Дык даволі!
Не зайздрошчу вашай долі...
Як здабылі рай свой панскі?
Чым купілі?
Сэрца ваша поўна гнілі,
Бруд у кожнай вашай жыле,
Дух паганскі!..
Як здабылі рай свой панскі?
Згіне ваша тут багацьце,
Панаваньне.
І вам будзе час зьмярканьня,
Ён нясе вам біч выгнаньня
І пракляцьце.
Згіне ваша тут багацьце.
Зачынілі вы нам дзьверы,
Сьвет закрылі,
Каб ня даць разьняць нам крыльлі,
Каб ня ўніклі ў вашы былі.
Але мысьль—ня й вашай сіле.
Эх, вы, зьверы!
Мера вам—па вашай меры.

---

**Жыга**

# Вайна

*(З запісной кніжкі рабочага)*

Раніцою, калі рабочыя зьявіліся ў завод на працу, прышло дзікае паведамленьне аб вайне. Яно абхапіла рабочых, зьвязала іх рукі, выбіла з звычайнай працоўнай каляіны. Нічога не хацелася рабіць. Дарэмна завыла дынама, дарэмна закруцілася маховае кола, вальцы грымелі ў пустую. Пасы тачыльных і сьвідравальных варштатаў хлопалі на пустым ходу, ня рухаліся па заводу ваганэткі, не распраналіся рабочыя, а проста, як прышлі ў завод, разьбіліся на групкі, і ўсіх іх, а з імі і завод, скавала адна думка—мобілізацыя.

Па заводу бегаюць мэханікі, майстары, загадчыкі, бегаюць моўчкі, як быццам не прыкмячаюць нічога. Ся-

род рабочых чуваць лаянка, абурэньне, пракляцьці. Але што рабіць? Баставаць—ісьці на вуліцу, а ці падтрымаюць іншыя заводы? Раптоўнасьць, неспадзяванасьць, рознабой...

Да абеду рабочыя нічога не рабілі. Спрачаліся, шумелі, парываліся нешта зрабіць—і нічога ня выходзіла. А пасьля абеду, калі прышлі ізноў на завод, на сьценах красаваліся абвесткі: «Рабочыя такіх-та і такіх-та гадоў павінны зараз-жа атрымаць разьлік.

У адзін дзень, без усялякіх папярэджаньняў, без размоў—атрымлівай і адпраўляйся. Кавалі, сьлёсары, такары, ліцейшчыкі, маладыя, здаровыя, многія нядаўна толькі вярнуліся з салдат, некаторыя пасьпелі ўжо пажаніцца, цяпер з адчаем кідалі інструманты, забіралі свае рабочыя вопраткі, абдымаліся з таварышамі і з сьлязамі на вачох пакідалі завод. Адныя выходзілі, а тыя, што заставаліся, не маглі працаваць. Завод спыніў працу...

* * *

Увечары на краі гораду, у маленькай кватэры рабочага, сабраліся партыйныя,—бальшавікі. Што рабіць? Сілы мала. З тых, хто прысутнічаў, некаторыя павінны былі адправіцца на фронт. Працу весьці немагчыма. Усе добра ведалі, што вайна патрэбна толькі капіталістым, што гэтая бойня рабочым нічога ня дасьць.

Усе ведалі, колькі ахвяр патрабавала гэта вайна. Ведалі, але нічога не маглі зрабіць. Стыхія вайны завалодала ўсімі, і што гэта маленькая група людзей магла паставіць супроць гэтай стыхіі! Толькі агітацыю. На першы раз парашылі ўзяцца за гэту справу энэргічна і павясьці самую рашучую барацьбу. І хутка стала відаць, што гэта не дасягне мэты. Загубілі некалькіх таварышоў (іх паліцыя забрала ў турму), а стыхія вайны яшчэ павялічылася. Стала ясна, што расійскім рабочым і сялянам давядзецца выпіць крывавы кубак да дна. Завод, як той ранены, што шмат згубіў крыві, з сударгамі пачынаў працу. Замест тых, што забралі на вайну, набіралі з вёсак новых рабочых. Усіх абхапіў нейкі страшэнны клопат толькі аб сабе. Адныя баяліся, каб не папасьці на фронт, а другія толькі што дарваліся да работы, і наша агітацыя сярод іх супроць рабаўніцкай вайны ня мела посьпеху. Праўда, многія спачувалі нам, але разам з гэтым бездапаможна разводзілі рукамі. З вялікай цікавасьцю слухалі аб тым, як той ці іншы мобілізаваны пакалаціў воінскага начальніка або гарадавога і што іх усё такі пабралі, ня даўшы разьвітацца з роднымі, і адправілі на фронт.

*
* *

На краі гораду вялікую шырокую вуліцу перасякае чыгунка. З раніцы да цёмнай ночы зьбіраюцца сюды дзеці, жанчыны і рабочыя, а міма іх праз кожныя пятнаццаць хвілін праходзяць цягнікі. Няможна забыць гэтага дзікага відовішча. Вось павольна падымаецца на ўхіл цягнік. Вагоны-цяплушкі перапоўнены здаровымі людзьмі ў зялёных гімнасьцёрках. Гэтыя людзі, зьбіўшыся каля дзьвярэй вагонаў, нудна цягнуць сумную песьню.

А праз пятнаццаць хвілін на гэтым-жа месцы праходзіць другі цягнік, з коньмі, быкамі, каровамі. Жывёла, прасунуўшы галовы з вагонаў, сумна, як людзі «сьпявае». А яшчэ праз пятнаццаць хвілін ідзе цягнік з сенам, вазамі, гарматамі, аўтомобілямі, і ўсё гэта з громам хаваецца з вачэй у далячыні. Жудасна глядзець на гэткія вобразы, жудасна і несьцярпіма балюча. Людзі і быкі, быкі і людзі, аднолькава прымусам загналі іх у вагоны і аднолькава едуць яны ў бойню. Хочацца крыкнуць: «куды вы? спынецеся!» А цягнікі ідуць ды ідуць, удзень і ўночы, бесьперастанку, бы тая вада ў бяздоньне, адкуль няма надзеі на выхад, няма звароту. Ёсьць толькі забойства, і ты нічога з гэтым ня можаш зрабіць, бо ты таксама кандыдат на ўдзел быка...

*
* *

Маленькая глухая станцыя. Цягнікі набягаюць адзін на другога. Праз дзьве-тры хвіліны званок—і грымяць калёсы. Зялёныя людзі махаюць шапкамі, нешта крычаць і зьнікаюць. На станцыі стаяць сумныя, панурыя сяляне. Яны зганяюць з вачэй сваіх сьлязінкі, стаяць і глядзяць на праходзячыя міма цягнікі. Вось выскачыў з вагону салдацік. Кароткі крык: «Мама!»—«Міша!»—абдымкі... Цягнік крануўся—і салдацік застаўся на станцыі. Трымаючы пад руку матку, ён адводзіць яе ў кут вакзалу і садзяцца. Бяз слоў, моўчкі, пазіраюць яны адно другому ў вочы. Маленькая дзявачка трымае брата за рукаў і плача.

— Атрымалі тэлеграму?

— Але.

Толькі гэта і сказалі. Хвілін праз пяць падышоў пасажырскі. Салдат парываецца йсьці, а маці жахліва пазірае на сына,—званок, ён вырываецца, бяжыць ад маткі, на хаду ўскаквае ў вагон, каб нагнаць свой цягнік і таварышоў. Матка ўскрыквае: «Сыночак ты мой, што-ж я цяпер рабіць буду?» І, як мёртвая, падае на асфальт.

А ў гідкай буржуазнай газэце вялікімі літарамі было напісана:

«Вялікі расійскі народ, як волат, падняўся, кінуў плуг, узяў меч і пайшоў на абарону айчызны».

* *

Насустрач тым цягніком, што йшлі на фронт з здаровымі людзьмі,—назад варочаліся санітарныя, з раненымі, калекамі, бруднымі і абарванымі. Гэтыя раненыя апавядаюць аб непарадках на фронце, аб нямецкай тэхніцы, супроць якое немагчыма змагацца. Гэта дае нам матэрыял для агітацыі. Мы гаворым рабочым: глядзеце, што творыць буржуазія, яна зрабіла страшную мясарубку, дзе перамолваюцца людзі разам з жывёлаю, а разам з імі зьнішчаюцца тыя каштоўнасьці, якія набывалі гадамі рабочыя і сяляне Расіі. Глядзеце, як пачынаюць таўсьцець фабры-




**Ахвяры царскай імпэрыялістычнай вайны**

канты, купцы ды іншыя спэкулянты на вайсковай справе. Адзін толькі наш завод атрымаў заказ на 6 мільёнаў рублёў. Старонка сьцякае крывёю, а буржуазія ад гэтага нагаляе сала. У хуткім часе на адным падпольным партыйным сходзе было падкрэсьлена, што чад вайны праходзіць, пачынаецца прасьвятленьне мазгоў, і было пастаноўлена напружана працягваць працу.

Кожны дзень пасьля работы на заводзе мы выходзілі на чыгунку, некаторыя з нас ад'яжджалі на адну-дзьве станцыі ад гораду, і там мы кідалі ў вагоны з салдатамі нашы проклямацыі, у якіх абвяшчалася вайна вайне. Радасна было глядзець, калі гэтыя проклямацыі расхоплівалі салдаты і, згрудзіўшыся ў вагоне, пачыналі чытаць іх. Мы былі пэўны, што нашы заклікі дойдуць і на фронт да

тых змучаных у акопах людзей, і што гэтыя словы будуць для іх капелькамі праўды сярод мора хлусьні, і што гэтыя капелькі зробяць сваю справу. Было радасна наглядаць і адчуваць, што чад вайны праходзіць, пачынаецца прасьвятленьне, пачынаецца наша рэволюцыйная праца.

* * *

У лютым месяцы 1915 году (калі была ўжо трэцяя па ліку мобілізацыя) адбыўся канчатковы пералом. Вайна пашырыла фронт, вайна ўзмацнілася, і цяпер ужо стала зразумела для ўсіх, што сама па сабе яна ня скончыцца. Большасьць рабочых пачалі разумець, што трэба нешта рабіць, каб спыніць яе. І падпольны партыйны камітэт пастанавіў скарыстаць становішча і падняць рабочых на забастоўку. Эсэры і меншавікі гаварылі нам: вашы пляны ўсё роўна ня збудуцца, вы будзеце разьбіты. Няхай,—адказвалі мы,—але затое рабочы пераканаецца, што значаць пекныя словы і абяцанкі буржуазных газэт. Мы будзем патрабаваць мала, мы толькі папросім прыбаўкі платы чорнарабочым і адкрыта выкажам думку рабочых аб вайне. І калі мы заклікалі рабочых да забастоўкі, рабочыя дружна адгукнуліся на бальшавіцкі заклік. На мітынгу ў двары заводу мы зрабілі сваю справу, мы выказалі свой рабочы погляд на вайну, але нас абкружылі жандары і ўсіх тых рабочых, якія падлягалі мобілізацыі, пад штыкамі адправілі ў турму. Туды-ж даставілі і разьліковыя кніжкі, а на другі дзень уночы нас прывялі на вакзал, упіхнулі ў вагоны і павязьлі на бойню. Мы таксама апынуліся ў становішчы быкоў, але мы былі вясёлыя, бо мы ведалі, што насеньне рэволюцыі пасеяна, яно расьце, яно з кожным днём будзе ўзмацняцца, і хутка прыдзе час, калі яна ўсіх прыгнечаных вырве з кіпцюроў капіталізму.





З. Ліліна

# Чаго жадаў Ленін?

Чаго жадаў Уладзімер Ільліч? За што аддаў ён сваё жыцьцё?

Уладзімер Ільліч жадаў, каб на сьвеце ня было паноў і нявольнікаў, каб ня было багатых і бедных, каб памешчыкі ня мелі па 3.000—5.000 дзесяцін, а селянін усяго 3—5 дзесяцін зямлі. Ён не хацёў, каб памешчыкі жылі ў раскошы, нічога ня робячы, а сяляне і нават сялянскія дзеці працавалі, не разгінаючы сьпіны, і ўсё-ж такі ня мелі хлеба.

Ён не хацеў, каб усе фабрыкі і заводы належалі кучцы капіталістых, а мільёны рабочых ня мелі нічога. Зусім нічога. Ён не хацеў, каб капіталістыя карысталіся ўсім, што толькі ёсьць лепшага на сьвеце, і пры гэтым не працавалі, у той час як рабочыя, якія працуюць увесь дзень, ня могуць нават пакарміць у волю хлебам сваіх дзяцей, апрануць і абуць іх.

Ён не хацеў, каб багатыя ўціскалі беднякоў.

Ён казаў, што ўсе людзі роўныя, незалежна ад таго, у якой частцы сьвету знаходзяцца, які колер скуры маюць і на якой мове гавораць.

Ён змагаўся за тое, каб пазбавіць працоўных ад уціску. Ён гаварыў, што ўсе працоўныя—браты адзін аднаму: і маскоўцы, і яўрэі, і нэгры, і японцы, і кітайцы, і немцы, і французы, і ўсе, хто працуе. Ён імкнуўся зрабіць так, каб усе яны маглі жыць пачалавечаму і за сваю працу атрымоўвалі-б поўную плату.

Ён вымагаў, каб усе людзі былі роўныя перад законам.

Ён вымагаў, каб уся зямля, усе фабрыкі і заводы належалі тым, хто працуе. А працаваць павінны ўсе; хто не працуе, той ня мае права есьці.

Таварыш Ленін вымагаў, каб усе дзеці ўсіх рабочых і сялян вучыліся-б у школах, каб школы не будаваліся-б толькі для дзяцей багатыроў.

Уладзімер Ільліч вельмі любіў дзяцей.

Ён ведаў, што калі палепшыцца становішча працоўных—рабочых і сялян, дык тым самым палепшыцца і становішча дзяцей. Ён ведаў, што тады ўсе дзеці будуць вучыцца, усе яны будуць сытыя, абутыя, апранутыя і будуць жыць у цёплых і сьветлых кватэрах.

Уладзімер Ільліч аднаго толькі вымагаў ад дзяцей—каб яны вучыліся, добра вучыліся.

На III Зьезьдзе комсамольцаў таварыш Ленін гаварыў ім:



**Ленін трохгадовым хлопчыкам**

«Вучэцеся: вам, моладзі, прыдзецца будаваць комуністычнае грамадзянтва, у якім усе людзі будуць роўнымі, дзе ня будзе ні багатых, ні бедных, ні паноў, ні нявольнікаў.

А дзеля таго, каб збудаваць такое грамадзянства—грамадзянства комуністых, патрэбны вялікія веды. А каб атрымаць гэтыя веды, трэба шмат і добра вучыцца.

Вам, дзецям, вам, моладзі, патрэбна будзе быць і рабочымі, і сялянамі, і інжынэрамі, і агрономамі, і настаўнікамі, і дактарамі, і артыстымі, і мастакамі.

Вам трэба будзе збудаваць новы, лепшы сьвет. А дзеля гэтага патрэбна шмат, вельмі шмат ведаў».

Вось што казаў Уладзімер Ільліч Ленін нашым комсамольцам. Тое-ж самае хацеў ён сказаць і сказаў піонэрам і ўсім дзецям наогул.

Уладзімер Ільліч вельмі любіў дзяцей.

З маленькімі дзяўчынкамі ён любіў гуляць.

З хлопчыкамі ён гуляў у сьнежкі і рабіў крэпасьці з сьнегу.

Я ведаю аднаго хлопчыка, для якога ён вырэзваў прыгожыя чаўначкі з кары. Ён і гэтага хлопчыка навучыў вырэзваць і рабіць з кары бярозы гэткія чаўначкі.

Я ведаю аднаго хлопчыка, а такіх шмат, з якім Уладзімер Ільліч Ленін быў вялікім прыяцелем. А як гуляў ён з гэтым хлопчыкам! Увесь дом пераварочвалі дагары нагамі.

А калі часамі скажаш: «Уладзімер Ільліч, вельмі вы шумна гуляеце»,—ён толькі адказваў: «Не перашкаджайце нам, мы заняты, мы гуляем».

Уладзімер Ільліч Ленін ня толькі любіў гуляць з дзяцьмі. Ён клапаціўся аб іх. Калі ў нас у 1921 годзе быў голад, Уладзімер Ільліч загадаў большую частку хлеба аддаць дзецям, каб яны не галадалі.

Уладзімер Ільліч уладжваў ёлкі для дзяцей. У вёсцы, дзе жыў ён у вапошнія часы і дзе памёр, стаіць яшчэ і да гэтага часу прыбраная ёлка, якую, паводле яго просьбаў, зрабіла для дзяцей сялян жонка яго Надзежда Канстантынаўна,—яна таксама вельмі любіць дзяцей.

Ня дзіва, што і дзеці гэтак любяць Уладзімера Ільліча.

Калі Ўладзімер Ільліч памёр, плакалі дзеці ня толькі ў нашым Саюзе, але нават і на ўсім сьвеце.




**На барыкадах**

«У дзіцячай колёніі ня чутно вясёлага, жыцьцярадаснага сьмеху дзяцей. Ціха, з урачыстаю журбою, мякка плача рояль. Гукі хаўтурнага маршу льлюцца ў глыбіню душы, зьліваюцца з галасамі дзяцей. Дзеці аплакваюць Леніна, які гэтак шчыра любіў іх да апошніх хвілін свайго жыцьця.

За што-ж любяць дзеці Леніна, нават тыя дзеці, якія ніколі яго ня бачылі?

«За тое,—кажуць дзеці,—што ён навучыў нас працаваць».

«За тое, што мы цяпер у школе даведаемся ўсяе праўды, за тое, што нас там добра вучаць».

«За тое, што ён навучыў нас ня толькі чытаць кнігі, але і вучыцца самым будаваць жыцьцё».

«Ён памёр, але думкі яго засталіся ў тых кнігах, што ён напісаў, і мы па яго кнігах будзем вучыцца жыць так, як жыў ён не для сябе, а для другіх».

«Ленін наглядае за правіловасьцю».

«Ленін глядзіць, каб быў парадак».

«Ленін сказаў, каб нас прынялі ў школу і вучылі».

Вось чаму Алесь Буракоў, 9 год, вучань школы 1-й ступені, устаў а 8 гадз. раніцы, навязаў на рукаве чорна-чырвоную стужку і пашоў на станцыю сустракаць памёршага Леніна.

Ён прашоў праз вайсковыя заставы, пералазіў праз платы і ўсё-ж такі апынуўся на станцыі.

— А чаго ты йдзеш сустракаць Леніна? Ці ты ведаеш яго?

— Ведаю,—горда адказвае Алесь Буракоў.—Ён—правадыр усіх працоўных. Ён хацеў, каб была рэволюцыя на ўсім сьвеце.

Вось чаму піонэры 256-га дзіцячага дому кажуць:

«Сьпі спакойна, Уладзімер Ільліч. Мы будзем таксама бесьперастанку працаваць на карысьць рабочай клясы, як працаваў ты ўсё сваё жыцьцё».

«Мы хочам быць падобнымі на таварыша Леніна», кажуць тысячы і тысячы дзяцей.

Так, дзеці, трэба старацца, каб хоць крыху быць падобнымі на Валодзю Ульянава, які стаў Уладзімерам Ільлічом Леніным.

Уладзімер Ільліч памёр і не пасьпеў скончыць справы, якую ён пачаў. Ён не пасьпеў вызваліць працоўных усяго сьвету.

Яго справу прыдзецца давесьці да канца вам, дзеці, калі вы будзеце дарослымі.






**Лепін**

# Гэроічная барацьба

Уначы з 7 на 8 лістапада мы рушылі праз Сіваш[1]) у апошні, адважны бой з бандамі генэрала Урангеля[2]). Бой цягнуўся трэція суткі. Баі былі цяжкія і ўпартыя. Мы мелі вялікія страты. Але мы перамаглі...

Сіваш высах. Дно яго ўяўляла сабою саланчаковую катліну. Па дну мора ў гэтыя дні можна было бясьпечна прагульвацца і не баяцца, што замочыш ногі. Усё гэта прымусіла нас націснуць праз Сіваш у тыл Турэцкаму валу. Гэта задача выпала нам. Перш за ўсё нам было загадана ўначы на 8 лістапада заняць Літоўскі паўвостраў...

Пад'яжджае ка мне камандзір аднэй батарэі і ўзрушана дрыжачым голасам гаворыць:

— Таварыш камбрыг, ззаду нас Сіваш залівaецца вадою. Мора насоўваецца на нас. Мы хутка будзем адрэзаны ад сваіх таварышоў.

— Што за глупства вы гародзіце! Я сярдзіты і не задаволены тым, што камандзір батарэі спалохаўся. Я ведаю, што пры ўсходнім ветры Сіваш звычайна залівaецца вадою і абарачаецца ў мора. Сёньня-ж, мне здаецца, што гэта недарэчнасьць, бо вецер ледзь-ледзь калыша берагавы чарот, дый верыць ня хочацца, што сёньня Сіваш можа нам так перашкодзіць.

— Таварыш камбрыг, Сіваш на нас насоўваецца, ззаду нас хутка будзе мора, што рабіць?—загаласіў прыскакаўшы камандзір дывізіёну.

Паехалі на Сіваш. Сапраўды, вада насоўваецца з скорасьцю паўтары вярсты ў гадзіну. Ззаду нас, у тылу, зьяўляюцца хвалі мора.

---

[1]) Затока Азоўскага мора.

[2]) Барон Урангель, царскі генэрал, які з дапамогаю Францыі ў 1919 - 1920 г. г. сабраў белагвардзейскія банды і напаў на Савецкую Расію. У 1920 г. быў разьбіты ў Крыму і ўцёк заграніцу.

Я на момант задумаўся. Трывога ахапіла мяне. Я думаў: што-ж будзе, калі нашу чырвонаармейскую масу ахопіць паніка? Паніка ў даны момант згубіць усю справу і згубіць усіх нас. Але ў гэты час дружна, бадзёра праходзілі калёны 135 палка; я паглядзеў на чырвонаармейцаў,—на іх тварах я прачытаў адно—«уперад!» Бой пачаўся з посьпехам для нас. Дывізія праціўніка была ўжо зьбіта і адыходзіла. Усё імкнулася ўперад. Маса ўжо пераканалася ў перамозе. Думка аб паніцы мяне ўжо ня трывожыла.



**Дні Кастрычніка ў Маскве: узброеныя рабочыя, матросы і салдаты атакуюць Крэмль, дзе схаваліся белыя афіцэры**

Тры дні мы біліся ў вузкіх дэфіле [1]) паміж салёнымі вазёрамі. У часы атакі варожых позыцый мы мелі вялізарныя страты...

Праціўнік разьвіў шалёны агонь. Здавалася, што ніхто з пашоўшых у атаку ўжо ня вернецца—загіне. Здавалася, што ўсё будзе скошана. Але наша пасоўваньне ўперад ні на хвіліну не перапынялася. Пярэднія шэрагі касіліся агнём праціўніка. За імі ішлі наступныя. Ішлі не залягаючы, ня згінаючыся на дрот праціўніка, быццам-бы ўсё гэта тварылася на вучэньні. Адны падалі, вісьлі на дроце, за імі ішлі другія. Яны перабіраліся праз дрот, апіраючыся вінтоўкамі аб зямлю. Заднія ішлі праз трупы пярэдніх... На зьдзіў лёгка ўміралі людзі ў гэтыя дні. Інстынкт самазаховы, прыдушаны масавым імпэтам, прытупіўся. Ніхто ня думаў аб сьмерці. Усе неяк стыхійна імкнуліся ўперад, лезьлі на дрот і гінулі.

[1]) Павайсковаму называюць так вузкі праход на мясцовасьці, па якой нельга прайсьці.

Вось даручны. Яму знарадам адарвала левую руку, якая вісіць на кавалку скуры. Ён ані застагнаў і нават, як мне здавалася, і не заўважаў, што ён ранены. Ён ехаў на кані ўперад. Тады другі даручны пад'ехаў да раненага, узяў яго зьвіснуўшую руку, выцягнуў з кішэні ножык і адрэзаў яе ад цела. Кавалкам разарванай кашулі абматаў страшную крывавую рану. Ранены не сьпяшаўся на перавязачны пункт. Ён спакойна ехаў на кані пад градам шрапнэлі. У гэтыя дні дэзэртыраў ня было...

---

**Янка Купала**

## Ня плакаць толькі!..

Ой, многа, многа для вёскі ўбогай
Трэба ўчыніці, каб добра жыла,—
Ня плакаць толькі, ня раніць болькі,
Болькі, якую нядоля дала.
Працай ўсё зможам, новы быт зложым,
Гора затопчам сільнай нагой,
Зможам нядолю, зможам няволю,
Сьветач запалім шчасьця свайго.
Зьясьнеюць ночы, высахнуць вочы,
Зьлітыя горкай бядноты сьлязьмі;
Голад загіне, бяда пакіне.
Долю мець будзем,—эй! будзем людзьмі!

---

**З. Бядуля**

## Панскі дух

*(Быль)*

Прысады цягнуліся ад маёнтку да самай вёскі. Два шэрагі шумлівых старасьвецкіх ліп былі жывым ланцугом, які пачынаўся ад панскіх пышных палацаў і канчаўся шэрай убогай вёскай.

Такім чынам, вёска і маёнтак былі як-бы адным агромністым целам, аднэй істотай або спарышамі, якія розьніліся між сабою па выгляду і тым, што напоўнена ў іх.

Крэўнасьць паміж вёскай і маёнткам была вялікая: і маёнтак і вёска называліся Зырачанамі—насьледак ад старых паноў Зырачанскіх, род якіх цягнецца да самага патопу, гэрб якіх красаваўся пекнай разьбой ва ўсіх старых пакоях панскіх палацаў.

Панскі дух лунаў над усёй ваколіцай...

Панскі бізун і мужычая сьпіна калісьці яшчэ болей узмацоўвалі «крэўнасьць» паміж панам і мужыком. Романтычнае «калісьці» пакінула свае пасьледкі да самай рэволюцыі: лепшыя землі, лепшыя лугі і ўсе лясы засталіся пасьля паншчыны ў паноў. Мужыку прыходзілася шапкаваць перад панам і кленчыць, каб пан дазволіў яму сухастоечку вырубаць сабе на дровы або гаўяду пасьвіць на панскіх пасеках.

Крэўнасьць паміж вёскай і маёнткам была моцная. Яна выяўлялася ў кожнай драбніцы жыцьця і перадавалася з пакаленьня ў пакаленьне, ад дзядоў да ўнукаў. Перадавалася гэта «крэўнасьць» праз вялікую векавую ненавісьць паміж панам і мужыком, якая кіпела ў кожнай кроплі крыві гэтых двух родаў...

Панскі дух стварыў гэтую ненавісьць...

Шумелі старыя каравыя ліпы, углядаліся ўніз на сьляды мужычых лапцёў і панскіх лякіровак іківалі вяршалінамі, як-бы хаваючы вялікую таямніцу, чакаючы нечаканага—вызваленьня ад панскага духу.

І таемнае «нечаканае» прышло. Настала воля. Паны ўцяклі, але застаўся ў Зырачанах «панскі дух»,—як гаварылі сяляне,—асталося пачуцьцё «крэўнасьці» паміж панам і мужыком на кожным кроку, на кожнай лапінцы зямлі.

Шумелі старыя панскія ліповыя прысады, трывожна шушукаліся, чуючы нейкую захаваную небясьпеку.

Грамада зырачанскіх сялян, як няпрытомныя, ляцелі ў маёнтак. Глухі шум гнеўных галасоў палохаў ліповыя прысады, цёпканьне лапцяў па лужынах аддавалася жудасным тахтам...

Пуста стала між ліповымі прысадамі. Грозны гук мужычых і жаночых галасоў даносіўся да іх з панскіх палацаў. Трэск дзьвярэй, дзынканьне шкла, хіхат і гнеўныя крыкі насіліся адтуль, дзе луналі пекныя гэрбы паноў Зырачанскіх.

Успацелы, засопшыся, бледны, бяз шапкі сьпяшыў да маёнтку адзіны вясковы граматны чалавек, адзіны інтэлігент—фэльчар Зяблік. Сьмешна перавальваючыся з боку на бок, ён паглядаў на палацы з трывогай. Кожную хвілю яму здавалася, што во-во зараз пакажацца чырвань пажару, зараз выбухне полымя, зараз паймкнецца ўвыш чорны слуп едкага дыму.

Фэльчара праняла нейкая асаблівая жаласьць да паноў. Нібы пекны сон яго жыцьця адыходзіў разам з імі. Хоць фэльчар родам быў мужык, але ад самых малых гадоў марыў аб тым, каб стаць панам. Усё панскае было

яму дорага і міла. Жыва ўспомніў, як маладая пані надоечы вярхом на кані ўцякла ў суседні маёнтак, успомніў яе мілую кволасьць, вабную стройнасьць, спрыт амазонкі і яе тонкія ручкі, якія моцна кілзалі стаеньніка. Ня мог фэльчар мірыцца з тым, што такая ўкраса Зырачанаў ужо болей ня вернецца сюды. Ён быў пэўны, што пані вернецца назад.

Пакуль ён даляцеў да маёнтку, ужо людзі там моцна «папрацавалі». Хтосьці барабаніў рукамі па роялі, хто трымаў у руках портрэты польскіх каралёў у цяжкіх залачоных рамах, а хто калом вокны павыбіваў... На дзядзінцы былі навалены кучы вопратак, пасудзін, скураной і плюшовай мэблі, сталы, кнігі і розныя бліскучыя штучкі.

— Не чапаць адгэтуль нічога!—ахрыплымі галасамі крычалі старыя мужыкі,—ня трэба нам гэтага панскага духу!

І тая старадаўная ненавісьць мужыка да пана, выгадаваная дзядамі і прадзедамі, брызгала яскравымі снапамі з сялянскіх воч, рвалася з грудзей гарачымі хвалямі.

— Не чапаць адгэтуль нічога, а то галовы пашчапаем! Усё спалім!—крычалі старэйшыя мужыкі.

— Ды шкода нішчыць, лепей забярэм сабе!—прасіліся другія.

— Няможна, няможна! Панскі дух у іх жыве, яшчэ панамі паробіцеся.

— Кнігі, кнігі возьмем, дзяцей па іх вучыць будзем...

— Ня трэба нам панскіх кніг... Там панскі дух... Там сам д'ябал сядзіць... Усё, усё спалім, разам з палацамі!

— Шкода гэткіх пекных палацаў нішчыць...

— Усё агнём пусьцім, каб пылу і праху не засталося тут ад гэтых паганых сьцен, дзе каталі нашых дзядоў, дзе кроў нашая лілася пад панскім бізуном,—крычалі мужыкі.

Пачалася між іх лаянка—гарачая, ядраная, вясковая лаянка. Ад лаянкі перайшлі да тузганіны, ад тузганіны да кулакоў...

Так ваявалі паміж сабою мужыкі за «панскі дух». Адны шкадавалі дарма бяз толку нішчыць панскае дабро, а другія налягалі, каб і званьня не пакінуць тут ад «панскага духу».

Фэльчар Зяблік стаяў здалёку, баючыся блізка падыйсьці да «разьяраных мужыкоў», і думаў:

— Ой, уляціць ім ад пані! Ой, уляціць!

Фэльчар дрыжэў ад страху, як асінавы ліст, і ня рад быў, што сюды прышоў Ня ўдасца яму выратаваць маёнтак...

На гумне загарэлася старая драўляная пуня. Бухнуў вялікі агонь... Хтосьці абкладваў саломай старыя палацы...

Атраду чырвонаармейцаў удалося патушыць пажар, удалося ўгаварыць сялян, каб разышліся па хатах.

Цяпер Зырачанскі маёнтак лічыцца савецкім маёнткам, а ў старых пакоях нарыхтавана для вясковых дзяцей добрая школа.

Рады сяляне, што іх тады затрымалі пусьціць маёнтак агнём. Панскага духу, якога сяляне баяліся бясконца, там і ўспаміну няма.

Панскі дух выгналі адтуль дашчэнту. Ліповыя прысады і цяпер злучаюць у адно маёнтак з вёскай, але цяпер гэтая крэўнасьць складаецца ня з ненавісьці, а з шчырай любасьці, бо малазямельныя зырачанскія сяляне залажылі ў маёнтку комуну.

Духу панскага там болей ня будзе.

Фэльчар Зяблік, які пайшоў у бандыты бараніць панскі дух і паліць вясковыя хаты, недзе загінуў разам з панскім духам.

---

**Ясакар**

## На руінах-папялішчах

*(Беларусам пад панскай Польшчай)*

На руінах-папялішчах,
На крывавых ка ігрышчах
Банкетуе пан.
Кат гуляе ў нашым краі,
Нашы вёскі пратварае
У нямы курган.
Ой, няма ратаю рады
Ад ганебнай дзікай здрады,
Страціў гордасьць ён.
Не сьпявае—ціхім стаў ён,
Толькі звоняць путы з сталі,
Раздаюцца стогны.
Гэй, ачніся, люд-саколе,
Вольным птахам на раздольлі
Запалі агні.
Ты у пушчах зьбірай веча,
Ты свой гонар чалавечы
Барані!

---

З. Бядуля

# Powiedź, dzie jest twój syn?[1])

*(З жыцьця сялян Заходняй Беларусі).*

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Ужо другі дзень гэтыя словы зьвіняць у вушох старога Барташука на розныя лады. Гэтае запытаньне перакруціла, перавярнула ўсё яго жыцьцё, скрамсала на шматы тую магчымую лагоднасьць і той дабрабыт, якія так-сяк існавалі ў яго хаце, у яго вёсцы пад уладай польскай шляхты.

Маленечкі сухенькі дзядок Барташук прывык шмат да чаго, прывык асьцерагацца лішняе слова казаць, бо шляхта мела шмат вушоў: польскі настаўнік, ксёндз, поп, паліцыянт, асаднік і іншыя шпікі лавілі кожнае слова яго «бунтарскай» сям'і.

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Сын Барташука, восемнаццацігадовы Язэп, зьнік пасьля таго, як знашлі каля іхняй вёскі на полі між дзьвюх крушняў забітага польскага жандара. Жандара Янэка ведала ўся ваколіца, як дзікага ката, які ўжо не аднаго бязьвіннага селяніна адправіў на той сьвет, які зьдзекваўся над старым і малым бяз дай-прычыны, а проста меў ад гэтага вялікую прыемнасьць. Біў так сабе, абы біць: «а ну-ж што скажа?»

— Powiedź, dzie jest twój syn?

За апошнія два дні стары Барташук чуў гэтае запытаньне шмат разоў—мо' сто, мо' дзьвесьце, можа яшчэ болей. Як увалілася трое п'яных жандараў у яго хату, як пачалі бізунамі катаваць яго, старую жонку, маладую дачку, дык у вялізнай лужыне брудных польскіх лаянак хрыпелі, сьлінявілі гэтыя словы. Тры разгарачаныя рылы польскіх жандараў—кожны пасвойму біў—ці шомпалам, ці ботамі, ці бізуном, кожны на сваю манеру выплёўваў, выхраківаў гэтыя словы. Жылы на ілбу вяроўкамі пляліся, вочы п'яныя сыпалі іскры, дрыжэлі падбародкі ад дзікіх крыкаў:

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Пад плач і лямант хатніх зьвязалі вяроўкамі старога Барташука і яго дачку. Так моцна зьвязалі, ажно косьці рыпелі і хрусьцелі. Павялі іх у паліцэйскі пастарунак.

Надзвычайна лагодны летні дзень сеяў сонечныя, яскравыя зярняты на поле і лес. Над пясчанай дарогай ві-

[1]) Кажы, дзе твой сын?

селі пляцёнкамі жаўранкі. На полі дзе-ні-дзе мітусіліся людзі.

Сьлёзы ў вачох Барташука і яго дачкі высахлі, застыглі ў сухім бляску. Рукі былі закручаны за плячыма і перавязаны аднэй вяроўкай. Ісьці было нязручна; бяз вольнага размахваньня рукамі здавалася, што нясеш на нагах нейчае чужое цела. Ногі без разбору ступалі ў пяску або часам па вострых каменьчыках. Усё вакол парабілася чужым, далёкім.

І ў старога Барташука і ў яго дачкі думкі былі накіраваны ў адзін бок, каб хаця малады і гарачы Язэп ня выскачыў цяпер з лесу іх бараніць. Тады яго жандары на месцы прыстрэляць. Яны ўжо як-кольвечы перацерпяць...

Жандары час ад-часу штурхалі іх прыкладамі, білі жылістымі кулакамі па твары, ад чаго ў старога Барташука твар набух, як гнілы грыб, пасінеў, заплылі вочы.

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Стары Барташук пляваў крывёю, глытаў салёную жыжу, і незнаёмы цяжкі пах казытаў напухшыя ноздры. На ўсе дзікія катаваньні ў пастарунку ён маўчаў, сьцяўшы зубы.

Яго дачку павялі ў другі пакой, дзе рагаталі п'яныя паліцыянты. Іхні рогат то разьліваўся мэталёвымі трэлямі, то сыпаўся дробным шротам, то грыматаў разьюшаным конскім іржаньнем.

Барташук паў духам. Ён непакоіўся за дачку.

У гэты час ён меў адпачынак ад катаваньня. Ён падышоў да дзьвярэй і пачаў стукаць у іх пакалечанымі рукамі, крычаць нямым голасам:

— Людзі, ратуйце!

Крык з грудзей старога вырываўся чужы, незнаёмы. Ад свайго ўласнага крыку старому рабілася лягчэй, сьмяртэльная роспач як-бы супакойвалася. Супакойваючыся, ён пачаў адчуваць боль ва ўсім целе ад катаваньня. Нібы цяпер заўважыў самога сябе. Як білі, гаварылі, што гэта толькі «цьвяткі», а «ягадкі» яшчэ будуць. Гэтыя «цьвяткі» давалі сябе адчуваць, ныла ўсё цела.

— Людзі, ратуйце!—крычаў стары.

Нехта за дзьвярмі скрыпнуў ключом. Дзьверы ірвануліся, і стары Барташук упаў галавой якраз на грудзі бліскучага, выфранчанага жандара. Жандар адскочыў назад, зьбянтэжаны ад неспадзеўкі—і Барташук, як труп, ударыўся тварам аб яго выглянцаваныя боты.

Падскочылі яшчэ двое. Барташука за ногі завалаклі назад у пакой. І пасьля ранейшых «цьвяткоў» пачаліся «ягадкі».

— Poweidź, dzie jest twój syn?—запытаўся адзін з іх лагодным, надзіва ціхім голасам.

Барташук маўчаў і глядзеў на іх так незацікаўлена, нібы яны былі празрыстыя, нібы ён бачыў праз іх нейкую даль.

— Адумайся, псякосьць, а то жывым адгэтуль ня выйдзеш!—казаў жандар болей строгім голасам.

Барташук стаяў, як глуха-нямы.

— Мы яго пацягнем за язык!—казаў другі жандар сіпучым зьмяіным голасам. З-пад абшлагаў сваёй курткі выняў пару бліскучых шпілек... Як спакойны хірург, падышоў да Барташука, каб «пацягнуць яго за язык».

Дзікі, жудасны крык запоўніў камору, ірваўся праз вокны на двор. Барташук трапятаўся ўсім целам. Двое жандараў трымалі старога за абедзьве рукі, а трэці запускаў яму шпількі пад пазуры. З-пад чорных закаруз-лых мужыцкіх ногцяў расьціснутымі журавінамі капала кроў на яго пакрыўленыя мазалістыя пальцы.

Апрача бясслоўнага крыку болі, нічога ад старога не дабіліся. Барташука цягалі за нос, за губы, білі галавой аб сьцяну. Кінулі, як мяшок, на падлогу і бліскучымі ботамі таптали: па твары, па бакох, станавіліся ботамі на горле.

Стары стагнаў з кожным разам усё спакайней... Нібы прызвычаіўся...

Барташук забыўся, дзе ён і што з ім. Болю ўжо не адчуваў. Было такое ўражаньне, нібы гарачы дождж падае—льлецца на яго, лезе ў вочы, у рот, коціцца градам па нагах, па жываце. Вочы былі затуманены. У гэтым тумане мітусіўся яго сын Язэп, адзін, і, здаецца, не адзін, а дваццаць Язэпаў з усіх куткоў глядзелі на яго і шапталі жаласьлівым голасам:

— Тата... татачка...

Голас быў такі жаласьлівы, што самому Барташуку чагосьці жаласна стала. Ён пачаў шкадаваць самога сябе, што ня можа выбрацца з-пад такога дажджу. З вачэй падалі-сыпаліся старчыя сьлёзы.

«Тата... татачка»—кажа сын Язэп.

— Poweidź, dzie jest twój syn?—чуе ён галасы над сабой, як-бы з невядомай далячыні, аднекуль здалёку.

Постаць сына зьнікла.

Перад вачыма растуць зялёныя кругі, вырастаюць у вялізныя абручы, у скручаных баранкамі вужакаў. Коцяцца ціха па падлозе.

Вялікая роспач ахапляе Барташука.

Прапаў сын.

Якія тут добрыя людзі—занепакоіліся аб яго сыне... Яму пачынае здавацца, што сам ён, бацька, забіў яго—забіў сына роднага. Жудасьць напала на Барташука. Вочы вылезьлі на лоб. У галаве горача стала...

Барташука аблілі халоднай вадой, поўнае вядро вылілі на яго. Ён ляжаў распластаны на падлозе ў лужыне крыві і вады, дрыжучы ўсім целам.

Над ім стаялі ўспацеўшыя, разгарачаныя жандары і шапталіся паміж сабою:

— Жывуч, падла!

Як санітары, жандары паднялі Барташука з падлогі, паставілі на ногі і рупліва пачалі зрываць з яго вопраткі.

Стары тарашчыў у сьцяну крывёй аблітыя вочы і апухшымі губамі мармытаў:

— Браточкі... браточкі...

Ён гаварыў гэта не да жандараў, бо на іх не глядзеў, а як-бы да людзей усяго сьвету гаварыў.

— Ціха, хамская костка!—крыкнуў старшы жандар,—будзем біць вас, пакуль усе зробіцеся бандытамі!

Барташук стаяў голы, у сіняках на ўсім худым целе, дрыжаў і шаптаў:

— Браточкі... браточкі...

— Лажыся! — закамандаваў старшы жандар, — тут твая сьмерць будзе, калі ня хочаш казаць, дзе твой сын!

Барташук пакорліва лёг.

Яму на плечы палажылі дошку. Ён выпрастаўся, каб дошка лепш ляжала. Пачалі біць гірамі па дошцы. Нібы рамантавалі падлогу. Барабанілі ў такт:

— Раз! два! тры!

Глухі стук раздаваўся ў пакоі. Пад дошкаю корчылася акрываўленае распластанае цела. Пакрыўленыя, напухшыя ад уколаў сталёвых шпілек мужыцкія пальцы хутка скакалі па бруднай падлозе, нібы перабіралі нявідочныя клавішы музычнага інструманту.

Спачатку Барташуку здавалася, што бачыць сваю хату. Вось яе вецер-віхор разбурыў, панёс старую саломку на поле, разваліліся сьцены, і яго старая жонка сядзіць на печы, глядзіць на яго і рукі ломіць. А вось конік ліжа яго за руку гарачым і мокрым языком; ліжа і паглядае разумнымі вачыма ў самыя вочы старому.

Пасьля Барташуку здавалася, што яго кінулі ў цёмную глыбокую процьму. Ён ляціць уніз, ляціць і ляціць—мо' год, мо' сто гадоў. Ад гэтага шпаркага лёту дух захоплівае. Замест сэрца—нейкае пустое месца. Так прыкра... Хацеў-бы скарэй грукнуцца аб дно, каб косьці ў пыл рассыпаліся, каб болей нічога не адчуваць...

Яго ў другі раз аблілі вадою. Як ачнуўся, стаяла глухая поўнач. Праз жалезныя краты лез у цемру смуроднага пакою ціхі бледна-жоўты месяц.

На сьцяне люстрыўся адбітак жалезных крат—цёмныя клетачкі на дрыжучым белым абрусе месячнага зьзяньня.

Дзесьці забрахалі сабакі: адзін голас грубы, з лёгкімі дрыготамі медзі, другі—цененькі, з хрыпоткай. Стары Барташук пазнаў брэх свайго Лыскі. Задрыжэла сэрца селяніна. Гарачы ком падступіў к горлу, шчэміць, душыць...

— Што цяпер у хаце робіцца? Дзе сын? Ці пусьцілі каня на начлег? І так мала сена будзе на зіму для скаціны...

Непакоіцца. У гаспадарчых клопатах забыўся, што ня можа варухнуцца з месца, што ўсе рэбры паломаны, што ўвесь ён у крыві... Усё заслонена перад ім—Лыска кажа яму пра хату...

Стары лавіў кожны шолах вакол. За сьцяною на гародзе шастала старая бяроза (удзень яе заўважыў), нібы зладзейка кралася да яго. За дзьвярыма чуваць былі ціхія галасы са сьмешкамі, гульлівыя галасы жандараў...

Раптам...

Нехта ў поцемках уткнуў доўгае, вострае шыла ў самае, самае сэрца Барташуку. Вушы навастрыліся. Па ўсім пакалечаным, скатаваным целе праскочылі палючыя аганькі.

Працяглы, жудасны лямант з суседняга пакою праскочыў праз сьцены, узбудзіў Барташука і вохканьнем завандраваў у месячныя кроплі летняй ночы.

Гэта войкала дачка Барташука.

«Яе цяпер гвалцяць...»—пранеслася маланкай у мазгох старога.

Лямант раптам сьціх.

«Ёй заткнулі рот анучай...»—здагадаўся бацька.

«Анучай з яе парваных вопратак»...—мільганула далей думка, бо ён чуў шорах, нібы тканіна рвалася.

Можа здалося яму—ён чуў сапеньне-хрыпеньне жандара...

Стары хацеў рвануцца з месца—ня мог, вельмі аслабеў. Хацеў крыкнуць голасна, каб увесь сьвет пачуў—хрыпоты і бульканьне рваліся з яго акрываўленых губ.

«Далей не магу цярпець, скажу, дзе сын», падумаў стары. «Не, не скажу!» і самому сабе зрабіўся ён агідным

за такія думкі. «Сын павінен адамсьціць за бацьку, за сястру, за вёску»...

Барташук ляжаў у забыцьці. Лёгка было на душы. Прыемная цяплынь ахапіла ўсё цела. Толькі нейкія надакучлівыя мухі лезьлі ў ноздры, у рот, у вочы, казыталі праз меру. Мо' яму гэта здавалася?

Сьмешныя песьні сьпяваў Барташук. Усе на адзін лад. Адны і тыя самыя словы:

— Powiedź, dzie jest twój syn?— Можа гэта здавалася Барташуку?

Праз жалезныя краты ўглядаецца месяц. Цень кратаў кладзецца, нібы пляцёнка з лучын, на застыўшы скорчаны труп старога селяніна.

На дварэ зацягвае выцьцё цененькімі жаласьлівымі ноткамі калматы Лыска. У яго вачох адбіваецца колер жоўтага месяца.

---

Я. Івашын

## Голас паднявольных

*(Прысьвячаю братом прыгнечаным)*

Скована думка,
скована слова,
і стогне люд.
Усюды путы,
народ закуты,
і цемра тут.
Мы ў цемры гінем,
сьвятла ня бачым
ў сваім краю.
Калі зжывём мы
зьнявагу, зьдзекі,
нуду сваю?..
Мы тут мадзеем,
але з надзеяй
глядзім на ўсход.
Мы шчыра верым,
што будзе зьнішчан
калючы дрот.
Настане хвіля—
збаленьне прыдзе
у краі ўсім.

Байцы за волю
працягнуць рукі
        братом сваім.
Зруйнуем межы
і пераможам
        злыднёў усіх.
І сьмела пойдзем
пад сьцяг чырвоны,
        Комуны сьцяг.
І расквітнее
убраньнем працы
        наш вольны шлях...



# Як дзеці рабочых і сялян дапамагалі ў рэвалюцыйнай барацьбе



З. Ліліна

# Чаму дзеці станавіліся рэволюцыянэрамі

Чаму гэта дзеці раптам прыдумалі займацца рэволюцыяй? Рэволюцыя—справа дарослых. Няхай рабочыя ды сяляне змагаюцца і ваююць, няхай яны рэволюцыяй займаюцца.

Іх справа, як людзей дарослых, судзіць аб тым, якая ўлада лепшае: царская ці савецкая.

Дзецям-жа да гэтага няма ніякае справы.

Дзецям патрэбна вучыцца ды розуму набірацца. Ім трэба гуляць ды весяліцца. Гэта—іх справа.

Дзяцінства толькі раз у жыцьці бывае.

Прапусьціш «залатое дзяцінства» і ня вернеш яго.

Гэтак разважаюць некаторыя аб дзецях, якія ня хочуць думаць аб тым, што далёка не ва ўсіх дзяцей бывае залатое дзяцінства.

Яны ня ведаюць альбо ня хочуць ведаць аб тым, што ў дзяцей рабочых і сялян няма і ніколі ня было дзяцінства.

Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя дала ім магчымасьць і вучыцца і разьвівацца.

Але гэтага дамагліся толькі ў Расіі. У тых старонках, дзе ўлада ня ў руках рабочых і сялян, як у Савецкіх рэспубліках, а ў руках капіталістых, там усё засталася паранейшаму.

Нам хочацца расказаць і дарослым і нашым піонэрам аб тым, як жылося і жывецца дзецям у капіталістычных старонках. І тады зразумеюць усе—і дарослыя і дзеці,—чаму дзеці становяцца рэволюцыянэрамі.

З тых часоў, як на сьвеце зьявілася прыватная ўласнасьць і эксплёатацыя чужое працы, пачалася непасільная праца для дзяцей.

Яшчэ тады, калі на сьвеце ня было ні машын, ні фабрык, ні заводаў, дзеці ўжо працавалі на сваіх гаспадароў.

Працавалі яны ў рамесьнікаў на даму.



**Сто дваццаць пяць гадоў таму назад у Англіі чысьцілі коміны ня шчоткамі, а хлопчыкамі**

У XIII і XIV сталецьцях, гэта значыць 700—600 гадоў таму назад, у рамесьнікаў Францыі, Ангельшчыны і Германіі працавалі ўжо дзеці маладзей дванаццаці гадоў.

Яны былі вучнямі, г. ё. навучаліся рамяству ў працягу 7—8 гадоў. За сваю працу платы не атрымлівалі.

Працаваць павінны былі яны—па закону, выданаму Лізавэтаю, каралеваю Ангельшчыны—з 5 гадзін раніцы да 7 ці 8 гадзін вечара.

Чым далей, тым усё больш узрастае лік працуючых дзяцей.

З узьнікненьнем капіталізму дзеці працуюць ва ўсіх старонках і ва ўсіх прадпрыемствах.

Аўстрыйская царыца Мар'я Цэрэза загадала ставіць на працу па вытворчасьці карунак дзяцей 6—7 гадоў. І такіх дзяцей працавала ў Аўстрыі к канцу XVII сталецьця 10 тысяч.

У 1918 годзе ў Прусіі на прадзільных фабрыках працавалі дзеці ва ўзросьце 5—6 гадоў. Удзень яны працавалі 13 гадзін, а ў начной зьмене 11 гадзін. За сваю працу атрымлівалі яны 10 капеек у дзень.

У той-жа Прусіі працавалі 4-гадовыя дзеці на тэкстыльных фабрыках, на фабрыках іголак, бронзы, дываноў, паперы, фарфору.

У 1800 годзе, усяго 125 гадоў таму назад, у Ангельшчыне чысьцілі коміны ня шчоткамі, а хлопчыкамі.

Упусьцяць з страхі ў вузкі комін 6—7-гадовага хлопчыка. Ён праз комін улазіў у печ і сваім целам сьціраў з сьцен каміноў сажу.

Ніводзін хлопчык пры гэткай чыстцы каміноў не абыходзіўся без параненьняў і сінякоў.

А калі рабочыя пачалі патрабаваць забароны гэтай эксплёатацыі дзяцей, лёрды Ангельшчыны заявілі: «Ангельшчына згарыць, калі хлопчыкі ня будуць чысьціць каміноў».

Дзяўчынка Лізавэта Бэнтлей паступіла на ільняную фабрыку з 6 гадоў і працавала з 6 гадзін раніцы да 7 гадзін увечары.

У горнай прамысловасьці Ангельшчыны працавала 7.400 дзяцей да 13 гадоў. Працоўны дзень іх цягнуўся 14 і нават 17 гадзін у суткі.

І ў Францыі ўсяго толькі 100 гадоў таму назад 5—6-гадовыя дзеці працавалі па 14 і 15 гадзін у дзень.

У Бэльгіі ў 1886 годзе працавалі на вяровачных фабрыках дзеці 5 гадоў; у цагельным, дубільна-скураным прадпрыемствах і ў вугольных капальнях працавалі дзеці дзевяцёх гадоў.

У манастырох Бэльгіі, пад выглядам школ, утвараліся фабрыкі, у якіх працавала ў 1896 годзе 50 тысяч сірот і дзяцей бедных бацькоў ва ўзросьце ад 2 гадоў.



**У Англіі, Францыі і Германіі дзеці—разносчыкі газэт, малака, хлеба, тавараў з магазынаў—налічваюцца дзесяткамі тысяч**

За $2^1/_2$ гады працы адна дзяўчынка на гэтай фабрыцы-школе пры манастыры зарабіла 6 руб. 30 кап.

І ў Расіі справа стаяла ня лепш.

У часе прыгоннага права на фабрыках і заводах Расіі працавалі дзеці ад 6 да 12 гадоў.

У Ніжня-Тагільскім заводзе працавалі ў майстэрні дроту 10-гадовыя дзеці. У Неўянскім заводзе рабілі чашкі дзеці 7—8 гадоў.

На Алтайскіх заводах 7-гадовых хлопчыкаў запісвалі ў салдаты і пасылалі на ўсё жыцьцё працаваць на заводы.

На суконнай фабрыцы Вігеля ў Варонежы 10-гадовыя дзеці працавлі з 7 гадзін раніцы да 9 гадзін увечары.

У 1850 годзе такіх дзяцей ва ўзросьце 9—10 гадоў працавала шмат тысяч.

У 1880 годзе на адных толькі ткацкіх фабрыках Расіі працавала дзяцей да 15 год 12.197 чалавек. Працоўны дзень іх цягнуўся з 6 гадзін раніцы да 8 гадзін увечары.

Ва ўсе наступныя гады дзіцячая праца ва ўсіх капіталістычных краёх ня толькі не паменшылася, але, наадварот, яшчэ больш пашырылася.

Асабліва ўзрасла дзіцячая праца ў часы імпэрыялістычнай вайны ў 1914—1917 гадох.

У 1916 годзе дзеці Францыі ва ўзросьце дзесяцёх-дванаццаці гадоў выпаўнялі вялізарную частку палявых прац, бо іх бацькі і браты былі на вайне.

Школы Францыі апусьцелі.

Ангельскі міністр Асквіт заявіў:

«У часе вайны ня трэба асабліва строга караць за ненаведваньне школы».

І дзеці ўзросту 11—14 гадоў тысячамі пакінулі школы і пачалі выпаўняць працу дарослых мужчын толькі за хлеб.

Англічанка Піктон-Тубэрвіль, якая абсьледвала ангельскія фабрыкі ў часе вайны, пісала:

«Цяжка паверыць, каб гэтыя дзяўчынкі-працаўніцы з маленькімі касічкамі за плячыма, каб гэтыя малюткі, якія запаўняюць фабрыкі і заводы і якія працуюць 8, 10 і 12 гадзін у суткі, дасягнулі 13-гадовага ўзросту».

У Ангельшчыне, Францыі і Германіі дзеці—разносчыкі газэт, малака, хлеба, разносчыкі тавараў з магазынаў—налічваюцца дзесяткамі тысяч.

У Ленінградзе на фабрыцы б. «Неўка» на Выбарскай старане ў 1914 годзе дзяўчынак-падросткаў працавала 45% усяго ліку рабочых.

На тытунёвай фабрыцы «Гаванера» працавала 31% дзяцей, у Кеніга 30%, у друкарні «Мастацкі друк» 20% дзяцей. На заводзе «Новы Парвіайнен» у 1915 годзе на 8.000 рабочых працавала 2.876 дзяцей-падросткаў.

І ў сучасны момант працуюць у Ангельшчыне дзеці-школьнікі 10—11 гадоў на фабрыках, заводах і ў сельскай гаспадарцы. А ў Кітаі дзяцей літаральна замучваюць працаю. На пытаньне аднаго з членаў экспэдыцыі, якая зрабіла ўлетку 1925 году пералёт Масква—Кітай, ці працуюць кітайскія дзеці на фабрыках і заводах, кітайскі профэсар з гонарам адказаў: «У нас у Кітаі дзеці маладзей васьмі гадоў на фабрыках і заводах не працуюць!»

А гэта значыць, што яны з 8 гадоў ужо працуюць. Капіталістыя Расіі вельмі шырака карысталіся працаю дзяцей, бо іх праца таней працы дарослых.



**У 1916 годзе дзеці Францыі і іншых краін выпаўнялі вялізарную частку палявых прац, бо іх бацькі і браты былі на вайне**

Дзеля таго, каб папасьці на завод, дзецям павялічвалі гады.

За тры рублі поп ці прыстаў прыбаўлялі 10—11-гадоваму дзіцяці ў мэтрыцы тры гады, і тады яго прымалі на працу.

Горкая патрэба прымушала дзяцей рабочых так рана йсьці на працу. Яны і рады-б пагуляць на прывольлі, але на галодны жывот не пагуляеш і вучоба ў галаву ня пойдзе.

Вось чаму дзеці рабочых да Кастрычнікавай рэвалюцыі ня толькі ня гулялі, але і ня вучыліся.

У Маскоўскай губэрні ў часе вайны 45% няграматных падросткаў.

У Пецярбурскай губэрні на кожныя 100 падросткаў толькі 56 сяк-так чыталі і пісалі. А астатнія 44 і зусім былі няграматнымі.

Яшчэ горш стаяла справа ў Харкаўскай губэрні. Там толькі 19 чалавек з 100 падросткаў былі граматныя.

Вось як жылося і жывецца дзецям у капіталістычных краёх.

Зразумела цяпер, чаму дзеці станавіліся рэвалюцыянэрамі.

---

З. Ліліна

## „Маленькі Бунд“

У 1902 годзе, калі я атрымала пасаду настаўніцы ў адным з гарадоў «яўрэйскай мяжы аселасьці», я пазнаёмілася з гуртком дзяцей-рэвалюцыянэраў ва ўзросьце 10—14 гадоў. Усе яны былі дзеці рабочых і рамесьнікаў, дзеці яўрэйскай беднаты.

Далучыліся яны ў такім раньнім узросьце да рабочага руху дзякуючы тым надзвычайна жорсткім прасьледваньням, якія царская ўлада ўжывала супроць яўрэйскай беднаты працаўнікоў-яўрэяў.

Пры царызьме для яўрэйскай беднаты было адведзена некалькі губэрань, і толькі ў гэтых губэрнях яна мела права жыць. І то ня ў вёсках, а толькі ў гарадох.

Некалькі гарадоў, прызначаных знарок для яўрэйскай беднаты, насілі назву «мяжы яўрэйскай аселасьці».

Гарады гэтыя былі маленькія, густа заселеныя беднатою. У іх ня было ні фабрык, ні заводаў, ні школ.

Рабочым-яўрэям «мяжы яўрэйскай аселасьці» ня было дзе працаваць, а іх дзецям ня было дзе вучыцца.

Рабочыя і рамесьнікі жылі тым, што працавалі адзін на другога, але паколькі ўсе яны былі вельмі бедныя, то і працаю яны адзін другога здаволіць не маглі. Наўкола панавала непамерная беднасьць.

Паколькі яўрэям забаронена было сяліцца па вёсках, то і зямляробствам яны займацца не маглі, ім забаронена было нават купляць або арандаваць зямлю.

Дзеці працоўных яўрэяў жылі як дзікуны, бо школ у «мяжы яўрэйскай аселасьці» было мала, а ў тыя школы, якія там меліся, яўрэйскія дзеці прымаліся толькі ў ліку 3%, г. ё. на кожныя сто дзяцей хрысьціянскага вызнаньня



**Гарады былі маленькія, густа заселеныя беднатою**

ў школу прымалі толькі трое дзяцей яўрэяў, і то з заможнай сям'і.

Такому ўціску падлягалі толькі працоўныя.

Яўрэям-капіталістым царская ўлада дазваляла жыць, дзе ім хацелася, па ўсёй Расіі.

Вось чаму ўжо ў першыя гады рэволюцыйнага руху ў Расіі да пролетарыяту, які ўжо змагаўся, далучылася так многа яўрэяў, рабочых і рамесьнікаў, разам з іх дзяцьмі.

Рабочыя-яўрэі склалі рэволюцыйную організацыю— «Бунд» (саюз).

Дзеці дапамагалі гэтай рэволюцыйнай організацыі ў яе працы, у яе барацьбе.

Спачатку гэтыя дзеці-рэволюцыянэры ня мелі сваёй асобнай організацыі, але ў 1905 годзе яны склалі організацыю «Югенд-Бунд»—«Малады Бунд».

Я, як настаўніца і супрацоўніца ў бібліотэцы і чытальні гораду, хутка пераснаёмілася з найбольш граматнаю часткай насельніцтва гораду, з рэволюцыйнай моладзьдзю.

Хоць я і ня лічылася сябрам організацыі «Бунд», але мне прапанована было вясьці заняткі ў адным гуртку ра-



**Дзеці працоўных яўрэяў жылі як дзікуны, бо іх ня прымалі ў школы**

бочых. Я на гэта ахвотна дала сваю згоду, і вось тут я пазнаёмілася з дзейнасьцю юных рэволюцыянэраў.

Калі я прышла ў умоўленае месца, я застала звычайны малюнак: моладзь гуляла па бульвары пасьля працы— парамі, кучкамі і пааднаму. Сярод дарослых снавалі дзеці і падросткі.

Умовіўшыся са мною аб пачатку заняткаў, таварыш, які ішоў са мною, нешта шапнуў хлопчыку, які толькі тое рабіў, што падбягаў да нас, паказваючыся то сьпераду, то ззаду нас. Я спачатку не зьвярнула на яго ніякае ўвагі, бо падобных да яго хлопчыкаў на бульвары было шмат.

Хлопчык уважліва выслухаў таварыша, кінуў быстры, уважлівы позірк у мой бок, кіўнуў галавою і зьнік у людзях.

Праз некалькі хвілін хлопчык сказаў нешта на хаду двум праходзячым міма падросткам. Параўняўшыся з на-

мі, яны затрымаліся на мне поглядам і прайшлі далей. Яшчэ праз некалькі хвілін я ізноў убачыла таго-ж хлопчыка. Ня спыняючыся, ён шапнуў нешта праходзіўшаму міма хлопцу. Той кінуў погляд у мой бок і таксама прайшоў міма.

— У чым тут справа?—спытала я свайго спадарожніка.—Аб чым гаворыць гэты хлопчык рабочым і чаму ўглядаюцца яны ў мой твар?

Гэта твае будучыя вучні,—адказаў таварыш.— Хлопчык, па майму даручэньню, паведамляе іх аб месцы і часе заняткаў і знаёміць іх з табою, каб яны ведалі, хто з імі будзе працаваць.

— А хто-ж гэты хлопчык?

— Гэта адзін з нашых памоцнікаў, падростак-рэвалюцыянэр.

— Чым-жа могуць вам памагчы гэтыя дзеці?

— О, яны робяць нам незамянімыя паслугі! У такім гарадку, як наш, дзе ўсё, як на далоні, сьлежка з боку паліцыі за найбольш сьвядомымі рабочымі страшэнная. І калі-б нам у нашай працы не памагалі дзеці і падросткі, то мы наўрад ці маглі-б так пасьпешна вясьці нашу працу.

— Што-ж яны робяць?

— Яны—наша пошта. Праз іх мы трымаем сувязь адзін з другім. Яны разносяць і распаўсюджваюць лістоўкі, расклейваюць іх. Яны хаваюць нашы нелегальныя запіскі і брошуры.

— Прыглядзься да гуляючых падросткаў,—сказаў мне спадарожнік.—Бачыш, яны дурэюць і шумяць. А вось адзін з іх аддзяліўся ад кампаніі. Ён накіроўваецца да таго высокага рабочага. Вось ён нешта яму шапнуў ды йзноў замяшаўся у кучы гуляючых дзяцей.

— А вось глядзі на гэтага рыжага хлапчука. Бачыш, як ён уважліва ўглядаецца ў твар праходжых? Зараз ён пайшоў хутка, сачы за ім. Глядзі, што ён будзе рабіць.

Я ня спускала вачэй з хлопчыка. Бачу, ён падыходзіць да юнака, які сьпяшаецца яму насустрач, дае яму нахаду нешта ў руку і йдзе далей.

На сваёй працы я потым пераканалася, што дзеці-рэвалюцыянэры сваімі паслугамі робяць каштоўную справу.

У 1905—1906 гадох пачалі ўзьнікаць спэцыяльныя юнацкія організацыі, зрабіўшыя вялікую рэволюцыйную працу. Організацыі гэтыя існавалі ў «мяжы яўрэйскай аселасьці», на Украіне і ў Польшчы.



...І дае ему нахаду нешта ў руку і ідзе далей.

Гэтыя організацыі адрозьніваліся ад вучнёўскіх організацый, якія галоўным чынам займаліся ўтварэньнем гурткоў самаадукацыі, гэтыя-ж організацыі дзяцей рабочых вялі рэволюцыйную працу, больш усяго займаючыся пропагандай. Яны ўдзельнічалі ў дэмонстрацыях рабочых, а часам і самі організоўвалі дэмонстрацыі.

Падросткі-рэволюцыянэры Польшчы, калі правалілася організацыя рабочых, калі дарослыя рабочыя былі ўсе пераарыштаваны і сядзелі ў турмах, склалі свае ячэйкі, каб нє заглухла рэволюцыйная праца.

Члены «Маленькага Бунда» былі ў большай частцы дзеці ва ўзросьце 10—14 гадоў. Яны вялі гэроічную барацьбу з царызмам і з прадпрыемцамі.

Падвойнае прыгнечаньне цярпелі гэтыя дзеці беднаты, якім з малых гадоў даводзілася жыць продажам сваёй

працоўнай сілы. (Яны звычайна пачыналі сваё працоўнае жыцьцё ў майстэрні з 10—11-гадовага ўзросту). Цярпелі яны прыгнечаньне, як дзеці пролетараў і як дзеці яўрэяў.

Ня дзіва, што іх барацьба была перапоўнена самахвяраваньня і гэроізму.

Члены «Маленькага Бунду» ўдзельнічалі ва ўсіх дэмонстрацыях у першых шэрагах; іх першых і забівалі.

З іх шэрагаў потым вышаў не адзін рэволюцыянэр-барацьбіт за справу рабочае клясы.

У шэрагах «Маленькага Бунду» пачаў сваю рэволюцыйную дзейнасьць тав. Валадарскі, які прысьвяціў усё сваё жыцьцё справе рабочае клясы.

Хлопчыкам далучыўся ён да рэволюцыйнага руху. На рэволюцыйным пасту і загінуў ён, забіты ў 1918 годзе соцыялістым-рэволюцыянэрам.

Дзейнасьць сяброў «Маленькага Бунду» асабліва каштоўна тым, што яна праходзіла ў той час, калі рэволюцыянэры былі ў вялікай небясьпецы ад царскае ўлады. Рэволюцыйная дзейнасьць дзяцей у гэты час зьявілася верным задаткам перамогі пролетарыяту.

Хто заваюе моладзь, той заваюе будучыну!

---

**З. Ліліна**

## Сьмерць у турме

Царскі ўрад забараняў вучням вучыцца на роднай мове.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі ўсе дзеці, што жылі ў Расіі,—палякі, латышы, літоўцы, фінны, украінцы, беларусы, башкіры, зыране, татары, яўрэі,—словам, усе, на якой-бы мове яны ні гаварылі, прымушаны былі ў школе вучыцца толькі на расійскай мове.

І хаця яны нічога парасійску ня ведалі і не разумелі, што кажа вучыцель, але-ж мусілі матэматыку, фізыку, хэмію, гісторыю вывучаць на незразумелай для іх мове.

Толькі Савецкая ўлада дала свабоду кожнаму народу вучыцца і гаварыць на сваёй мове.

У горадзе Мітаве, дзе я вучылася ў школе, усё насельніцтва гэтага гораду і губэрні (былая Курляндзкая губэрня) гаварыла ці палатыску ці панямецку.

Парасійску, і то кепска, з дамешкаю нямецкіх слоў, гаварылі толькі чыноўнікі ды іх дзеці.

І вось у 1898 годзе быў выданы загад, каб усюды—па ўсіх школах і клясах—усё выкладалася парасійску.



**Жандары высачылі наш гурток і арыштавалі Вільгэльма і Робэрта**

Большую частку вучняў у Мітаве складалі латышы, якія прыяжджалі з ваколічных вёсак, і немцы—жыхары гораду.

Шмат з іх не разумелі парасійску ані слова.

А між тым, яны мусілі і лекцыі адказваць і пісаць работы парасійску.

Вучні абурыліся. Парашылі змагацца. І вось пачалі ўтварацца патайныя вучнёўскія гурткі.

У нашым гуртку былі два браты-латышы—Робэрт і Вільгэльм. Абодвы яны былі вучнямі старэйшых клясаў гімназіі.

Яны былі хлопцы сьвядомыя і актыўныя. Яны многа чыталі, дапамагалі ва ўсім сваім таварышом. У школе іх усе любілі.

Яны з запалам узяліся за організацыю вучнёўскай моладзі з мэтай протэсту супроць гвалту.



**Робэрт ня вытрымаў адзіноты, засумаваў і пакончыў з сабой. Яго знайшлі з парэзанай на руцэ вэнай.**

Усім было зразумела: ня ведаючы расійскае мовы, няможна вучыцца на гэтай мове, ды яшчэ ў старэйшых клясах.

Аб тым, што сярод вучняў расьце незадаваленьне і рыхтуецца протэст, пранюхала ўлада.

За вучнямі пачалі сачыць паліцыя і жандары.

Яны высачылі наш гурток і аднаго разу ўвесну 1899 году арыштавалі Вільгэльма і Робэрта.

У турме іх пасадзілі паасобку: па аднаму чалавеку ў камэру.

Вільгэльм трымаўся ў турме малайцом. А Робэрт ня вытрымаў адзіноты, засумаваў і пакончыў з сабой.

Яго знайшлі з парэзанай на руцэ вэнай. Ён загінуў ад страты крыві. Вэну ён парэзаў шклом. А каб здабыць шкло, ён разьбіў шыбу ў камэры.

Для нас гэта была цяжкая страта. Мы ўсе надта любілі гарачага, чулага Робэрта.

Вучнёўская моладзь Мітавы пастанавіла наладзіць пышныя хаўтуры свайму так рана загінуўшаму таварышу.

Нам дапамаглі ў гэтым работніцкія організацыі Мітавы і Рыгі.

У дзень хаўтураў ніхто з вучняў не зьявіўся ў школы.

Труну, абсыпаную кветкамі, мы несьлі на руках.

За труною ішлі ўсе вучні ў сваіх парадных формах гімназістых і рэалістых.

Мы, вучаніцы, надзелі белую жалобу.

Сьмерць Робэрта не прайшла бясьсьледна для нас, вучнёўскае моладзі.

Папершае, усе мы прымаўшые ўдзел у хаўтурах, атрымалі розныя кары.

Некаторых нават выключылі са школы.

Падругое, мы зразумелі, што за свабоду трэба ня толькі змагацца, але трэба быць гатовым і памерці за яе.



З. Ліліна

# Як змагаліся за свабоду маленькія рэвалюцыянэры

У нас пішуць многа кніг пра барацьбу дарослых рабочых і работніц, а пра барацьбу маленькіх рабочых і работніц амаль ніхто нічога ня ведае.

А між тым працоўныя дзеці ня толькі працавалі, але і змагаліся.

І барацьбітамі яны былі адважнымі, мужнымі, іх ня пужалі ні арышты, ні пабоі, ні нават сьмерць.

Маленькіх гэрояў было многа, вельмі многа. Усе яны адважна змагаліся і сьмела ўміралі за рабочую справу.

Францускі пісьменьнік Віктор Гюго даў надта добрае апісаньне жыцьця і сьмерці такога маленькага рэвалюцыянэра, Гаўроша, які памёр на барыкадах за справу рабочае клясы.

Мы ведаем шмат тысяч такіх Гаўрошаў ва ўсіх старонках сьвету.

У Францыі ў часе рэвалюцыі 1848 году ў барацьбе з буржуазіяй справа дайшла да барыкадных боек.

На барыкадах Парыжу змагаліся ня толькі дарослыя, але і падросткі.

Вось упаў, пранізаны куляю, начальнік барыкады.

На зьмену яму на барыкадзе зьяўляецца дзяўчынка.

Яна вымае з рук паміраючага сьцяг і сьмела заклікае ў бойку абаронцаў барыкады.

Куля не шкадуе маладзенькае гэроіні.

Але яна не адна, яе замяняе другая дзяўчынка, якая таксама, як і першая, умее жыць і паміраць за свабоду.

На другой барыкадзе йдзе ня меней упартая, ня меней адчайная бойка.

Кліч: «хлеба ці сьмерці!», «жыць працуючы або памерці ў бойцы!»—баявы кліч барыкадных байцоў.

Поруч з дарослымі мужчынамі і жанчынамі адважна змагаюцца дзеці.

Рабочых разьбілі. Буржуазія распачынае помсту.

Арыштоўваюць, забіваюць і расстрэльваюць ня толькі дарослых рабочых і работніц, але і дзяцей.

Паўстаньне рабочых у Францыі ў 1848 годзе было прыдушана. Але яны сваёй барацьбы ня спынілі.

Праз 20 гадоў ізноў пачынаецца барацьба. І ізноў дзеці не адстаюць ад дарослых рабочых.

Асабліва гэройскі змагаліся рабочыя падросткі Парыжу ў часе Парыскай Комуны ў 1871 годзе.

Юныя комунары ўвесь час на вуліцах Парыжу.

Яны пільнуюць гарматы Нацыянальнай гвардыі. Яны ў дазоры па начох.

Яны прымаюць удзел у вулічных бойках.

У адным месцы яны дапамагаюць рабіць барыкады.

У другім—выкопваюць каменьне з бруку і ім кідаюць у вэрсальскае войска.

У трэцім—яны зьяўляюцца разносчыкамі літаратуры, падтрымліваюць сувязь паміж вайсковымі часьцямі.

А ёсьць і такія, што, узброіўшыся стрэльбамі, ідуць адважна ў бойку.

Адважна змагалася моладзь Парыскай Комуны.

І жорстка адплаціла за гэта перамогшая буржуазія.

Звыш 13 тысяч дзяцей ва ўзросьце да 16 гадоў загінула ў часы Парыскай Комуны ў адным толькі Парыжы.

Вось малюнак суду над маладымі комунарамі 1871 году, нарысаваны францускім пісьменьнікам Лісагарэ ў «Гісторыі Парыскай Комуны».

«Перад судом прадсталі пятнаццаць дзяцей з Парыжу. Старэйшаму з іх шаснаццаць год; малодшы такі маленькі, што ён чуць відзён з-за краты, дзе стаялі дзеці; яму адзінаццаць год. Усе яны ў сініх рубашках і вайсковых шапках. Усе яны—дзеці рабочых.

— «Друэ,—пытае вайсковы, чым займаўся ваш бацька?»

— «Ён быў машыністым».

— «Чаму-ж вы не працавалі таксама, як і ён».

— «У мяне ня было працы».

— «Бувэра, чаму зрабіліся вы выхаванцам Комуны?»

— «Каб мець што есьці».

— «Канкуль, вы былі выхаванцам Комуны?»

— «Але».

— «Чаму вышлі вы з вашай сям'і?»

— «Таму што ў нас ня было хлеба».

— «Многа вы зрабілі выстралаў?»

— «Каля пяцьдзесят».

— «Леска, чаму вышлі вы ад вашай мацеры?»

— «Таму што ёй ня было чым мяне карміць».

— «Колькі вас дзяцей было?»

— «Трое».

— «Вы былі паранены?»

— «Але, куляй у галаву».

— «Ламар, і вы таксама вышлі з сям'і?»

— «Але, з прычыны голаду».

— «Дзе-ж вы знаходзіліся потым?»

— «У казарме, я хацеў запісацца ў салдаты».

Гэтых дзяцей усіх прысудзілі да пакараньня сьмерцю за тое, што яны хацелі есьці.

Змагаліся за справу рабочае клясы ня толькі дзеці Францыі, але і дзеці ўсяго сьвету.

Змагалася і рабочая моладзь Расіі.

Барацьбу сваю дзеці-рэволюцыянэры Расіі пачалі яшчэ ў часы прыгоннага права.

У 1762 годзе, больш 150 гадоў таму назад, адбыўся наступны выпадак.

На маскоўскай суконнай фабрыцы пачаліся непарадкі сярод прыгонных рабочых.

Дзеля засьмірэньня іх быў прысланы юнкер Мяшчэрскі. Ён павінен быў пакараць зачыншчыка непарадкаў, рабочага Андрэева.

Але ў гэту справу ўмяшаліся дзеці, што працавалі на фабрыцы. Яны ня толькі не далі пакараць Андрэева, але самі пабілі юнкера Мяшчэрскага.

18 падросткаў былі за гэта строга пакараны бізунамі, але і бізуны не напужалі маленькіх барацьбітоў: яны спынілі працу на фабрыцы і пачалі пакідаць фабрыку.

У 1836 годзе на заводзе Лазаравых у Пермскай губэрні быў утворан гурток служачых, настаўнікаў і вучняў горназаводзкай школы, якія змагаліся супроць прыгоннага права. У гэтым гуртку самы большы ўдзел прымалі вучні.

Пасьля вызваленьня сялян ад прыгону павялічылася лічба працуючых дзяцей у Расіі, і энэргічней стала іх рэволюцыйная барацьба.

У 1879 годзе абвясьцілі забастоўку работніцы тытунёвай фабрыкі Шапшаль у Пецярбургу. У гэтай забастоўцы прынялі ўдзел і працуючыя там дзеці.

А праз год забаставалі хлопчыкі, якія працавалі на фабрыцы Кеніг. Яны змагаліся за скарачэньне працоўнага дню, які ў іх пачынаўся а 5 гадзіне раніцы і канчаўся а 8 гадзіне ўвечары. Дзяцей падтрымалі дарослыя і яны перамаглі.

Ня раз дарослыя дапамагалі дзецям у іх барацьбе, але часта бывалі выпадкі, калі дзеці, у сваю чаргу, рабілі значную дапамогу дарослым у іх рэволюцыйнай дзейнасьці.

Дзеці прымалі жывы ўдзел у організацыі забастоўкі. На іх абавязку ляжала распаўсюджаньне літаратуры. Спачатку яны яе, няпрыкметна для паліцыі, пераносілі ў умоўленае месца, а потым ішло разьмеркаваньне яе сярод рабочых.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі, пры царскім уціску, гэта рабілася ня так проста і лёгка, як цяпер.

За кожную знойдзеную ў каго-небудзь лістоўку саджалі ў турму.

Дзеці, адпраўляючыся на працу, хавалі ў сябе пад адзеньнем лісткі. У майстэрню прыходзілі яны першымі, і жвава, як мышкі, абягалі завод і майстэрні, засоўваючы лісткі ў шуфлядкі з інструмэнтамі, раскладываючы іх па варштатах і г. д.

Найбольш спрытныя і найбольш сьмелыя траплялі засоўваць лісткі рабочым у кішэні.

Гэту цяжкую, вельмі рызыкоўную і адказную працу дзеці-рэволюцыянэры выконвалі заўсёды ўдала.

У часе сходу з заклікам да забастоўкі падросткі звычайна нясьлі падвойную працу—адны абкружалі прамоўцу, як-бы абараняючы яго, іншыя абкружалі заводзкіх шпікоў, перашкаджаючы ім слухаць і запісваць прамовы рабочых і іх прозьвішчы.

У часе самой забастоўкі ў дзяцей-рэволюцыянэраў было ня меней клопату.

Як толькі вырашалася пытаньне аб забастоўцы, пачыналася галоўная работа.

Моладзь падымала страшэнны крык—знак пачатку забастоўкі.

Потым яны прымушалі машыністых прыпыняць машыны, а непакорлівых рабочых—кідаць працу.

Тое, што часамі не ўдавалася дарослым рабочым, з посьпехам выконвалі падросткі.

Супроць іх ісьці ня мог ніводзін рабочы.

Яны, як чмялі, абступалі непаслушных у барацьбе, і ўжо яму ад іх не ўцячы.

А калі ім дабром не ўдавалася схіліць да забастоўкі таго ці іншага рабочага і нават цэлую майстэрню, яны пускалі ў ход сілу.

Да тых рабочых, якія сваім непаслушэнствам перашкаджалі забастоўцы, дзеці былі бязьлітасны.

Яны расьцягвалі яго прылады, яны кідалі ў яго шрубамі, яны, як гураган, пераварочвалі ўсё дагары нагамі ў майстэрні.

Але і поліцыя ня менш жорстка распраўлялася з рабочай моладзьдзю.

У Мацівілісе за ўзброенае паўстаньне рабочых да суду былі прыцягнуты з 92 абвінавачаных 39 чалавек моладзі, з іх двое 14 і 15 гадоў. Па суду па гэтай аднэй справе было пасаджана ў турму 14 чалавек моладзі.

**Кастусь Мароз**

# Адплата

*(Здарэньне з 1913 г.).*

У высі заліваюцца, шчабечуць птушкі, пырхаюць матылькі. Клякоча на ліпе бусел, гукаюць на яго, круцячыся, дзеці: «Бусел, бусел, вылі воду, закружыся на пагоду».

Прыгналі з пашы каровы; спакойна ў халадку жуюць яны жвачку. Сьпяць, зашыўшыся ў гразь, сьвіньні. Самы час дзіцячых гульняў, нішто іх ня турбуе, толькі часамі прывязе чый татка снапы, дык пакліча памагчы зложыць у торп, потым зноў—ці плёхайся сабе ў сажалцы, ці пячы з жоўценькага пясочку аладачкі.

Пятрусёў бацька толькі што прывёз снапы, і ён, пакінуўшы сохнуць аладачкі, завіхаўся на торпе, памагаў бацьку складаць снапы.

— Але-ж і дзянёк выдарыўся,—загаварыў бацька да малога,—ці ня зьезьдзіў-бы ты са мною зразок па снапы?

Пятрусь аж падскочыў ад радасьці, бо вельмі любіў быць «сталым», асабліва, калі ехаў за хурмана і трымаў у сваіх руках лейцы.

— Тата, а тата,—спытаў Пятрусь у бацькі, як выехалі за вёску,—чаму гэта мяне дражняць «Гілерам»?—і пры гэтым тузянуў ляйчыну, каб паказаць бацьку здольнасьць у кіраваньні, хаця «сівы» бег і добра.

— Альбо-ж я ведаю. Такая ўрода чалавека, што мусіш быць перахрышчаны. Няйначай, як таму, што валочышся, як калісь Гілер з Раманам. Вунь, бачыш камяні?—паказаў бацька ў канец вёскі:—там жылі два браты: адзін з іх, Раман, і зараз сядзіць у турме, а другога, Гілера, забілі...

— Чаму?—перапытаў борзьдзенька малы.

— Было гэта, як ты на сьвет яшчэ не радзіўся, сама што бунтаваўся народ, зямлю ад паноў адабраць хацеў. Прыехаў гэты, значыцца, Гілер з гораду, склікаў сход...

— Куды цябе немач цягне,—крыкнуў бацька на сівага, узяўшы лейцы, зьвярнуў на палоску.

Амаль усё поле было ўстаўлена параскрыванымі мэндлікамі. Сям-там расьлі вазы, маталі галовамі коні, а ў другім канцы палетка завіхаліся жнеі, блішчэлі сярпы, рассякалі паветра буйныя жмені каласоў. Завіхалася Пятрусёва матка з сястрою, але ён не пабег да іх пакаштаваць з глячка «палявое» вады, якая задавалася заўжды яму смачнейшаю ад дамашняй, хаця бралася з аднэй студні, а

застаўся класьці снапы. Нешта рупіла ўсё яму аб забойстве Гілера, і ён хутка сьпяшаўся класьці снапы.

— Цішэй трохі! Мала таго, што і самі асыпаюцца каласы, дык ты прыкончваеш...

— На, лейцы!—гукнуў бацька на Пятруся, як выехаў на дарогу.

— Татачка, дакончце пра Гілера,—з нецярплівасьці ізноў распачаў Пятрусь аб сваім.

— Што-ж табе канчаць, усё роўна нічога ты не зразумееш, малы яшчэ.

— Раскажэце, няўжо вам шкода,—прыставаў Пятрусь.

Бацька, ведаючы неадчэпнасьць малога, згадзіўся.

— Сабраліся гэта мы на сход,—пачаў ён:—а Гілер—тут як-тут. Зямлю, кажа, трэба ад паноў адабраць, саміх пазабіваць, а «Котлішчы» спаліць, каб і духу ад іх не засталося. Усе згадзіліся. Сёй-той узяў стрэльбу, а больш—з каламі. Мацей Палусін нават пляшку газы ўзяў, каб лепш гарэла... Ну-у, пашоў,—прыгукнуў бацька на сівога ды шмарגануў ляйчыною.—Толькі гэта мы пачалі з лагчынкі падымацца пад двор, як адтуль выскачылі казакі ды давай сьвяньціць чухамі.

— А хто такія казакі?—перабіў Пятрусь.

— Маскалі на конях, падобныя да вурадніка, што на тым тыдні прыяжджаў падатак сыскаваць. Можа помніш?

— Помню.

— Ну, дык вось. Хлапцы ня стрымаліся, каменьнямі засыпалі іх, Гілер раз стрэліў з рэвальвэра, за ім Іван Дзямянаў, Лістукоў Мікалай. Двое казакаў тут-жа зваліліся з коняй, а рэшта, выхапіўшы шаблі, засеклі на сьмерць Гілера ды Мікалая. Івана жывога прывезьлі дамоў, але ня выжыў. Шмат каму—ці руку, ці плячо папсавалі, а «чуха» пакаштаваў кожны. Якаў Крэняў у бярэзьніку схаваўся, знайшлі, затое хапіла з яго... У мяне таксама і па цяпер шрам на сьпіне ад шаблі.

А шкада, што не спалілі двара... Ну-у, а каб цябе!..

---

Пасьля бацькавага апавяданьня Пятруся абхінулі думкі. Здавалася яму, што спаліць двор—гэта так проста і лёгка, што ўсяму сялу тут і рабіць няма чаго. «Дурныя, думаў ён, ішлі ды яшчэ са стрэльбамі, калі-ж гэта работа аднаго чалавека... Чыркнуў запалку і—гатова». Ня раз блукала ў галаве думка: а што, каб спрабаваць. І чым больш разважаў, тым больш праконваўся, што гэта яму ня зробіць жаднае труднасьці. Якаясьці, мала зразумелая для яго, сіла цягнула яго, казала «ідзі—спалі».

Як праз сон уяўляў ён сабе:—згарыць двор, паны зьбяднеюць ды пойдуць жабраваць, як яго хрышчоны бацька Рыгор пасьля пажару ў мінулым годзе, паразыходзяцца парабкі, ня будзе каму каровы займаць і, самае важнае—аддасьць паплаўнічы халацік, які ляжыць яшчэ з вясны ў яго, бяз якога Пятрусь так мучыцца. Колькі разоў ён прасіў матку сыскаць, але яна, ня маючы поўрубля, заўжды адказвала:—Дзе палажыў, там і вазьмі.

«Вось, каб удалося»—думаў ён, і пляны адзін за адным, разам з дваром, праходзілі няяснымі вобразамі. Але калі-ж гэта зрабіць? Узяць, скажам, сьвяточны дзень, калі за яго сястра пагоніць каровы—небясьпечна, могуць угледзець. Пайсьці ноччу па дарозе каля Вялетаўскіх могілак—страшнавата неяк.

Застаецца адна пара—увечары, пакуль добра сьцямнее, можна быць на месцы.

Выбрана была субота. Увесь дзень Пятрусь быў поўны думак чаканьня.

— Вінцэсь,—зьвярнуўся ён да свайго лепшага сябрука,—пагонім дамоў, заўтра нядзеля—наядуцца.

— Наадварот,—адпіраўся той, стараючыся абгуляць у каменчыкі Ганну,—сёньня даўжэй трэба пасьвіць, каб бакі парабіліся, як круглякі.

Ніхто гнаць дамоў не згаджаўся. Пятрусь вылучыў свае каровы і пачаў падганяць патроху к выгану.

Пятрусь загнаў каровы ў хлеў, борзьдзенька скочыў на стрэху, адтуль праз дзірку на столь ды спусьціўся па драбінах у хату. Узяў у пячурцы пачак запалкаў, укінуў іх у шапку і пачаў вылазіць. Вылез ужо на страху, прысеў, каб спусьціцца на плот, а тут—на табе!—маці адчыняе весьнічкі. Што рабіць? Асьцярожна пералез на другі бок страхі, скокнуў на суседні сьвіны хлявушок і пабег. Адбегшыся да палосак, прысеў за мэндаль, аддыхаўся ды зноў пабег, бо ў галаве адно:—хутчэй, няма калі сядзець...

Сонца даўно схавалася за горку. Расьцілаўся лёгкі туман. Чародамі вярталіся жнеі; сям-там сьпяшаўся ставіць гаспадар мэндлі. Тарахцяць у нізіне кары; дваровы парабак вязе сена. А там, у сяле, ляскае бізун, гоняць дамоў быдла.

Бегае бацька, бегае й матка—Пятруся шукаюць, ніяк ня возьмуць у троп, дзе-б мог ён дзецца з каровамі.

— Пагнаў раней,—адказвалі пастушкі.
— Ня бачылі—адказвалі суседзі...

Маці абыйшла ўсіх пастухоў, схадзіла на пашу—няма.

— А каб ты скісла,—пасварыўся бацька, упускаючы ў хлеў «сівога» ды гукнуў да жонкі:—ня шукай, каровы ў хляве.

— А ці ўсе?

— Усе.

— Балазе, што ўсе. Сам халера недзе ў сад палез.

— Прывалачэцца, ліха яго ня возьме,—адказала маці ды, зьняўшы даёнку, пайшла ў хлеў...

На ўзгорку бялее панскі дом, абсаджаны дрэвамі, хлявы, а трохі з боку—вялікае, з цаглянымі шуламі гумно.

Жудасьць ахапіла Пятруся. Ціха наўкола, толькі забрэша дзе-небудзь дваровы сабака ды заіржаць коні. Сьцямнела, як сьлед, на'т зорак ня відаць.

Моцна білася сэрца, як падышоў пад стог сена, што стаяў каля дзьвярэй гумна, дастаў запалкі, а сам трасецца.

— Сту-ку, сту-ку,—заляскаў вартаўнічы ў другім канцы двара.

Пятрусь скалануўся, яшчэ больш затросься. Раптам сабраўся з сілаю, прабраў у стозе ямачку, памяў сена і шморгнуў запалку. Заскакала жоўценькае вочка на канцы запалкі і вось падносіцца да стога... Забегала полымя, затрашчаў стог, адкідаючы наўкола бляск.

Скочыў Пятрусь і, бы маланка, памчаўся, баіцца азірнуцца. Здавалася яму, што вось нехта наганяе, але дарэмна.

Пятрусь адбегся ў лагчынку, прысеў. Трапятала сэрца, але глянуўшы на горку, дзе бушаваў агонь, крычалі і бегалі людзі, усё прамінула і нават радасьць і здавальненьне абхапіла яго. Лёгкі халадок прымусіў нацягнуць шапку. Крануў галаў, але шапкі няма. Пацямнела ў вачох: яна там,—і яшчэ мацней забілася сэрца...

— Знойдуць і пазнаюць, бо хто-ж не пазнае яго з паломаным казырком шапкі. Што-ж я нарабіў! Будзе-ж мне! Заб'юць цяпер, як Гілера!—і буйныя сьлёзы сыпаліся на грудзі, і так усю дарогу плакаў, а ногі ступалі, бы скошаныя...

Спала вёска. Ніхто ня ўстаў на дапамогу, ніхто не хацеў турбаваць салодкі сон. Толькі вартаўнікі стаялі ў канцы ды любаваліся, як гарэў двор, радаваліся даўно чаканаму здарэньню.

— Вось, дзякуй яму, добры чалавек знайшоўся,—прагаварыў стары Ясь,—не спалілі кагалам, дык нехта адзін пастараўся. Добрая адплата за наш крывавы пот.

— Да чыста згарыць, высушыла,—дадаў Даніла.

Дамоў вярнуўся Пятрусь позна, і толькі ўсхліпваў, бо плакаць больш ня мог. Тым-жа ходам, што браў запалкі,

улез у хату, і ціха, ня скідаючы портак, падлез пад коўдру да бацькі ды моцна заснуў, забыўшыся аб шапцы, якая згарэла разам з дваром пана Плянтоўскага.

---

З. Ліліна

# Як дзеці дапамагалі бацьком у Лютаўскую і Кастрычнікавую рэволюцыі

Разам з дарослымі рабочымі і работніцамі, разам з сялянамі, салдатамі і матросамі прымалі яны ўдзел у зьвяржэньні царызму ў Лютаўскую рэволюцыю, у зьвяржэньні капіталізму ў Кастрычнікавую рэволюцыю.

А калі выбухнула грамадзянская вайна, калі ўзброеныя капіталістыя і паны дамагаліся вярнуць сабе ўладу, тады накіраваліся на фронт дзеці рабочых.

Іх не паслалі, а самі яны сьвядома, організавана пайшлі на фронт.

Яны ведалі за што ідуць змагацца, за што будуць паміраць. Не інтарэсы кучкі багатыроў ішлі яны бараніць, а інтарэсы рабочых і сялян, інтарэсы працоўных.

Яны йшлі паміраць за свабоду, за заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі.

*
* *

Цяжкое было становішча дзяцей рабочых да вайны. Яшчэ больш цяжкім стала яно ў часы вайны.

Калі да вайны павялічвалі гады з мэтаю прыстроіць іх на фабрыкі і заводы ў 11—12 год, то яшчэ больш узрос лік дзяцей на фабрыках і заводах у часе імпэрыялістычнай вайны.

13-14-гадовыя падросткі ня толькі кармілі сябе сваёю працай, але і сем'ям памагалі.

Асабліва цяжка было тым падросткам, у якіх бацьку альбо старэйшага брата забралі на фронт, а дома засталася матка з малымі дзяцьмі.

Трэба было клапаціцца і аб сабе, і аб матцы, і аб маленькіх братох і сёстрах.

Не да гульняў, не да забавак такому дзіцяці-працаўніку—кармільцу сям'і.

Працаваць даводзілася па 9—10 гадзін на дзень.

Прадукты ежы з кожным днём станавіліся даражэй, а заработак амаль не павышаўся.

Прыбавяць даросламу рабочаму на дарагоўлю 3—5 капеек, а падростку—капейку.

Цярпелі, цярпелі маленькія працаўнікі ды ўзбунтаваліся.

Бязьмежнаю ненавісьцю былі перапоўнены іх сэрцы да капіталістых-эксплёататараў і буржуазіі, якія распачалі крываву вайну.

Аднак, самі падросткі нічога не маглі зрабіць. Яны былі неарганізаваныя.

Але затое яны, чым толькі маглі, дапамагалі дарослым рабочым і работніцам у іх барацьбе.

Горача протэставала моладзь супроць вайны.

З захапленьнем падхапіла яна заклік—«мір хатам, вайна палацам!» і «вайну імпэрыялістычную пераробім у вайну супроць капіталістых!»

Усе яны з надзвычайным захапленьнем і рэволюцыйнасьцю вялі пасвойму агітацыю сярод салдат супроць вайны.

23 лютага на вуліцы Петраграду павыходзілі работніцы з чырвонымі сьцягамі і патрабавалі «хлеба і міру».

Падросткі тут як тут.

Яны пераконвалі салдат і казакоў, што вайна—пагібель для рабочых і сялян.

Яны вялі моцную агітацыю сярод салдат.

27 лютага салдаты далучыліся да рабочых.

З хуткасьцю маланкі распаўсюджвалі яны гэту радасную вестку па рабочых кварталах.

Ня было ніводнага больш-менш важнага здарэньня, у якім-бы рабочыя падросткі ня прымалі самы гарачы ўдзел. Яны ўдзельнічалі на мітынгах і сходах, прысутнічалі на ўсіх камісіях і пасяджэньнях.

Усюды яны знаходзілі працу, усюды яны знаходзілі адказнай працы па горла.

І пры разбраеньні палкоў справа не абышлася бяз іх. На сходах яны зьбіраліся групкамі і перашкаджалі гаварыць прамоўцам, якія заклікалі працягваць вайну да пераможнага канца.

Іншы раз яны, паразыходзіўшыся па салі сходу, такі сьвіст падымалі, што шкло ў вокнах дрыжэла.

І нічога з імі не паробіш. Разгоняць адну групку моладзі, якая зышлася ў адным канцы салі, раптам сьвіст нясецца з другога канца салі.

У дні Лютаўскае рэволюцыі моладзь узбройвалася вінтоўкамі, якія ў іх цягнуліся па зямлі і з якіх яны страляць ня ўмелі, ішла яна першая разбройваць афіцэраў, якія заселі ў Маскоўскім палку.

Пры вызваленьні арыштаваных рабочых з астрогаў, рабочыя-падросткі спрытна пералазілі праз астрожныя

парканы, першымі пралазілі да дзьвярэй камэр і горача віталі вызваляемых таварышоў.

Рабочая зьмена першая несла радасную вестку вызваляемым барацьбітом.

— «Няма больш цара!»—крычалі яны.

— «Вы вольныя!».

— «Няхай жыве свабода!».

І ізноў моладзь за дзелам.



**— Няма больш цара! — крычалі яны. — Вы вольныя! Няхай жыве свабода!..**

Яна выкрывала хаваўшыхся паліцэйскіх.

Яна здымае з стрэх дамоў кулямёты і кулямётчыкаў, якія стралялі ў рабочых.

Яна іх цягне на суд у раённыя рэволюцыйныя камітэты.

З камітэту ў камітэт, з камісіі ў камісію перадаюць у пісьмовай і вуснай форме піонэры рэволюцыі.

Шмат спраў у моладзі.

Трэба ўначы назіраць за парадкам на вуліцах.

Трэба сачыць, каб ня было рабункаў, пакраж і боек.

Трэба, каб усюды быў рэволюцыйны парадак.

Рабочая моладзь—у гарадзкой міліцыі, яна пільнуе харчовыя склады.

Пачалі організоўвацца чырвонагвардзейскія дружыны з рабочых.

Дзеці не адстаюць ад сваіх бацькоў.

Завод «Новы Парвіайнен» мобілізаваў 307 чырвонагвардзейцаў, сярод іх 63 чалавекі моладзі, пачынаючы з 15—16-гадовага ўзросту.

Завод «Новы Лесьнер» мобілізаваў 218 чырвонагвардзейцаў, сярод іх 49 падросткаў і юнакоў.

І гэтак на ўсіх фабрыках і заводах.

Бацькі і дзеці ідуць поруч на барацьбу за справу рабочае клясы.

Дзеці-рэволюцыянэры трымалі і здольна вытрымалі свой рэволюцыйны экзамен.

Рэволюцыйную практыку Лютага яны паглыбілі і пашырылі ў Вялікую Кастрычнікавую рэволюцыю.

*
* *

Усе восем месяцаў, якія прайшлі ад Лютаўскай рэволюцыі да Кастрычнікавай, былі месяцамі няўтомнай барацьбы рабочае клясы.

У ногу з рабочаю клясаю, не адступаючы ні на крок, ішлі дзеці-рэволюцыянэры.

У лютым рабочая моладзь прыняла самы дзейны ўдзел у зьвяржэньні царскай ўлады.

Пасьля Лютаўскае рэволюцыі дзеці-рэволюцыянэры організоўваюць шэраг забастовак і выступаюць на фабрыках і заводах з патрабаваньнем скарачэньня працоўнага дню і павялічэньня платы.

Прадстаўнікі іх нязьменна прысутнічаюць на сходах фабрычна-заводзкіх камітэтаў.

3-га красавіка (17 красавіка пановаму стылю) прыехаў з Швэйцарыі тав. Ленін.

Пад яго кіраўніцтвам рабочая кляса перастройвае свае шэрагі.

Організуюцца і дзеці-рэволюцыянэры.

Спачатку баязьліва і неўмела яны кіраваліся далёкім ад політыкі і політычнай барацьбы чалавекам—Швецавым, а

ў жніўні яны складаюць ужо свой Соцыялістычны саюз рабочай моладзі.

3-га ліпня дзеці-рэволюцыянэры разам са ўсім рэволюцыйным пролетарыятам ідуць да Таўрычаскага палацу—цяпер палац Урыцкага—і патрабуюць перадачы ўсёй улады Саветам.

Паміж ліпнем і кастрычнікам рабочая моладзь вяла вулічную агітацыю.

Абываталі Пецярбургу, якія галасьней за ўсіх крычалі за вайну да пабеднага канца, а сапраўды сядзеўшыя тры гады ў тылу,—усе яны запоўнілі цяпер Неўскі і Садовую.

Яны зьбіраліся кучкамі і крычалі аб тым, што Ленін—шпік, што ён і Зіноўеў атрымалі ад немцаў хабар і таму патрабуюць спыненьня вайны.

Рабочыя-падросткі парашылі павесьці вайну супроць гэтых вулічных брахуноў.

Спосаб барацьбы яны прыдумалі наступны.

Прыдуць яны на Неўскі, прыстануць да белагвардзейца, які вядзе агітацыю, і давай яго закідваць пытаньнямі.

Тав. Скарынка вось як апісвае адну з такіх падзей:

«На Неўскім нейкі краснабай з палкасьцю расказвае людзям, як Ленін прыехаў у запячатаным вагоне.

— Чаму ён ехаў праз Нямеччыну?—прастадушна спытаў я.

Агітатар-белагвардзеец не зьвярнуў увагі на маё пытаньне,—якое належала мне—хлапчуку-рабочаму. Але рабочыя і салдаты, якія тут прысутнічалі, падтрымалі мяне.

Агітатар ня мог адвільнуць і заявіў: «праз Францыю Леніна ня пускалі».

— А чаму яго ня пускалі праз Францыю?—ізноў я даў пытаньне.

— Таму, што ён быў шпік,—як і раней гаварыў белагвардзеец.

— Дайце доказы!—закрычаў я.

Але заместа доказаў натаўп белагвардзейцаў пачаў біць мяне і маіх таварышоў».

Але і жорсткая расправа ня спыніла моладзі. Падросткі разам з дарослымі рабочымі пачалі вучыцца, як абыходзіцца з вінтоўкаю.

Для іх, як і для дарослых рабочых, было зразумела, што бяз бойкі буржуазія сваёй улады рабочым не аддасьць.

З першых часоў вайсковае навучаньне адбывалася ўпотайкі, у кватэрах рабочых і на задворках.

Усё больш сьвядомымі станавіліся шырокія масы рабочых і сялян у вайсковым адзеньні, усё лепш разумелі

яны, куды вядзе іх тав. Ленін,—ішла падрыхтоўка да Кастрычніка.

Рабочыя перасталі хавацца. Яны ўжо адкрыта вывучаліся на пляцох вайсковай справе.

Складаліся вайсковыя «дзесяткі» з дзяцей рабочых.

Усім ясна было відаць, што ў апошняй бойцы прымуць удзел і стары і малады.

Наступіў вялікі Кастрычнік.

Разьнеслася вестка, што ў Зімнім палацы засеў Керанскі. Бароняць яго юнкеры і жаночы батальён—«бачкароўкі».

Да Зімняга палацу!

Усьлед за ўзброенымі рабочымі паімчаліся туды дзеці-рэвалюцыянэры.

Шмат клопатаў было ў рабочай моладзі ў дні Кастрычніка. Яны—пасыльныя, яны—веставыя.

Яны трымаюць сувязь паміж установамі і організацыямі. У дні Кастрычнікавай рэволюцыі даводзілася аднэю рукой будаваць Савецкую ўладу, а другою адбіваць ворага.

Ішлі бойкі пад Гатчынай і ў Дзецкім сяле. Частка рабочых адправілася на фронт.

А з імі і ўзброеныя дзеці-рэволюцыянэры.

Лёгка быў разьбіты і разагнаны напужаны вораг.

Але йдзе ўпартая, крывая бойка на вуліцах Масквы.

І туды, разам з дарослымі рабочымі, на дапамогу пролетарыяту Масквы, накіроўваецца рабочая моладзь.

Наступаюць немцы на Пскоў.

Уночы трывожныя гудкі на ўсіх фабрыках і заводах.

Хутка зьбіраюцца ўзброеныя рабочыя, іх жонкі і дзеці на абарону Кастрычнікавай рэволюцыі.

Рабочыя атрады адзін за другім накіроўваюцца на фронт.

А з імі дзеці-рэволюцыянэры.

Вось выстраіліся ў рад пуцілаўцы, за імі шлісельбурскія рабочыя і рабочыя сестрарэцкага заводу.

І ўсюды падросткі: сьпераду, ззаду, справа, зьлева.

А самі яны малыя, з доўгімі вінтоўкамі і ў доўгіх шынялёх.

Гэтыя дзеці ведалі, за што ідуць паміраць.

І ні ў кога не зьяўлялася думка аб тым, каб затрымаць іх і ня пусьціць на фронт.

Гэта было іх баявое хрышчэньне. Яно загартавала іх для далейшай барацьбы.

Кароткі момант зацішша пасьля Берасьцейскае згоды, і рабочая моладзь узялася за вучобу.

Організавана Цэнтральная політычная школа моладзі.

Увесь актыў Саюзу моладзі вывучае Маркса і Леніна.

Але нядоўга моладзі давялося сядзець за кнігай.

У краіне—голад. Паміраюць з голаду рабочыя і іх сем'і.

Дзеці-рэволюцыянэры адпраўляюцца ў хлебародныя губэрні, дзе паступаюць у харчовыя атрады.

Яны тлумачаць сялянам, што Кастрычнікавая рэволюцыя дала свабоду ня толькі гораду, але і вёсцы.

Кастрычнікавая рэволюцыя выгнала паноў і перадала зямлю сялянам.

Трэба падтрымаць рабочых і чырвонаармейцаў, даць хлеб тым, хто пралівае кроў за справу працоўных, за справу рабочых і сялян.

Ізноў кароткі адпачынак—і зноў бярэцца рабочая моладзь за навучаньне.

Бяз ведаў няма комунізму.

Але яшчэ не наступіў час, каб спакойна вучыцца.

Ідзе грамадзянская вайна.

З усіх бакоў нападаюць ворагі на Савецкую рэспубліку. І ўсюды дзеці адважна змагаюцца з ворагамі рэволюцыі. На фронце і ў тылу робяць яны няпрыкметную, але вялікую справу.

Рабочая моладзь паслала лепшых разьведчыкаў на чырвоны фронт.

Партызанскія атрады моладзі не давалі супакою ворагу ні ўдзень, ні ўночы.

Многа дзяцей-рэволюцыянэраў лягло на палёх боек.

Яны паміралі за вялікую справу.

Але вось наступілі больш спакойныя часы. Краіна рабочых і сялян перайшла да мірнага будаўніцтва.

Узмацняецца сельская гаспадарка. Аджывае гарадзкая прамысловасьць.

Усюды патрэбны новыя людзі, якія-б былі верныя Кастрычнікавай рэволюцыі.

Расьце Комуністычны Саюз Моладзі.

На III Зьезьдзе Комсамолу тав. Ленін даў дзецям рэволюцыі програму на многія гады.

З тых пор яны верна сьледуюць гэтай програме.

Яны вучацца.

Яны працуюць.

Яны будуюць на руінах старога буржуазнага ладу новую комуністычную грамаду.

* * *

У 1905 годзе, у часе першай рэвалюцыі ў Расіі, сяляне вялі барацьбу асобна ад гарадзкіх рабочых, але ў 1917 годзе—у Лютаўскую і Кастрычнікавую рэвалюцыю—уся рабочая і ўся сялянская Расія змагалася разам, як адзін чалавек.

Якая-ж была роля сялянскіх дзяцей у гэтай упартай барацьбе іх бацькоў?

Мы ведаем, што дзяцей прыгонных сялян пан яшчэ больш эксплёатаваў, чым дарослых.

Дзяцей пан і за людзей ня лічыў.

Ён іх прадаваў і выменьваў на сабак або на што іншае, што яму падабалася. Ён дарыў сваім дзецям і дзецям сваіх знаёмых, усё роўна, як дараць кацянят або шчанят.

Дзеці сялян з самага раньняга ўзросту пазнавалі непамерную працу, голад, пабоі і зьдзекі.

Дзяцей сялян не пасылалі ў школы і ня вучылі. Для іх і школ не будавалі. А над таленавітымі з іх проста зьдзекваліся.

Усім вядомы пакуты прыгоннага пісьменьніка Шаўчэнка або артыстага Шчэпкіна і іншых. Толькі падумаць, колькі вялікіх талентаў, самародкаў-сялян марна загінула!

Тарас Шаўчэнка, вядомы украінскі поэта, нарадзіўся ў сям'і прыгоннага селяніна. Бацькі яго былі «ўласнасьцю» пана-памешчыка Энгельгардта.

Шаўчэнка быў надзвычайна здольным і таленавітым хлапчуком. Ня гледзячы на тое, што ён надзвычайна пекна маляваў і пісаў вершы, ён лічыўся казачком у свайго пана.

Група мастакоў і літаратараў зьвярнула ўвагу на юнага Шаўчэнка. Яны пачалі прасіць пана Энгельгардта аслабаніць яго ад прыгоннай залежнасьці.

Пан адмовіўся пусьціць яго, а прапанаваў купіць Шаўчэнка ў яго за 2.500 рублёў.

Мастак Брулаў напісаў портрэт поэты Жукоўскага. Портрэт гэты быў разыгран у лётарэі, і на гэтыя грошы была куплена свабода Шаўчэнка.

І найвялікшы артысты Міхаіл Сямёнавіч Шчэпкін быў сынам прыгоннага ў пана Валькенштэйна.

Надзвычайныя здольнасьці хлопчыка, яго любоў да тэатру і яго вялікі талент артыстага дапамагалі яму скінуць прыгон.

Ня дзіва, што дзеці сялян горача жадалі свабоды і ўпарта за яе змагаліся.

Яшчэ не напісана гісторыя барацьбы сялянскіх дзяцей. Але яна, бязумоўна, будзе поўна чырвоных старонак мужнай барацьбы.

Рэволюцыя ёсьць такая-ж справа дзяцей-сялян, як і дзяцей-рабочых.

Дзеці сялян выступалі з каламі і дубінамі супроць афіцэраў, якіх пасылала царская ўлада, каб усьмірыць сялян.

На аднэй з фабрык яны абкружылі «ўсьмірыцеля»-афіцэра і пабілі яго; за гэта дорага паплаціліся яны самі і іх бацькі.

У барацьбе супроць паноў сялянскія дзеці прымаюць актыўны ўдзел і гэтым спаганяюць сваю злосьць за прыгнечаньне ўсяго сялянства.

У часы грамадзянскай вайны пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі сялянскія дзеці-рэволюцыянэры шмат дапамагалі Чырвонай арміі. Яны служылі сувязьзю паміж рэволюцыйнымі часьцямі, выконвалі адказныя даручэньні на фронце і ў тылу.

---

М. Зарэцкі

# Бацькаў сын

Увечары, як Сьцёпка ўпарадкаваў скаціну і, зморany дзённай працай, уваліўся ў сваю мізэрную хатку, маці сказала яму:

— Хоць-бы ты, сынок, да таткі даведаўся, занёс яму што колечы. Мо' галадуе тамака ў лесе?

Гаварыла старая ціхім, прытоеным голасам, быццам баялася, каб хто не падслухаў. Сьцёпка таксама ёй адказаў:

— Мамка! Змарыўся я, ног пад сабой ня чую.

А ў думках мігнула:

— Лес, нетры... могільнік па дарозе... Страшна...

Здрыгануўся міжвольна. А матка больш не настайвала. Уздыхнула цяжка, глыбока.

— Як сабе хочаш, сынок...

Колькі ціхай пакоры ў сумным матчыным голасе, колькі журбы нявыводнай!.. Ах, нашто яна так, лепей-бы сварылася, дык упяўся-б, не пашоў на наругу. А так—няма сілы, каб не пайсьці. Хоць і страшна, хоць і жудасьць хапае пры думцы аднэй...

І Сьцёпка пашоў. Адразу, нават не пачакаўшы вячэры, бо знаў, што, калі замарудзіць,—больш страху, жудасьці набярэцца.

Сьцёпка добра помніць тое месца. Там, дзе лес пераходзіць у багну, дзе пачынае пад нагамі сьлюнява цьмякаць набраклы вільгацьцю дол, там трэба шукаць маленькай вузенечкай сьцежкі. Потым па ёй сярод куп'я, карчоў—валасатых страшыдлаў, паміж чорных лужын бяздонных, пакуль не адкрыецца ўзгорак, быццам нейкая выспа сярод багны-балота. Па ўзгорку направа, у бок, да густога калматага хмызьняку. Там спыніцца, ціханька сьвіснуць...

Сьцёпку самае галоўнае—да лесу дабрацца. Там ня так страшна, бо лес свой, лес ня выдасьць. У лесе кожнае дрэва знаёмае, кожная сьцежачка. А вось пакуль да лесу... Вакол вёскі жандары польскія нікаюць, падсьцерагуць часам—крышка тады і бацьку й яму.

Бяжыць Сьцёпка краем дарогі, прыгінаецца нізенька, вострымі вочкамі бяздонную цемру сьвідруе. Ззаду, здаецца, нехта паўзе, насьцігае. Вось хапае ўжо за полы доўгай сарочкі... Уцякаць?..

Не, гэта так, толькі здаецца. А пабегчы—тады прапаў, тады ўжо не адкараскаешся ад страху.

Наперадзе загараджавае дарогу цёмная пляма. Распаўзлася абапал дарогі, берагі свае ў цемры разбавіла, зьлілася з цемрай. Гэта—могілкі...

У Сьцёпкі ня сэрца ў грудзёх, а жалезны клявец—гэтак стукае, б'ецца. Але йдзе, ня спыняецца.

Чорная пляма разгарнулася ўшыркі, увабрала яго ў сваё нутро. З бакоў заплавалі няясныя цыбатыя цені крыжоў. Здаецца, пасуваюцца, набліжаюцца да дарогі.

А гэта што?.. Быццам нейкія крокі?.. Не, гэта-ж сэрца так б'ецца. Глупства. Зараз канец, там поле, а далей і лес ужо.

Раптам паблізу хруснула нешта. Ірвануўся Сьцёпка, у нагах нэрвовыя дрыжыкі... Але стрымаўся, заспакоіў сябе:

— Глупства. Мо' птушка?

Наўмысьля ход замарудзіў. Пашоў, гледзячы проста перад сабой у кропку адну. Вось і канец. Лёгка ўздыхнуў, шпарчэй пасігаў па дарозе.

Лес раптам насунуўся вялізнай хмурай грамадой. Як уваходзіў Сьцёпка ў яго, пачуў сябе маленькім-маленькім, быццам казюлька якая. Але пасьмялеў, бо хіба-ж можа што стацца гэткаму маленькаму хлопчыку пад аховай магутнага лесу-дзядулькі!

Ішоў па лесе вобмацкам. Натыкаўся на дрэвы і, мінаючы, абымаў іх з нейкай шчырай ласкай дзіцячай.

Патаемную сьцежку ўраз адшукаў, бо ня зьлічыць нават, колькі разоў вымераў ён сваймі маленькімі крокамі гэтую дзікую мясьціну. Па сьцежцы паціху пашоў, мацаў

нагой, каб ня зьбіцца, бо троху ў бок—і капут, загрузьнеш у багне. Доўга прышлося цягнуцца. Змора валіла з ног, да зямлі прыціскала. Але йшоў, ня спыняўся.

Урэшце сьцежка вільнула раптам у бок і Сьцёпка пачуў пад нагой цьвёрды, бясьпечны грунт. Тут—направа цяпер.

Пашоў вольна, размашыста, нават галаву задраў угару. Цяпер ён не баіцца. Ані крушыначкі! Чаго-ж яму баяцца, калі тут—колькі крокаў—і свае людзі: бацька, хлопцы вясковыя... А як бацька ўзрадуецца!

Вось і хмызьняк. Сьцёпка спыніўся. Перавёў дух, каб ямчэй было сьвіснуць, бо гэта-ж самае цікавае. Вось толькі як: ці ў прыгоршчы ці ў два пальцы? Лепш у прыгоршчы, мусіць, бо яно ў яго надта спрытна выходзіць, якраз, як сава.

Сьцёпка склаў рукі, прыладзіўся.

— Фіў...

Усьміхнуўся здаволена. І сапраўды—якраз, як сава... Зараз адкажуць. Тады можна пайсьці.

Але нешта ня чутна. Што-ж гэта, няўжо не пачулі? Трэба другі раз...

Ізноў ня чуваць. Паждаў часінку, яшчэ раз сьвіснуў.

Ізноў ня чутна адказу. Няўжо ўсе паснулі? Ня можа быць, варта павінна стаяць.

І раптам страх ахапіў Сьцёпку. Зноў пачуў сябе адзінотным. Няўжо нікога няма? Няўжо пашлі куды ў іншае месца? Што-ж цяпер? Назад?..

Уявіў сабе Сьцёпка дарогу: балота, могілкі...

— Не, не пайду. Трэ' паглядзець, мо' й сапраўды паснулі.

Сьцёпка палез у кусты. Асьцярожна рассуваў мяккае веццце, часам спыняўся, прыслухваўся.

Ціха. Ані зыку, ані шолаху.

І чым далей, тым больш ахапляў Сьцёпку жудасны страх. Шчыльней туліўся ён да зямлі, віўся па ёй, як вужака.

Раптам скрозь веццце агоньчык бліснуў. Сьмялей папоўз Сьцёпка. Зноў агарнула радасьць, здаволенасьць. Праз колькі крокаў палянку ўбачыў наперадзе. Па ёй сьвет бегае цьмянымі дрыжыкамі, варушыць, карабаціць сонную траву. Гэта—ад вогнішча, што недалужна згасае сярод палянкі. І—што гэта?—вакол нікагутка. Пуста...

Сьцёпка паціху высунуўся на палянку, пільна прыслухаўся. І раптам—быццам ударыла яго што, ашаламіла. Лёг на зямлю, прытаіўся, поўны вострага палкага жаху.

Ці не здалося гэта яму? Не, во яшчэ... яшчэ... Хрыпіць нехта. Ды так-жа страшна, жудасна....

Задрыжэў Сьцёпка ўвесь. Ляжаў нярухліва, ня знаў, што рабіць. А там усё хрыпіць, усё хрыпіць...

Урэшце Сьцёпка набраўся адвагі, узьняўся паціху, пачаў уважна разглядаць палянку.

— Вунь ён!..

На ўскраю паляны цьмяны выблеск згасаючага вогнішча вызначыў цёмную фігуру. Нехта ляжыць, стогне. І больш мусіць нікога няма, адзін ён.

Сьцёпка троху счакаў і потым гукнуў палахліва:

— Дзядзечка!

І сам зьдзівіўся свайму голасу: такі слабы, ледзь чутны. Другі раз паклікаў:

— Дзядзька!

У адказ зноў пачуўся цяжкі жудасны хрып. Тады ён бліжэй падышоў, пачаў разглядаць. У твар зазірнуў. І раптам кінуўся з дзікім прарэзьлівым крыкам:

— Татачка!..

Бацька пазнаў сына. Напружыўся і загаварыў скрозь сударгавую хрыпоту:

— Сьцёпка... сыночак... гэта ты... забілі мяне... знашлі... выказаў нехта... Уцяклі каторыя... у Седлішча... так згаворана было... Ой, цяжка, баліць...

Зноў захрыпеў, застагнаў. На вуснах злавесным булькатам чорная кроў.

Сьцёпка плакаў горка, адчайна. У роспачы туліўся галавёнкай да бацькавых грудзей.

Бацька раптам заварушыўся.

— Ой... цяжка... гарыць, ой... ой...

Апошні ўздых—і выпрастаўся, змоўк. Сьцёпка перш не зразумеў, потым усё стала ясна.

— Памёр!.. Няма таткі!..

І дзіцячая крыўда агарнула болем пякучым. Сьлёзы яшчэ мацней паліліся, зьмяшаліся з бацькавай крывёй.

З гадзіну сядзеў так ля бацькі, плакаў усё. Потым устаў, азірнуўся.

Вогнішча згасла ўжо. Цемра ўсё заліла, затапіла.

У Сьцёпкі ў галаве біліся думкі. Новыя, напружаныя.

— Хто гэта? За што? За што яго татку згубілі?

Успомніў польскіх жандараў, якія ўвесь час бацьку шукалі, якія ня раз яго самога пыталі і білі. І дзіцячыя кулачкі моцна сьціснуліся ад прыліву вострага гневу.

— Гэта яны... яны забілі татку...

І разам у дзіцячай галаве стальлю прарэзалася пастанова:

— Не пайду ў вёску, ня хочу... У Седлішча, казаў, уцяклі... Пайду шукаць...

Адважна разгарнуў кусты і пасігаў у той бок, дзе, як ён знаў, было Седлішча...

. . . . . . . . . . . .

Матка чакала Сьцёпку. Усе вочы праглядзела, вушы праслухала. Горам ахінулася матчына сэрца.

Няма сынка, ня чуваць.

Няма і ня будзе. Доўга ня прыдзе, дарма што так пільна яго матка чакае.

Ня прыдзе затым, што ён бацькаў сын і будзе рабіць бацькаву справу...





Я. Івашын

## Вялікі Кастрычнік

Лунаюць скрозь чырвоныя штандары...
Нам сёньня сонечныя берагі блішчаць чалом...
Зьлілося ўсё на вуліцах буяных—
дамы, сьцягі, расквечаны працоўны люд—
ў адно чырвона-бурнае сьвятло.

Табе, табе, Кастрычнік наш Вялікі,
сягоньня мы сьпяваем сонечныя гімны;
хай ведае аб гэтым цэлы сьвет.
У бурных гарадох і ціхіх вёсках—
твой скрозь відаць чырвоны сьлед.

Парваў ты назаўсёды ланцугі прыгнёту.
Аб сьветлай волі ў сьвет шырокі
ты сьмела кінуў зычны кліч.
На дзіва дзіўнае ўсім народам
узьняў цябе вялікі наш Ільліч.

У вуснах ачуняўшага працоўнага народу
гучыць-зьвініць сімфоніяй дзівоснай
чырвоны гімн заранкавых вякоў,
і вестка аб жыцьці яскрава-творчым
ляціць маланкай навакол.

Ідуць працоўныя бязьлічнай грамадою,
ідуць да новага яскравага жыцьця,
паводкаю бурлівай іх нясецца плынь.



Яны ідуць сталёва-шчыльнаю сям'ёю
да працы творчай, як адзін...

Няхай жыве Кастрычнік наш Вялікі—
чырвоны правадыр да новага жыцьця.
Няхай зьзяе бляск яго праменны
зарой магутнай над усім сусьветам.
Няхай жыве чырвоны сьцяг...

---

В. Страгельскі
(Акцяброняк, 9-ці год)

## Мы падымем сьцяг чырвоны

Мы падымем сьцяг чырвоны
Сваёй юнаю рукой,
І наш сьцяг—узмах арліны—
Запануе над зямлёй.

Наш чырвоны сьцяг на ветры
Шчасьцем будзе ўсім блішчаць,
І дзяцей усіх народаў
У вадну сям'ю яднаць.

---

З. Ліліна

## Вясковыя дзеці—будуюць новае жыцьцё

Як толькі спынілася грамадзянская вайна, сялянская моладзь карыстаецца заваёванаю свабодаю і правам вучыцца і заводзіць новае жыцьцё.

На вялікі жаль, у нас да гэтага часу яшчэ не хапае школ для ўсіх дзяцей сялян.

Але дзеці сялян—рэволюцыйныя будаўнікі. Яны будуюць новае лепшае жыцьцё.

Сялянскія дзеці з захапленьнем вучацца і свае веды нясуць у сваю сям'ю.

Яны ўтвараюць у сялянскай сям'і новую культуру, новы быт.

Ня шляхам забастовак, а шляхам прыстасаваньня сваіх, хоць яшчэ і невялікіх, ведаў, паляпшаюць яны сельскую гаспадарку, вучаць сваіх бацькоў і сваёю рэволюцыйнасьцю ўплываюць на вёску.

Дзеці вёскі, як толькі прызвычайваюцца мець кожны свой рушнік, сваю зубную шчотачку, прывучаныя перад

ядою мыць рукі, чысьценька мыцца і праветрываць пакоі, патрабуюць таго-ж самага і ў сям'і ад бацькоў.

Мне скардзіліся сялянкі на гэта.

А я з захапленьнем глядзела на маленькіх рэволюцыянэраў-дашкольнікаў і нявыказна радавалася добрым усходам ад рэволюцыйнага насеньня.

Дашкольнікі—дзеці стойкія, вытрыманыя, яны ад сваіх рэволюцыйных правіл не адступяць, і сваю барацьбу за новую фізычную культуру з посьпехам давядуць да пераможнага канца.

І школьнікі не марнуюць часу.

І яны робяць сваю рэволюцыйную справу.

У Гдоўскім павеце дзеці сялян голасна чытаюць газэты сваім бацьком і суседзям свайго сяла.

У Троцкім павеце сялянскія дзеці выносяць сваю насьценную газэту на вуліцу, туды, дзе ў вольны час зьбіраюцца дарослыя сяляне і сялянкі.

Яны чытаюць сялянам даклады аб рэволюцыі і рэволюцыйных сьвятах. Яны змагаюцца супроць рэлігійных забабонаў.

Яны складаюць і новую сельска-гаспадарчую культурную організацыю.




**Рэдакцыя вясковай насьценнай газэты за работай**

Школа вядзе барацьбу з самагонам.

Вучні сельскіх школ Гдоўскага павету абходзяць сялянскія двары і вядуць агітацыю за ачыстку насеньня.

Яны агітуюць за шматпольную пладазьменную сыстэму ў сельскай гаспадарцы.

Сялянскія дзеці-школьнікі прачыталі ў маёй прысутнасьці каштоўны даклад аб тым, як трэба карміць кароў, каб яны давалі больш малака.

Дзеці зрабілі модэль новай кармушкі для скаціны.

У цэлым шэрагу паветаў сялянскія дзеці выпрасілі ў сваіх бацькоў градкі зямлі, і на гэтых градках яны паказваюць, як можна праводзіць новую сельска-гаспадарчую культуру.

У школах сялянскай моладзі вучні падрыхтоўваюцца да таго, каб зрабіць экономічную і культурную рэволюцыю ў вёсцы.

Расьце і мацнее Комуністычны Саюз Моладзі ў вёсцы.

З кожным месяцам пашыраецца піонэрскі рух у вёсках і сёлах.

Не адстаюць дзеці-рэволюцыянэры вёскі ад дзяцей-рэволюцыянэраў гораду.

Адна іх мэта—пабудова комуністычнае грамады.

---

**М. Зарэцкі**

## „Мы сьвяткуем дзень вызваленьня ад белых"

Раптам здалёку недзе пачулася музыка. Яна прылятала густымі кваціс тымі абрыўкамі, і гэтыя абрыўкі адкладаліся ў сэрцы нечым чароўным такім і далёкім-далёкім, як сіняе неба. Яны настойна гаварылі аб нечым, яны напаміналі нешта балюча-салодкае, даўнае.

Ён смагла лавіў гэтыя абрыўкі ўрачыстае музыкі. Ён хацеў запоўніць імі пустату, што шчымела ў нутры.

А музыка ўсё расла, усё набліжалася. Яна ўжо зьлілася ў пабедны ўрачысты гымн і плыла шырокімі, моцнымі хвалямі, адбівалася працяжлівым водгульлем у мураваных сьценах будынкаў.

І была ў гэтым гымне ўрачыстым вялікая радасьць. Такая радасьць, што расьцьвятае дзівосна-яскравым праменьнем, што захапляе, хвалюе глыбока душу агнёвым бурлівым уздымам, што распаляе тысячы сэрцаў боем адным віхурна-напружаным, што родзіць буры, родзіць пабеды. Такая радасьць была.

А ён стаяў адзінотны, пакінуты і толькі ўбіраў у сябе, смагла ўбіраў гэтыя прыгожыя гукі. Яны растаплялі сэрца яго, так як вясновае сонца камлыгі шурпатага сьнегу. І яму хацелася ціха-ціха заплакаць...

Замятушыўся народ, засноўдаўся гурмай пасьпешнай. Потым усе ў адзін бок падаліся. У сонцы яркай крывёю заірдзелі чырвоныя сьцягі. Многа сьцягаў—цэлае мора.

І перамяшалася ўсё: магутныя гукі оркестру, і песьні радасна-звонкія, і гоман народу—бурлівы, густы. Пера-

мяшалася ўсё і зьлілося ў адно—у ўсеабдымную радасьць.

Раптам нехта крануў яго за руку.

— Таварыш! У маніфэстацыю!..

Ён зьдзіўлена азірнуўся.

Якая гэта дзяўчына з такімі гарачымі вачмі? І што яна да яго?

— Ну, пойдзем, таварыш, хутчэй!..

Чаго столькі пяшчот, прывету ў яе бліскучых вачох? Чаго яна гэткай добрай, блізкай здаецца? І чаго гэта ў горле так перасела, што ня можна й слова сказаць? А сказаць... каб сказаць усё чыста... Або проста заплакаць у яе на грудзёх...

— Таварыш, пойдзем... Я знаю, вам дрэнна... У мяне тож бацьку забілі...

Яна ўзяла яго за руку і пацягнула ў народ.

Чырвоныя, ярка-чырвоныя сьцягі... Музыка, песьні, гоман бязьмежны... І сонца... Якое жаркае сонца!..

А тут, збоку, гэта дзяўчына. Яна тож пяе. У яе голас такі ўзьняты і вочы блішчаць захапленьнем... Чаго яна такая добрая? Як сястра, якую забралі, якой не засьпеў тут, у горадзе.

Яна зноў узяла яго за руку.

— А вы знаеце, якое сьвята сягоньня?

Яму сорамна прызнацца, праўду сказаць. Але ёй можна...

— Не, ня знаю.

— Мы сьвяткуем сёньня вызваленьне ад белых... ад тых, што майго бацьку забілі, што хацелі ў ланцугі нас усіх закаваць. Іх прагналі далёка-далёка, яны ня вернуцца больш...

Ага. Вось яно што... Бацьку забілі... Прагналі ўжо... Дык і ў яго-ж... Трэба сказаць, ёй сказаць, гэтай дзяўчыне...

— Слухайце! У мяне брата й сястру забралі... З сабой павялі, а мо' забілі...

Яна зірнула на яго з ласкавым спачуваньнем.

— Многа забілі. Кроў лілі, руйнавалі. Але мы перамаглі і вольнымі засталіся. Таму мы сьвяткуем і радуемся. І вы павінны радавацца разам з усімі... Вы вось зірнеце наўкола, прыслухайцеся да ўсяго гэтага і вы забудзецеся на тое... і радасьць пачуеце...

Ён прыслухаўся да ўсяго, увабраў, быццам удыхнуў у сябе ўсю ўрачыстасьць, усё захапленьне народнае. І пачуў радасьць. Яна неяк ураз захлынула яго, узьняла на сваіх бурапеністых хвалях, спаласнула нутро, вымела

змрочныя цені журбы—і зайскрылася пералівамі частымі—сьветлая і гарачая, як паўдзённы блакіт глыбокага неба.

Яму хацелася пець, але ён ня знаў слоў гэтых песень. Ён да дзяўчыны зьвярнуўся:

— Слухай, ты мне кажы словы песьні, бо я іх ня знаю. Я буду пець таксама...

І ён пеў. І голас у яго быў дзіўна-ўзьняты, а вочы блішчэлі захапленьнем...

Гарачая чырвань. Пабедная музыка. Звонкія песьні. Гоман народу—бурлівы, густы.

І над усім—агнёвае сонца.

І над усім—агнёвая радасьць...

---

Я. Івашын

## Час прышоў

Час прышоў:
вайны руіны
адбудоўвае наш край...
Гэй, рабочы з селянінам,
сьветач веды уздымай.
На шырокіх
на прасторах
хай зазьзяе ён агнём.

Мы рашуча і бадзёра
ў бойку з цемраю ідзём.
Дзе ня сьвецяць
сонцам руні,
дзе пануе ночы змрок,
наш хаўрус туды пасуне
свой рашучы, цьвёрды крок.

Быт стары
зьмяцём дазваньня,
пабудуем новы сьвет.
І пра дзівы будаваньня
скажа ўнуку сівы дзед...
Дык хутчэй,
браты, ў дарогу!
Час ня будзе нас чакаць.
У бойку з цемрай, дружна ў ногу,
змагароў чырвоных раць!

---

## Максімка бяспрытульны

Бацька сканаў ужо два гады таму назад. Маці на гэтым тыдні згарнула свае сухія рукі. Застаўся Максім, як ёсьць, сіратою. Няма да каго прыхіліцца, няма каму свайго жалю перадаць. Бедны хлапец Максім!.. Ох, як бедны!.. Хоць-бы родныя былі? Усё свае, як кажуць, людзі. Усё-б хоць вокам хто ды кінуў. А гаспадар дома, дзе жылі бацькі Максіма, казаў ужо:

— Чаго-ж ты сядзець тут будзеш?!

— Куды-ж мне ісьці адгэтуль?—адказаў Максім.

Сумна, маркотна стала хлопчыку. А ў грудзёх было горача, горача...

— Вон! куды хочаш!—накрычаў на Максіма гаспадар.

Далей-болей, і Максім апынуўся на вуліцы. На вуліцы... на голай брукаванай вуліцы, бяз хаты, без бацькоў.

Першы дзень працягаўся ён па Савецкай. А прышоў вечар, Максім забіўся неяк у кіно, ды там і застаўся.

Назаўтра агледзеўся сторож і выкінуў, як сабачку, Максіма. Але мала яшчэ, што выкінуў! Дзеркачом выскраб патыліцу, як каменьні на вуліцы.

Навокал Максіма шнуруюць тысячы людзей. Усе кудысь сьпяшаюцца, бягуць. Ніхто не загляне на гэту маленькую мурашку-дзіцянё. Часамі пападзецца Максім каму-небудзь пад ногі, пакоцяць яго, пераступяць.

Увесь змучаны, зmораны за дзень прыбіваецца ён дзенебудзь да спакойнага кутка дый начуе так.

Яду сабе здабываў Максім парознаму. Бывае дасьць хто-небудзь агрызак у рэсторане, гэтым ён і пражыве дзень. А то проста, як з рукі, сьцягне... Другой рады не дасі.

Многа было дзён і такіх, у якія жыў Максім аднэю вадою. Гора. Бяда. Сьлёзы. Малы яшчэ Максім. Нават дзесяці няма.

— Чаму яны памерлі? Чаго ім не хапала?—думаў Максім аб бацьках.

І міжвольна прыпаміналіся Максіму матчыны словы.

— Памру, сынок, і я хутка... Але не, сынок, ня бойся, я жартую...

Не пажартавала... Кашляла, кашляла і памерла. І ўсяго з кашлю памерла. З кашлю памёр і бацька. А доўга пракашляў бацька! Як зьвярнуўся з польскае турмы.

Максім, праўда, ня помніць добра таго часу, калі бацьку яго схапілі палякі. Схапілі і цэлых два гады ня было. І толькі па-залетась зьвярнуўся. Уцёк праз мяжу. Аб усім гэтым чуў толькі ад бацькі.

Яшчэ прыпамінаў Максім тую фабрыку, дзе працавалі яго бацькі. Часамі і цяпер ён забяжыць туды. Але ўсё для Максіма там пуста, глуха. Гудуць, ляпаюць, выюць, нібы ваўкі, машыны. Жыцьцё на фабрыцы зьліваецца ў адзін дзікі крык, гам. Трашчаць шасьцерні, стукаюць станкі. Нічога ня ўловіць Міксім у гэтай завірусе.

Няма тут яго таткі... Няма да каго падбегчы, пасьмяяцца, падурэць.

Толькі адзін дзядзька быў з большага знаёмы Максіму. Страшны гэты дзядзька. Запэцканы, запылены, як цыган. І Максім баяўся яго.

Аднаго разу, калі бег Максім каля варстака гэтага дзязькі, той прамовіў да яго:

— Ведаеш, хлопча, што?!

— А што, дзядзечка?—Максім застанавіўся. Падняў ён свае чорныя вочкі ўгору і весела заблiскаў імі, нібы вугольчыкамі.

— Я ўжо думаў аб табе, я ведаю, што ты сірата... Ты пойдзеш на службу?

— Куды на службу?

— Ды абы-куды, ці-ж ня ўсё роўна?

— А там есьці будуць даваць, дзядзечка?

— Зразумела, будуць,—адказаў дзядзька.

Максім толькі цяпер адчуў у сабе нейкую прыхільнасьць да гэтага дзядзькі. Моцна-моцна хацелася абняць і пацалаваць гэтага мілага дзядзьку.

*
* *

Служыць Максім у гаспадара. Гаспадар яго таргуе ірыскамі. І Максіму з першых-жа дзён далі пасаду прадаваць ірыскі.

Бегаў Максім з вуліцы на вуліцу, крычаў, лузаўся з скуры.

— Ірыскі, ірыскі!.. Па капейцы штука, па капейцы штука... Арэхавыя, арэхавыя...

Навокал рэкі людзкія льлюцца... Гром, дрыжэньне аўтомобіляў, аўтобусаў, хурманак. Але Максім ні на што не зварачае ўвагі. Ён толькі і жыве гэтымі ірыскамі. Кожнаму тоўстапузаму нэпачу заглядвае ласкава ў вочы Максім. Кожнаму перабяжыць, як заяц, дарогу.

Жыцьцё Максіма было горкае і жудаснае. Але кінуць ірыскі дый зноў цягацца па вуліцах было горш цяжка Максіму.

— Слухай, брат, адкуль ты бярэш для продажы гэтыя ірыскі?—запытаўся аднаго разу ў Максіма нейкі невядомы хлапчук.

Максім падняў з вачэй сваю вялізную кучму, агледзеў з ног да галавы незнаёмца і нешта буркнуў сабе пад нос.

— Я не пайду туды браць, мне яны ня трэба,—стаў лашчыцца да яго хлапчук. І Максім расказаў яму ўсё аб гэтых ірысках, а разам і аб сваім жыцьці.

— Ты кінь гэтыя ірыскі, няхай ён задушыцца гэтымі пяцьма капейкамі, што дае табе за дзень.

— Ідзі да нас у атрад!

— Які атрад?

— Піонэрскі. Наш атрад будзе бараніць цябе ад розных зьдзекаў і не дапусьціць у крыўду нікому.

Хутка хлапчукі разгаварыліся, хутка зразумелі адзін другога.

— Табе сама што вучыцца.

— А я думаў, што піонэры гэта таксама нанятыя, каб хадзіць з барабанам па вуліцы, і каб весялей было.

— Так, я пайду... А хлеб у атрадзе будзе?—усхапіўся Максім.

— Знойдзем. У дзіцячы дом паможам залічыцца табе.

Весела й радасна стала на сэрцы ў Максіма. Новае сьветлае жыцьцё малявалася перад яго вачыма наперадзе. А галоўнае—гэта тое, што Максім будзе вучыцца. Ня будзе бегаць па 15 гадзін у дзень і крычаць:

— Ірыскі, ірыскі!..

Холад, мароз, сьцюжа, а ты бегай.

— Добра, пойдзем. Памажэце мне сваім атрадам!— радасна выклікаў Максім.

Сябры ўзяліся пад рукі і пашлі.

---

**М. Зарэцкі**

# Ганула

Шэрая вёска. Цёмныя людзі. Цьмяная рэчка жыцьця.

І да вольнасьці, і пасьля вольнасьці тое самае. Праца сялянская—цяглая, ламучая, пот вёдрамі выганяе, як самагонку. А адпачынак—нуда. Цягнецца, што кісель. Тухлы.

У нядзелю, калі на места не падасіся, дык што-ж: сядзіш, гамоніш, гамоніш, потым спаць забурышся. Нудна...

Бабы язык іточаць. Дурныя, вядома. І працаваць любяць. Калі ня рукамі, дык языком. Мяліцамі трэпяцца. А перабяруць—усіх чысьценька! А навыдумляюць—дзіву дасіся, лопнеш ад сьмеху.

А часамі бабы сплятуцца. Мужчыны далучацца, злосныя ад нуды. Тады бойка. Тады ў паветры замітусяцца:

валасы, хусткі, спадніцы, бароды, вусы. Тады цікава і весела.

Дзеці... Во дзеці добра жывуць. Цьвітуць, пузаны. Ім няма нуды. І працы няма. Балазе ім: за птушкамі, напрыклад, шарапацца дарасламу неяк сорамна, хоць і ў нядзелю, ім што—пашоў ды пашоў. А ўцеха якая! Ізноў-жа табаку ў дзеда Лявона цягаць—дарасламу што, а малому—хлебам яго не кармі, толькі дай магчымасьць жменьку стырыць. Адным словам—«хвацка».

Вось якая вёска Будынкі. Звычайная? Вядома. Але гэта раней. А цяпер—ого, што цяпер...

Восень была. На гародах пажоўклых, счарнеўшых—бабы працавалі. Гануля ў цёткі Арыны за кавалак хлеба гародніну з чорнай зямлі калупала.

І вось тады прыехала тая, з гораду. Худая, вочы гарэць ліхаманкавым бляскам. Гаварыла грубаватым, глыбокім голасам.



**Кабета з гораду запэўняла, што баба з мужчынам роўная**

Пачала баб зьбіраць. Сьмеху было! Бабы адна адну пад бок штурхалі. Міргалі з усьмешкай.

— А бач! На баб мода пайшла. Во табе. Цяпер мы ў сілу ўвойдзем, людзей сваіх пад уладу возьмем.

Сьмяяліся. І на сходцы таксама. Не маглі бяз сьмеху слухаць, як кабета з гораду запэўняла, што баба з мужчынам роўная.

— Паненачка! А я-ж касіць ня ўмею. І мой таксама дужэйшы за мяне. Ня я яго б'ю, а ён мяне лупцуе.

Тая тлумачыла, а бабы ізноў рагаталі, у бокі ўзяўшыся.

А Гануля не сьмяялася. Яна развучылася сьмяяцца. Часам толькі вусны крывіла жаласна, пакутна. Сьмяяцца не магла, бо на вусны пячатка была накладзена. Моцная пячатка гора.

Яна слухала ўважна. І, як тая казала пра долю гаротную бабскую, у яе мінулае варушылася ў сэрцы. Паўставала, злучалася ў адзін малюнак чорны, сьлязьмі падступала да горла, вымагала нейкай надзеі, нейкай уцехі. Думку напружаную, палкую раджала, думку аб будучыне.

Пасьля сходкі, калі бабы гурмай, лапочучы, павалілі з хаты, яна нясьмела падсунулася да гарадзкой.

— Паненка! А ці ёсьць якое паляпшэньне?

Ціха спыталася, баючыся, каб хто не пачуў. Тая зірнула з цікавасьцю.

— А што, цяжка жывецца?

— Ой, цяжка, галубачка. Нічога ня маю, за кавалак хлеба хаджу на падзёншчыну. А часамі—зусім няма чаго есьці. Дзіцёнак малы.

— Удава?

— Не, не ўдава. Я... так-сабе... дзеўка...

— А... Хату маеш?

— Ня маю, родненькая. Была ў нас хатка старэнькая, дык, як матуля памёрла, яна брату дасталася. А ён прагнаў мяне пасьля таго... Жыву цяпер, дзе прыдзецца, куды пусьцяць.

Гарадзкая доўга з Гануляй гаманіла. Тлумачыла ёй, малявала абразы пекныя, прыгожыя, захапляючыя. Шляхі адчыняла ў Ганулінам розуме—шырокія, гладкія, квяцістыя.

Пасьля кніжак дала пачытаць і паехала.

Гануля троху пісьменная была. Кніжкі чытала ноччу пры лучыне. Удзень хоць-бы і быў час—нельга, засьмяюць. І то трохі кпілі: «грамацейкай» празвалі.

І пачало ў Ганулі нешта расквітаць у сярэдзіне. Сярод чорнай беспрасьветнасьці пачалі мігаць ружовыя праменьні надзеі. Часамі сьмяялася Ганулька. Нявыразная радасьць дух уздымала.

— А мо' што і будзе? Хоць-бы пад старасьць дажыць...

Пад вясну яшчэ з гораду тая прыехала. Бабы ізноў усьміхаліся, жартавалі. А Гануля, як роднай, узрадавалася.

Цяпер гарадзкая проста падышла. І, як пачала гаварыць аб жыцьцёвым, магчымым, бабы сур'ёзнасьцю трохі

працяліся. Слухалі з палахлівасьцю, з нейкай апаскай, недаверлівасьцю.

Гарадзкая ясьлі адчыніць захацела. Дзіўная... Чаго ёй прысьпела? Што ёй за наўда: ну, жывуць бабы і жывуць, як спрадвеку жылі.

Нялюба бабам, што жыцьцё іх кратаюць ды варушаць, ды пераглядаюць з усіх бакоў. Прывыклі ў запеччы...

І гвалтам узьняліся...

— Як-жа! Аддадзём мы сваіх дзяцей невядома каму. Каб згубілі!..

Гарадзкая—рады ня дасьць, што з бабамі рабіць. Але Гануля тады ўзялася. Як пачала гаварыць, дык голас дрыжэў: гэтак абурылася.

— Дурныя вы, бабы. Самі ня ведаеце, чаго баіцёся. Кожнай-жа дзеці ў абузу ўлетку. Ды тут-жа просты рахунак. Заместа таго, каб кожнай дзяўчыну трымаць ля дзяцей,—зьнесьці іх у вадно месца ды даручыць аднэй бабе—няхай з імі водзіцца.

Ой, як спрачаліся бабы. Не раўнуючы—быццам іх у пятлю хто цягнуў. Але ўрэшце ўсё-ж падаліся. Перш адна да розуму прышла:

— Пастойце, бабкі! А можа гэта і ўпраўды рахуба? Во Гануля... яна пры месцы, вандруе з хаты ў хату... няхай забаўляе дзяцей.

Іншыя далучыліся. Толькі самыя ўпартыя на сваім стаялі.

— А хто-ж гэта пусьціць да сябе ў хату гэтае пекла? Каму гэта люба?

— Па чарзе можна. Тыдзень у ваднэй хаце, другі—у другой.

Дагаварыліся. Гарадзкая, здаволеная, паехала. На разьвітаньні моцна пацiснула Ганулiну руку.

— Во вам пачатак і ёсьць. Адно паляпшэньне ўжо бачым. Працуйце тут.

А Гануля сьвяткавала ў душы. Радасьцю дзіўнай гарэла.

Надышло лета. Жаркае, потнае. На гародах, у полі мурашкамі людзі запоўзалі. У напружанай сьпякоце смага павісла. Душнай зморай на людзей перакінулася. Занылі працоўныя плечы. Цяжка...

Ганулі таксама—хоць разарвіся. У цеснай хацёнцы—пузатымі клёцкамі поўзаюць. Гвалтуюць ува весь шырокі дзіцячы рот. Сапраўднае пекла. Сьвежы чалавек звар'яцее, калі зойдзе ў хату.

Але Ганулі нішто. Рупная, рухавая, яна ўва ўсе бакі. Аднаго пакарміць, другога ўняць, трэцяга закалыхаць. Усюды спраўляецца.

Сама аж цьвіце. Быццам тое даўнейшае вярнулася. Нават памаладзела, папрыгажэла.

У вадну з душна-лянівых, санлівых нядзель Ганулю баб вясковых сабрала. Бабскую сходку. Каля акрайнае хаты, на мяккай зялёненькай траўцы, паселі ў гурток. Гануля—у сяродку.

І вось што сказала бабам Гануля:

— Ведаеце, бабачкі, што я надумалася. З дзяцьмі карагодзіцца—малая гэта для мяне праца. З гэтым і дзяўчына якая справіцца. А калі дзьве, дык і казаць няма чаго. Пад маім наглядам яны абыйдуцца з вашым насеньнем. А я тымчасам іншай-бы працай займалася. Вам-жа цяпер, цётачкі, вопраткі памыць няма часу. Вось-бы я і мыла патроху. Усё вам дапамога, ад пільнай працы не адрываліся-б...

Бабы згадзіліся. Толькі падзякавалі Ганулі. Да дзяцей двух дзяўчынак прыставілі, а Гануля вопраткі сялянскія мыць пачала. А калі многа зьбіралася, цяжка было,—па чарзе пасабляць прыходзілі.

Усе паважаць сталі Ганулю. Нават мужчыны, што калісь кпілі з яе, «грамацейкай», жартуючы, звалі, цяпер іначай да яе абарачваліся. Калі ўбачыць каторы, што кніжку часам Гануля чытае, дык, замест сьмеху,—павага, сур'ёзнасьць на твары зьявіцца. Падыйдзе ды аб сур'ёзных «палітычных» рэчах пагаворыць.

Увосень у сельскі савет Ганулю выбралі. Во было гутарак! А бабы! Усе насы ўзьнялі на добрую пядзю. Козырам захадзілі.

— Во, цяпер наша панства. Канечна, наша. Што яны, мужчыны, пхе!..

Мужчыны моўчкі ў вусы ўсьміхаліся. А часам кідалі няўважна.

— Што-ж. І бабы ня ўсе бабы. Часамі і разумныя бываюць... Хоць і рэдка, трэба сказаць...

А то яшчэ:

— Што-ж. Ёй вальней, часу хопіць. Гаспадаркі ня мае, ня зьвязана нічым.

І Гануля пачала справамі заварачваць. Загад які—фурманкі альбо падатак які—зараз сходку ці па хатах пойдзе.

Гаспадары моршчацца, плююць у бок.

— А бадай цябе! Абабралі бабу на бяду сабе. Усюды яна круціць сваёй спадніцай... У, я цябе, кудлатая...

А потым разам з Гануляй сьмяюцца і загад выконваюць.

Ахвотна слухалі Ганулю, дарма што баба. Слухалі, бо знaлі, што яна ўсё добра разрахуе—што каму, нікога не пакрыўдзіць.

А ўзімку, як вальней стала селяніну, як пайшлі зімовыя вечары—доўгія, нудна-цягучыя,—тады Гануля іншай працай занялася.

У Лявона, у досыць раскошнай хаце чытальню адчынілі. Лявон ахвотна дазволіў. Вясёлы дзядзька! Любіць, калі ў хаце народ таўчэцца.

У чытальні—газэты, кніжкі сякія-такія. Кожны вечар—народ. Гануля газэты чытае сялянам, тлумачыць усё чыста, што сама ведае, чула.

І моладзь тут трэцца. Хлапчукі, дзяўчаты—яны, вядома, больш жартуюць, дурэюць, каханьнем практыкуюцца. Але часам, як надакучыць гарэзваць, і яны лезуць за стол.

— Старшыніха, дай газэтку!

— Старшыніха, дай кніжку цікавую...

А дзядзька Лявон важна зазначае скрозь піпку:

— Якая табе старшыніха... Камісар! Во як, дурань зялёны!..

А на «ражство» што было, як Рыгораў Мікола прыехаў!

Мікола ў горадзе вучыцца. Як прыехаў, сабраў хлопцаў, дзяўчат ды і кажа:

— Давайце спэктакль паставім!

Ну, дык што-ж... і паставілі. Ды яшчэ як! На ўсю акругу загрымела. У сьвірні, дзе спэктакль ставілі, ад людзкога натоўпу замалым сьцены не праламаліся.

Гануля таксама іграла на сцэне. Што-ж, што старая трохі... Абы дух малады! Яшчэ як ролю «Альжбеты» выканала—проста любата!..

Дык во, як было. А пад вясну зьмянілася.

Нешта раз Гануля паперку атрымала. Пісалася.

«Ганне Ахрэмчыкавай. N-скі павятовы аддзел па працы сярод кабет запрашае Вас да пастаяннае працы ў названым аддзеле. Аб згодзе паведаміце».

Гануля без канца чытала, перачытвала паперку. З усіх бакоў яе аглядала. І верыла і ня верыла. А сэрцабыццам клявец па касе, цюк-цюк-цюк!..

Дужа ўзрадвалася Гануля. Перад вачмі шырокія, раскошныя, прывабныя прасьцягі разьвярнуліся.

Праца. Вялікая праца. Шмат работы, карыснай, цікавай. І ўсё дзеля сваёй пакрыўджанай гаротнай сястры.

Толькі шкода было Ганулі пакідаць сваю вёску. Родная вёска. Радзілася тут, узрасла, узгадавалася. Тут першае шчасьце, дзявочае шчасьце пазнала, тут і пакутвала

Але гэта-ж ня ў дальны сьвет... Пэўна, ня раз прыдзецца сюды прыяжджаць, даведвацца.

І Гануля, вядома, паехала.

Дык во якой стала Гануля!..

---

З. Бядуля

## Тры крыжыкі

Гэта былі ня звычайныя «сьвятыя» крыжы, якія мы бачым на могілках або ў царкве, ці на абразох.

Гэта былі тры маленькія, нязграбныя крыжыкі, пісаныя на паперы мазалістай, каравай рукой Янкі Гарбача.

Тры палачкі ўдоўж і тры ўпапярок.

Янка Гарбач так заўсёды падпісваецца.

Тры крыжыкі складаюць усю яго пісьменнасьць і навуку.

Такія яго крыжыкі добра ведала даўнейшая воласьць.

Такія крыжыкі ставіць ён на паперках і ў цяперашнім сельсавеце.

І, здаецца, крыжыкі гэткія самыя, як і ў іншых няпісьменных сялян, але Янка іх заўсёды пазнае хоць паміж соткі такіх-жа, напісаных не яго рукой.

Ён іх пазнае так, як пазнае сваю касу, пугу ці свой воз паміж іншымі такімі-ж прыладамі гаспадаркі.

Ён іх пазнае так, як чалавек пазнае сваю авечку ў вялікім стадзе чужых авечак альбо бабу сваю на кірмашы сярод вялікай грамады баб у такіх-жа, як у яго жонкі, хустках.

А на першы погляд здаецца, што ніякай розьніцы няма паміж крыжыкамі Янкі Гарбача і такімі-ж грамзоламі іншых няпісьменных сялян.

Але гэта толькі здаецца.

Янка Гарбач ведае свае крыжыкі, як сваё імя. Шмат поту яны яму каштуюць кожны раз, як прыходзіцца яму падпісвацца.

Янка сапе сабе ў бараду, вочы пільна наставіць у паперу, цэліцца доўга-доўга і пачынае выводзіць крыжыкі, нібы будыніну будуе.

Як сахою па ральлі, водзіць ён пяром на паперы. Доўга майструе, пакуль стануць крыжыкі ў радочку—адзін за адным, як жывюханькія. Нібы тры камарыкі, адзін меншы за другога.

Янка ўкладае ў гэту пісаніну ўсю сваю кемнасьць, усю істоту, усе думкі і настроі, якімі ён перапоўнены ў той час.

Праўда, кожны раз крыжыкі выходзяць у яго паінакшаму, у залежнасьці ад яго настрою, але ён іх ведае. Таўшчыня і даўжыня палачак гэтых, крыжыкаў заўсёды напамінаюць яму аб тым, пры якіх варунках ён іх пісаў, калі пісаў, што тады думаў, ці ён быў тады вясёлы ці смутны.

Гэта ўсё Янка пазнае па крыжыках, паводлуг іх ліній, паводлуг таемных прыкмет, вядомых толькі яму.

Пісьменныя людзі ставяць пры гэтых крыжыках яго імя і прозьвішча. Так даецца тлумачэньне да іх, каб у канцэлярыі ведалі, што гэтыя крыжыкі азначаюць «Янка Гарбач».

Янка вельмі гардзіцца тлумачэньнем пісьменных: жартачкі—ён так мудра піша, што тлумачэньне патрабуецца. У Янкі тады зьяўляецца на твары выраз надзвычайна вучонага чалавека...

Янка Гарбач бывае на ўсіх сходах, усюды выступае з прамовамі і на ўсіх рэзолюцыях—аб коопэратыве, аб школе, аб пераходзе на шматпольле—мітусяцца яго тры крыжыкі.

Ставіць свой подпіс крыжыкамі для яго хоць і цяжкая праца, але ён гэта вельмі любіць. Вугалем на сьцяне іх крэмзае, зімой па сьнезе кійком малюе. А калі часам задумаецца, дык пальцам перад сабой у паветры іх пачынае выводзіць, нібы па ўспацеўшай шыбіне.

— Кінь, нарэшце, свой магільнік!—казаў аднаго разу настаўнік іхняй вёскі Янку Гарбачу.

— Які магільнік?!—зьдзівіўся Янка і выставіў на настаўніка пару вострых, як цьвікі, вачэй.

— Свае тры крыжыкі,—лёгка ўсьміхнуўшыся, мяккім голасам вытлумачыў настаўнік.

— Як тры крыжыкі?! Мой подпіс?!

Янка так аслупянеў, нібы настаўнік казаў яму, каб ён нажом адрэзаў свой нос і кінуў у сьметнік.

Пры гэтым ён у паветры напісаў пальцам тры крыжыкі.

— Цяпер усе павінны ўмець пісаць і чытаць,—вёў далей сваю гутарку настаўнік выразна і цьвёрда, не адступаючы.—Ты вось кожны раз прыходзіш ка мне, каб я табе чытаў розныя павесткі, розныя паведамленьні, газэту, законы аб зямлі і іншыя патрэбныя справы.

Настаўнік доўга гаварыў яму аб патрэбе ўмець пісаць і чытаць.

Янка Гарбач маўчаў.

Ён апусьціў голаў, апусьціў цяжка, нібы бязьмен, узьвешаны ўніз галоўкай. Кучма рыжаватых, паджары-

стых валасоў, настаўленых супроць твару настаўніка, былі нямым адказам Янкі.

Здавалася, што ён хоча бадаць настаўніка ў грудзі сваёй успацеўшай лабацінай з нявідочнымі рагамі за такое прыставаньне.

Выразу твару Янкі ня відаць было, але па ўсім целе яго як-бы прабегла знутры думка, тарганула яго ўсяго, скалатнула, нібы вецер яблыню—і зноў захавалася глыбока ўнутры...

Шкада зрабілася Янку сваіх крыжыкаў... Ён так да іх прывык за ўсё жыцьцё...

Так прывыкае чалавек да сьцен турмы, у якой прыходзіцца яму сядзець часам доўгі час. Пры вызваленьні з няволі ён пачынае сумаваць па сваёй каморцы з жалезнымі кратамі.

Настаўнік назіраў за Янкам. Усім станам сваім ён быў напружаны і чакаў, што далей будзе.

Настаўнік быў адзет у вопратку «зашчытнага» колеру ў вытрыманым стылі. Жаўтавата-брудныя бацінкі «амэрыканкі» на нагах, скруткі да кален, парваныя нагавіцы. Усё гэта напаміпала нядаўны час вайсковага комунізму. Выгляд настаўніка, вырваны з эпохі грамадзянскай вайны, нібы клінам урэзаўся ў наш час мірнага будаўніцтва.

Для настаўніка яшчэ ня мінуў гарачы, захапляючы пэрыод упартай барацьбы. Тры гады ён жыве вось у гэтай глушы. Увесь свой час змагаецца з вясковай цемрай. Ад пастаяннага змаганьня з яго маршчыністага твару ня зыходзіць выраз неспакою, напружнасьці і натхнёнай жывасьці. Вочы ў яго вострыя, пранікаючыя, бародка—клінам, увесь ён тонкі і худы. Нібы верацяном вострым гатоў ён у любую хвіліну пранізваць думкі вясковых людзей, каб асьвятляць іх, каб расьсейваць павуціну забабонаў, якімі запоўнены вёскі.

З добрай усьмешкай паглядае настаўнік на Янку Гарбача і чакае.

А ў Янкі думкі скачуць з месца на месца, лётаюць, як перапалоханыя авадні. Мітусяцца ў яго галаве крыжыкі, якія ў штодзенным жыцьці, у практычнай працы, у адносінах з людзьмі зьвязалі яго, злучалі з тэй культурай, навукай чалавечай, якая мае за сабою многа тысячагодзьдзяў, якая знаходзіла калісь свой пачатак вось ад такіх-жа крыжыкаў.

Да гэтага часу Янка бачыў толькі карысьць ад сваіх крыжыкаў. Толькі вось у гэту хвіліну ён павярнуў аглоблі ў другі бок і—давай у думках шукаць усе нявыгады крыжыкаў, усю нясуразнасьць сваёй цемнаты.

— Сапраўды магільнік нейкі!—падумаў Янка. Колькі яго дурачылі з такімі подпісамі дзеля яго няпісьменнасьці. Колькі ён папер падпісваў такімі крыжыкамі, ня ведаючы, што напісана ў гэтых паперах, а потым прыходзілася церабіць патыліцу, ваяваць, судзіцца і новыя глупоты чыніць. А ўсё дзеля таго, што ён чалавек няпісьменны.

— Жыць далей з крыжыкамі нельга!—цьвёрда падумаў Янка.

— Трэба над крыжыкамі паставіць крыж!—прагаварыў ён голасна.

— Во, во!—падхапіў гэтыя словы, як самае каштоўнае і дарагое, настаўнік.

Вочы настаўніка засьвяціліся радасьцю: новая перамога!

— Значыць, будзеш у мяне вучыцца?

— Буду!—цьвёрда адказаў Янка і падняў галаву. Ён ажно ў твары зьмяніўся ад сваёй рашучасьці, і ў знак згоды з настаўнікам, каб замацаваць гэту справу раз на заўсёды, Янка схваціў левай рукой правую руку настаўніка і са смакам хлопнуў па далоні настаўніка другой рукой сваёй. Ажно водгаласкі расплёскаліся вакол на розныя лады.

Так Янка заўсёды рабіў пры самых важных момантах свайго жыцьця, калі гандляру цялё прадасьць або калі каня памяняе.

Янка аддаў цяпер свае тры крыжыкі за пісьменнасьць.

Разьвітаўшыся з настаўнікам, Янка пайшоў дахаты аднаўлёным, новым чалавекам.

Ён адчуваў сябе як-бы пад вакном цікавых палацаў, дзе чорныя літары на белай паперы аблягчаюць чалавечае жыцьцё, зьнімаюць нейкую луску з яго вачэй.

Ідучы дахаты, Янка не заўважваў, што робіцца вакол. Яго нешта падымала ўгару, нясло, як пярынку. Праз колькі часу ён сам будзе газэты чытаць, кніжкі, будзе падпісвацца словамі «Янка Гарбач».

Тут ён прыпомніў свае крыжыкі і давай пальцамі ў паветры зноў вывадзіць іх па старой прывычцы. Але заразжа ўсхапіўся:

— К ліху крыжыкі!—прагаварыў ён гнеўна.

А каб зноў іх не рабіць, ён пачаў лічыць свае пальцы на руках. Лічыць і хвалюецца-непакоіцца. То ў яго выходзіць дзевяць пальцаў, то адзінаццаць...

— Вось пракляцьце...—бармоча Янка і сьмяецца сам з сябе, што зьбіўся з панталыку.

Янка не пайшоў дахаты, а павярнуўся ў коопэратыў, каб зараз-жа купіць пісьменныя прылады.

З. Бядуля

# Дэлегатка

Аднаго разу здарылася нешта такое, што ўзварухнула роўнавагу жыцьця Аўгіні. Гэта было ў нядзелю, у дзень Аўгініных бліноў.

Яўхім быў учора на сялянскім сходзе, мо' ў першы раз за ўсе гады. Надзвычайны быў гэты сход: сяляне пастанавілі выдаць савецкай уладзе ўсіх самагоншчыкаў свайго сельсавету. Яўхіма гэта, што называецца, за жывое калупнула. Сягоньня раніцай ён абегаў усю ваколіцу і ніводнай пляшкі сівухі не дастаў—баяліся даць.

Па скрыпе дзьвярэй, па адрывістым шлёпаньні лапцей, па строга-адчайнаму выразу вачэй Яўхіма Аўгіня зразумела, што сягоньня з яе мужыком нешта надзвычайнае чыніцца.

Жудасна ёй зрабілася ад таго, што Яўхім сягоньня ўвайшоў у хату бяз п'яненькіх частушак-песень, бяз шорханьня-хістаньня і гусінага паравальваньня з боку на бок.

Неяк нязвычна...

Спачатку Яўхім сеў на лаву і дзікім зрокам уткнуўся ў падлогу. Потым ён падняўся, пабляднеў і давай, як воўк, бліскаць вачыма, намацваць імі ўсе куткі, нібы адчуваючы там нейкага страшнага ворага, схаванага пад старымі бэбахамі.

Потым Яўхім утаропіў вочы ў жонку, якая задрыжала ад страху, як асінавы ліст.

У вачох і рухах селяніна было нешта такое пэўнае, рашучае і халодна-рэзкае, нібы раптам знайшоў таго, чаго ўсё жыцьцё сваё шукаў, нібы знайшоў свайго заядлага ворага, якога во зараз зьнішчыць...

Твар Яўхіма крывёй наліўся, на ілбе, шыі выступілі жылы, нібы пляцёнкі кошыка: Яўхім пачаў біць вокны, пасуду, гаршчкі, перавярнуў начоўкі з рошчынай і рабіў страшны садом у хаце.

Аўгіня ня рухалася з месца, разявіла рот, як-бы паветра ёй не хапае, і вытарашчыла вочы...

Як на тлустага селядца, пасьля ёмкай выпіўкі, Яўхім накінуўся на сваю жонку...

Пачаў яе біць...

Біў яе як ніколі да гэтага часу. Валачыў па падлозе, ірваў за валасы, комкаў яе цела кулакамі з нейкім надзвычайным смакам, ажно пена выступіла на яго губах. Гэты смак чуўся ў яго «г-г-ээ!!!», якое вырывалася хрыпла з яго грудзей пры кожным удары, нібы ў дравасека, які рупна сякерай працуе.

Першы мо' раз у сваім жыцьці Аўгіня ня вытрыма-ла—падняла громкае галошаньне-выцьцё.

Яўхім зьдзівіўся—ён ня прывык да такога адказу на свае пастаянныя бойкі, і спыніўся раптам. Разьмяк і асеў.

У страшным выглядзе жонка вырвалася, выскачыла з хаты.

За ёю, як звыкла, пабеглі кот і певень, якія ніколі не разлучаліся з ёю.

З прычытаньнямі і плачам ішла яна па вуліцы, ішла перавальваючыся з нагі на нагу, пакалечаная, вымазаная у брудзе, у парваных вопратках.

Не заўважала, як на яе суседзі зьдзіўлена паглядалі,ківалі галовамі; ня чула людзкіх запытаньняў: што? як? куды?

Сэрца Аўгіні кіпела, нібы вар у гаршчку. Думкі раз-гортваліся, мо' першы раз у жыцьці, так моцна, так шыра-ка, нібы тоўстая трубка кужалю, якая доўгімі гадамі ляжа-ла на самым дне кубла, ляжала нявыбеленая, вось толь-кі цяпер яе раскручваюць-раскладваюць на гумне па-сонцам.

Так Аўгіня ў думках сваіх разгортвала цяпер усё сва-жыцьцё. І першы раз ёй так крыўдна зрабілася на мужа на сваю вечную пакорлівасьць, на сваю цемнату...

Першы раз у жыцьці яе вечнае «так трэба» зьмяні-лася на «так ня трэба».

Аўгіня йшла ўсё шпарчэй і шпарчэй. У хаце за ўсе сва-гады яна адвыкла думаць, была як нейкая няжывая рэч, прыстасаваная да печы, як вілачнік ці качарга, а тут, пры-хадзьбе ў надзвычайным настроі, адчуваючы боль ва ўсім целе, думкі яе рваліся, нібы новы рой пчол з старога вуль-ля, які шукае сабе новага месца.

Тут Аўгіня прыпомніла тыя незразумелыя словы, які-чула за апошнія гады рэволюцыі.

Гэтыя словы мігнулі ёй цяпер, як раптоўныя прамені ў вочы. Словы гэтыя, таемныя і вабныя, нібы цапамі мала-цілі па яе сэрцы. Яна аж вочы зажмурыла і давай мах-нальна шаптаць гэтыя словы і пільна прыслухоўвацца да іх.

Аўгіня пакіравалася раптам у тое страшнае месца, скуль расьсейваліся гэтыя словы, «дзе чорту душу пра-даюць», як гаварыў часта поп,—у хату-чытальню...

У гэтай вёсцы хата-чытальня была тым месцам, дзе зьбіраліся людзі на сходы, дзе чыталіся газэты, дзе «вала-водзіў» комсамол, куды прыяджалі «ратары» (оратары) з гораду, якія (як Аўгіні казалі суседкі) гаварылі баечны

пекна аб розных простых сялянскіх справах. Словам, хата-чытальня была тым месцам, дзе можна гаварыць аб усім, нават аб сваіх крыўдах...

Крыўд у сэрцы Аўгіні было шмат, перапоўнілі яе грудзі, як той званец, які збожжа глушыць на полі: першым чынам, крыўда на «бога», які даў ёй такі горкі лёс (так тады думала Аўгіня); потым крыўда на мужа, што вечна зьдзекваўся над ёю; пасьля на самую сябе, што дагэтуль маўчала; у канцы—на «ўвесь сьвет» (вёска і ваколіцы) за тое, што не бараніў яе, што адносіўся да яе нібыта няўважліва.

Вострым крэменем гэта крыўда драпала яе горла, гарачай жыжай па жылах расьцякалася, замыкала вусны жалезным замком, выціскала мутную расу з вачэй...

Вочы Аўгіні нібы дымам закурыліся. Яна была ў нейкім сьне на яве. Кожнае сваё пачуцьцё, думку Аўгіня павінна была бачыць, ашчупваць—іначай гэта ёй было няясна. Такім чынам бачыла яна гэту крыўду...

Аб крыўдзе Аўгіня шмат цікавых старасьвецкіх песень ведала, у якіх крыўда адмалёвана як жывая, з галавы да ног...

Во, цяпер яна, крыўда, скаліць зубы вострыя з-пад гнілога, абросшага сьлізкімі губкамі плоту. Во, сіняй, кагцістай рукою кліча Аўгіню. Во, урэпілася за яе лапці і не дае ісьці. Во, хрыпла гавора да Аўгіні:

— А чаму-ж ты да гэтага часу са мною не ваявала? Я-ж заўсёды была з табою—пры блінох у хаце, пры жніве на полі. Чаму не ваявала?

— Бо была сьляпая і дурная!—адказвае Аўгіня на свае ўласныя думкі.

Аўгіня пры гэтым першы раз у жыцьці сьцісквае рукі ў кулакі і з пагрозай махае імі перад сабою.

— А цяпер чуеш мяне?

— Чую, чую ў болі сваім,—адказвае Аўгіня зноў на свае думкі.—Чую, што тут (яна ўжо падышла да хаты-чытальні) зьнімуць луску цемнаты з маіх вачэй.

Аўгіня адчыніла дзьверы і бокам усунулася ў хату-чытальню.

— Людцы добрыя, ратуйце!—крыкнула Аўгіня.

Шмат моладзі было ў пакоі. Перад Аўгіняй замітусіліся маладыя твары, гарачыя вочы.

Усе з зьдзіўленьнем кінуліся да яе.

— Якое няшчасьце? Што здарылася?..

Розныя думкі, якія нядаўна жывымі ластаўкамі кружыліся ў галаве няшчаснай кабеты, цяпер заблуталіся, і яна не магла зьвязна апавядаць пра сваё гора.

Але людзі добра зразумелі, уцямілі ў чым рэч.

Галоўным чынам супакоілі цётку Аўгіню комсамолкі. Так лагодна з ёй гаварылі, так шчыра-ласкава на яе глядзелі, пранікаліся яе горам, ажно яе абдало нейкім надзвычайна-прыемным цяплом, і ўвесь боль яе сьціх, прытаіўся...

* * *

Нібы ў казцы цудоўнай, перад Аўгіняй разгарнулася новае, цікавае жыцьцё.

Папершае, яе муж Яўхім пачаў менш піць і зусім перастаў біць яе, узяўся за наладжаньне сваёй гаспадаркі. Падругое, Аўгіня, як ні дзіўна, пачала вучыцца пісаць і чытаць.

Пальцы яе былі пакрыўлены, як сукі, у мазалёх, пасмаленыя ў печы, патрэсканыя ад працы. Аўгінінае жыцьцё можна было чытаць па яе руках—найлепшы жыцьцёпіс працоўных людзей. У руках відаць была ўся душа вясковай гаротнай кабеціны.

Гэтыя рукі болей усяго вызначаліся, калі ў школе граматы для дарослых яны месца сабе не знаходзілі на белай, як сьнег, паперы. Дрыжэлі рукі ад шастаньня паперы маленькімі дрыгаткамі і як-бы сароміліся, лезьлі часта пад стол, каб іх папера ня бачыла.

Гэтыя рукі, якія так спрытна ўвіваліся пры самай цяжкай сялянскай працы, тут страцілі сваю пэўнасьць і сілу. Пальцы ня складваліся добра, каб ручку трымаць; ручка здавалася Аўгініным пальцам стопудовай булавою.

Здавалася Аўгіні, што нічога на сьвеце няма мудрэйшага, як выводзіць атрамантам просьценькія палачкі на паперы—вось такія рысачкі, як на аўсяным коласе... (Гэта здавалася тэй кабеціне, якая, апрача майстраваньня бліноў, яшчэ ўмела ткаць найпякнэйшыя паяскі, з самымі хітра-мудрымі ўзорамі: з грабелькамі, падкоўкамі, васількамі. Яна славілася гэтым на ўсю ваколіцу). Ёй здавалася, што малюнкі вывадзіць куды лягчэй і жывей, чым простыя палачкі ставіць. Вось яна малюнкамі цэлую кнігу напісала-б...

Аўгіня пацела над літарамі. Аркуш паперы здаваўся ёй вялізарным жытнім полем, якога яна ня здолее зжаць. Але гэта было толькі першымі днямі. Пасьля яна звыклася і навучылася так-сяк пісаць і чытаць.

У хату-чытальню Аўгіня прыходзіла штодня. Наслухалася шмат цікавых рэчаў. Выступала на сходах з гутаркамі-прамовамі, і зусім іншым чалавекам зрабілася.

Думкі яе выходзілі наўзьверх яскравымі, ядранымі словамі, як тая рунь, што відавочна ў цяплыні вылазіць на сьвет з чорных грудзей тлустай глебы. Ранейшая маўклівасьць павялічвала запас яе думак і слоў. Яе талент да бліноў і паяскоў і наогул да сялянскай працы пераліўся цяпер у яе новую грамадзкую працу. А разам з гэтым яна ня менш, чым раней, працавала і ў хаце.

Аўгіня набыла да сябе павагі ня толькі ў роднай вёсцы, але ва ўсім сельсавеце. Калі хто з бяднячак была чым пакрыўджана—ішла за парадай да Аўгіні. Дзе ладзяцца чырвоныя хрэсьбіны ці вясельле—там Аўгіня рэй вядзе. Трэба сказаць, што набожнай яна ніколі ня была. Ніводнай папоўскай малітвы ня ведала. Аўгіня выкрывала самагоншчыкаў—іх лічыла сваімі заядлымі ворагамі, знахароў лаяла, і будзіла цёмных, як яна раней, сялянак да лепшага жыцьця.

Аўгіня як-бы нанова на сьвет нарадзілася, яе заўсёды выбіралі дэлегаткай на зьезды кабет-працаўніц. На зьездах яна вельмі трапна ўмела гаварыць аб гаротным жыцьці сялянак на вёсцы.

Соткі вясковых хустак мітусіліся перад яе вачыма, лавілі кожнае яе слова, і сэрцы ўсіх дэлегатак біліся ў тахт з яе сэрцам. Паводлуг яе прамоў заўсёды вынасіліся практычныя рэзолюцыі аб організацыі і працы кабет на вёсцы.

Шмат такіх Аўгінь бывала на зьездах, і Аўгіня там бачыла сваю праўдзівую сям'ю.

У ваколіцы ўсе звалі Аўгіню «дэлегаткай» і шмат аб ёй гаварылі, калі ў часопісі пабачылі яе портрэт.

Яе новае жыцьцё, цікавая праца зьнялі з яе твару вечны выраз плачу: вочы былі спакойныя, задумлёныя і сьмелыя, зморшчыны згладзіліся. Відаць было, што Аўгіня добра разумее, што яна адна з тых тысях і мільёнаў, якія будуюць новае сьветлае жыцьцё для ўсіх працоўных.

---

Е. Чарнецкі

## Якімка аграном

Зусім малым быў яшчэ Якімка, як застаўся ён адным, без сваіх бацькоў.

Напалі на вёску польскія банды, прышлі к бацьку ў хату, спыталі:

— Ты старшыня?

— Я!

— Ну, і атрымай...—і куля стрымала яго на гэтым.

Маці кінулася к бацьку з плачам, але было ўжо позна. З кулакамі накінулася яна на афіцэра, схапіла яго за грудзі, а ён і з маткай гэтак сама расправіўся.

Забілі і пайшлі.

Вылез з-запечку Якімка, доўга тузаў бацьку з маткаю, але больш ня ўсталі яны, каб прытуліць свайго Якімку.

Якімка горка плакаў...

Сабраліся вяскоўцы і сходам парашылі ўсяліць к Якімку ў хату старога пастуха Хвёдара, каб працаваў на гаспадарцы і карміў Якімку. Парашылі і зрабілі...

Перайшоў Хвёдар на жыцьцё к Якімку, спадабаў яго, як роднага сына, вучыў яго гаспадарыць.

— Вучыся, Якімка, як трэба працаваць, даглядаць жывёлу. Усё тваё. Вырасьцеш, будзеш добрым гаспадаром, як і твой бацька,—гаварыў Хвёдар.

Першыя часы ніяк ня мог прывыкнуць Якімка да новага свайго бацькі-пастуха: усё думаў аб бацькох; цэлымі днямі праседжваў на магілках бацькоў.

Прышла зіма. Зноў пачаў хадзіць у школу Якімка. Настаўнік стараўся адцягнуць хлопчыка ад сумоты. Часта прыходзіў к яму дамоў, вучыў яго маляваць, чытаў розныя кніжкі, але лепш за ўсё Якімка слухаў аб жыцьці расьліны й жывёлы.

Прышла вясна. Усе працуюць на полі, а Якімка цэлыя дні праводзіў у садзе. Абчышчаў кару на дрэвах, абразаў сухія сучкі, капаў, сеяў, садзіў. Часта прыяжджаў з дзедам Хвёдарам на поле, памагаў яму працаваць. Ня раз пытаў яго Хвёдар:

— Пайшоў-бы ты, Якімка, пагуляў з дзецьмі ў бабкі, ці не надакучыла табе працаваць?

Якімка паглядзіць на Хвёдара моўчкі, ды скажа:

— Не, не пайду...

Адзін раз прыехаў аграном праводзіць гутарку па сельскай гаспадарцы. Пайшоў і Якімка паслухаць, аб чым будзе гаварыць аграном. Расчыніўшы рот, слухаў ён агранома. Кожнае слова запала ў душу хлопчыка. Пасьля гутаркі, як усе разышліся, падышоў Якімка да аграному і сказаў:

— Дзядзечка, я хачу быць такім, як ты... дай мне кніжачак пачытаць...

Паглядзеў на яго аграном і спытаў:

— Ты чый, хлопчык?

— Я—сын старшыні Міхася, якога забілі белыя.

— Ведаю тваго бацьку, ды як ня ведаць, часта быў у мяне. Бывала ўсё гутарылі аб сельскай гаспадарцы, як лепш працаваць на зямлі...

— Вось што, хлопчык: ты прыдзі да мяне ў школу ў сяло Зарычаны. Я табе дам кніжак, прыдзі ў нядзелю.

Ня мог дачакацца Якімка нядзелі, каб пайсьці да аграмома. Нікому не сказаў аб сваіх замерах.

У нядзелю, чуць-сьвет, Якімка быў ужо ў агранома. Ходзіць кругом школьнага саду, ня ведае, куды ямуісьці, забыўся спытаць, як зваць агранома. Бачыць у садзе капаецца нейкі чалавек, падышоў к яму і спытаў:

— Скажы, дзядзечка, дзе тут знайсьці агранома?

Пазнаў яго аграном.

— Эх, ты маладзец! што, не пазнаў мяне? я сам і ёсьць аграном...

Абрадаваўся Якімка і чуць выказаў:

— Я прышоў к табе за кніжкамі, ты абяцаў...

— Пойдзем, я табе раней пакажу што-небудзь...

Павёў Якімку аграном на паказальнае поле школы, якое апрацоўвалі самі вучні. Растлумачыў аграном Якімку, як трэба даглядаць за расьлінай, сеяць хлеб, вадзіў у сад, агарод, хлеў. Гарэў Якімка ад радасьці, яму больш спадабалася, як цялята жывуць, як у іх чыста й хораша.

— Ну, а кніжак ты мне дасі?—спытаў Якімка, калі ўсё агледзеў.



**Моладзь працуе з трактарам**

— Дам, дам,—сказаў аграном і павёў яго ў школу.

У школе сабралася шмат хлапчукоў і дзяўчатак. Сядзелі яны і аб нечым гаманілі. Калі ўвайшоў аграном, усе прывіталіся з ім і сказалі:

— Сягоньня ў нас організацыйны сход сельска-гаспадарчага гуртка і разьмеркаваньне працы.

Засталіся і аграном з Якімкам паслухаць. Якімку вельмі спадабалася, як дзеці, такія як і ён, разьмяркоўвалі працу між сабою: працу ў садзе, агародзе, і даглядалі за жывёлай. Калі скончыўся сход, аграном падышоў к дзецям і сказаў:

— Дзеці, прымеце ў свой гурток гэтага хлопчыка,— ён сын забітага старшыні з суседняга сяла і вельмі цікавіцца сельска-гаспадарчай працай.

Дзеці абхінулі Якімку, абсыпалі яго пытаньнямі. Якімка спачатку па незнаёмству маўчаў, а пасьля бойка даваў адказы на ўсе іх пытаньні.

Запісалі Якімку ў сельска-гаспадарчы гурток і сказалі, што сходы па нядзелях, а працаваць будзеш у сябе дома. Далі яму кніжак.

Прышоў Якімка дамоў вельмі здаволены і вясёлы. Расказваў аб усім дзеду Хвёдару.

— Ну што-ж, хлопча, справа добрая,—сказаў Хвёдар.

Многа перачытаў кніжак Якімка, кожную нядзелю хадзіў на сходы. Працаваў дома па кніжкам і парадам агранома.

Мінула два гады. Якімка ўжо старшыня сельска-гаспадарчага гуртка. Дома вядзе культурную гаспадарку. Організаваў вакол свайго гуртка ўсю вясковую моладзь. Часта Якімка хадзіў і ў хату-чытальню. Перачытаў усе кніжкі. На вёсцы ўсе ведалі, што Якімка працуе на гаспадарцы павучонаму пад кіраўніцтвам агранома. Спачатку глядзелі на гэта няпрыемна, пасьля, як убачылі, што ў Якімкі і хлеб расьце лепш, і яблыкі ў садзе, і ў агародзе, больш сталі прыглядацца к маладому «аграному».

Якімка бязупынна працаваў з моладзьдзю. Рабіў даклады на сходах комсамольскай ячэйкі. Усіх вучыў, як трэба стаць культурнымі гаспадарамі. Кожную нядзелю Якімка гутарыў з старымі, як лепш апрацоўваць зямлю. Усе дзівіліся, адкуль Якімка набраўся такіх ведаў, гаворыць, як аграном. Сталі паважаць старыя Якімку. Ідуць да яго за парадамі, што пасеяць на гары, як весьці барацьбу з казяўкамі, якія псуюць дабро іх, як выбраць лепшую карову на рынку. На ўсе пытаньні Якімка даваў разумныя адказы. На адным з сходаў ячэйкі Якімка падаў заяву аб прыняцьці яго ў комсамол. Усе аднагалосна ўхвалілі прыняць Якімку сябрам комсамолу. У ячэйцы Якімка яшчэ больш узяўся за працу. За актыўную працу ячэйка ўхваліла паслаць Якімку вучыцца ў горад на Рабфак.

---

Я. Івашын

## На заводзе

Сталь зьвініць,
сталь пяе
песьні-гімны свае.
Ў гэтых песьнях—магутнасьць разгону.
І снуюць навакол,
бы сям'я шчырых пчол,
людзі працы вялікай штодзённай.

Твары пышуць агнём,
льлецца пот
з іх руччом,
а ў руках мазалістых напорнасьць.
Іх злучыў сьпеў гудкоў,
спаяў стук малаткоў.
У іх сэрцах агнёвая зорнасьць...

Пасаў шум,
пасаў клум,
палкі подых машын,
махавік бязупынна сьпявае.
Малаткі б'юць у лад,
звоніць стальлю варштат...
Гэта звон будаваньня у краі.

---

Дударов

## На парогах

Калі дзесяцкі, Сямён Махаў, абышоў усё сяло, стукаючы палачкай у вокны і заклікаючы ўсіх зьбірацца на сход, з хат пацягнуліся адзін за другім мужчыны і кабеты.

Ішлі павольна, не сьпяшаючыся, крэхчучы і пазяхаючы, таму што не пасьпелі адпачыць пасьля працоўнага дня.

Сонца заходзіла, і на зямлі ад хат паўсталі даўгія цені.

Здалёк на сяло насоўваўся вялізны слуп пылу. Гэта пастушкі гналі з поля дамоў быдла.

Каля павеці коопэрацыйнай крамы, дзе звычайна зьбіраўся сход, сядзела на лаўцы некалькі чалавек, адзетых пагарадзкому.

Гэта былі рабочыя машынабудаўнічага заводу, з Пі-цера. Падыходзячы, сяляне віталіся з імі, але паглядвалі крыху недаверліва. Іншыя пыталіся:

— Наконт харчпадатку, ці што?

— А можа быць наконт зямлі?

— Ды не, адносна млыну,—адказвалі рабочыя.

— Так, так. Арандаваць хочаце, ці што?—разважалі мужыкі.

— А вось хутка даведаецеся.

Сяляне ўсё падыходзілі, і калі старшыня сельсавету праз чвэрць гадзіны падлічыў усіх, хто зьявіўся, дык выявілася, што бадай усе прышлі.

Прынясьлі столік, паперы і ўсё іншае.

Тады адзін з рабочых, мужчына гадоў трыццаці, з разумным і энэргічным тварам, зьвярнуўся да ўсяго сходу.

— Грамадзяне,—громка загаварыў ён.—Мы, прадстаўнікі пецярбурскага заводу, прыехалі сюды, каб прапанаваць вам нашу таварыскую дапамогу.

— Нам вядома, што ў вас бадай зусім няма добрых млыноў, а паміж тым адзін добры паравы млын заменіць прынамсі дваццаць ветракоў, дый памол лепшы.

— Як-жа можна. Вядома—вятрак!—загаманілі розныя галасы.

— У вас пад бокам рака з парогамі, а парогі—гэта сіла,—гаварыў далей прамоўца.—Можна паставіць турбіну, а турбіна дасьць электрычную энэргію. І вось мы парашылі абсталяваць для вас электрычны млын, калі-ж у вас будзе электрычнасьць, дык можна будзе яго правясьці і ў вёску, і вы, замест таго, каб паліць газу, будзеце мець па хатах электрычнае асьвятленьне.

— Ах, каб цябе!—ня вытрываў нехта.

І ў момант усе разам загаманілі.

Шмат хто, аднак-жа, аднёсься недаверліва да выдумкі рабочых. «Добра яно то добра, да толькі... А што гэта будзе каштаваць мужыком... Бо раней толькі паны электрычнасьць палілі... Ня бачыць яго ўжо нам на вёсках»...

Рабочыя ўсьміхаліся.

— Раней палілі паны, а цяпер і сяляне будуць паліць. На тое і савецкая рэспубліка. А каштаваць гэтая справа будзе нядорага. Сяляне павінны пабудаваць будынак пад млын і электрычную станцыю, а ўсё іншае завод ад сябе зробіць.

Крычалі, спрачаліся, але прапанова была прывабная. Старшыня склаў пратакол, і ўсе прысутныя падпісалі абавязак збудаваць будынак.

*
* *

Мінуў год.

На беразе быстрай ракі, каля аднаго з парогаў, красаваўся будынак электрычнага млыну, а крыху з боку—электрычнай станцыі.

Дзесятак рабочых, што прыехалі разам з інжынэрам з заводу, ужо заканчвалі ўстаноўку турбіны і неабходных машын, у той час як сяляне з сякерамі і пілкамі даканчвалі абсталяваньне будынкаў і двара.

Праца кіпела.



**Электрычная станцыя на рацэ**

Сяляне цяпер бачылі, які каштоўны падарунак падаравалі ім рабочыя. Толькі некалькі кулакоў былі нездаволены ўсёй гэтай выдумкай. Да гэтага часу млыны ветракі былі ў іх руках, а новы электрычны млын пагражаў зьнішчыць іх прыбыткі.

Але на іх ніхто не зьвяртаў увагі.

Праца хутка набліжалася к канцу.

*
* *

Урачысты дзень наступіў.

Вада на парогу ракі шумела і бурчэла.

Ужо з самай раніцы з усіх ваколічных вёсак пачаў зьбірацца народ. Мужчыны і жанчыны пад'яжджалі і падыходзілі, адзетыя пасьвяточнаму, іншыя прывязьлі жыта для памолу.

Увесь берат быў запоўнен групамі людзей у рознакаляровых сукенках і сарочках.

Рабочыя, якія ўстанаўлялі машыны, закончылі сваю справу і цяпер хадзілі сярод сялян, задаволеныя выкананьнем сваёй задачы.

Горад зьвярнуў у сто раз больш таго, што калісь было яму дадзена вёскаю.

Гэты млын павінен быў служыць сялянам вечным помнікам аб гарадзкіх гаротніках і моцна злучыць горад з вёскай.

Аб гэтым таксама гаварыў і зроблены буйнымі літарамі надпіс на пярэднім баку млына: «Наша змычка».

Але вось працяжны гудок прасьвідраваў паветра.

Людзі заварушыліся і зьбіліся ў кучу каля ўваходу ў памяшканьне млына. На зэдлік узьлез адзін з рабочых і сказаў кароткую прамову, вітаючы з урачыстасьцю адчыненьня электрычнага млына, які цяпер будзе служыць моцнаю падставаю для братэрства, для змычкі рабочых і сялян. Рабочыя і сяляне без памешчыкаў і фабрыкантаў вельмі добра спраўляюцца з адбудаваньнем народнай гаспадаркі, умеючы быць добрымі гаспадарамі.

Гукі «Інтэрнацыяналу», падхопленыя натоўпам, заглушылі яго апошнія словы і, быццам уторачы ўрачыстым гукам, загудзеў пушчаны ў ход млын.

**Па Г. Грыгор'еву**

## Заваёўваем балоты

Вясна сёлета спазьнілася. Многаводныя рэкі і рачулкі Палесься доўгі час не хаваліся ў свае берагі. Толькі пад канец траўня можна было пачаць мэліорацыйныя работы, гэта значыць пачаць асушку балот.

Работы па асушцы балот разгарнуліся на Беларусі сёлета надта шырака. Дзяржава дала на гэтыя работы шмат грошай.

У гэтым годзе на гэтыя грошы ўпарадкуюць 16 рэк даўжынёю 125 кілёмэтраў, выкапаюць 55 кілёмэтраў новых каналаў, паправяць 24 кілёмэтры старых і пабудуюць 41 мост.

На гэтых работах будзе працаваць болей 4.000 чалавек.

Сяляне, аб'яднаныя ў 716 мэліорацыйных таварыстваў, асушаць каля 20.000 гэктараў балот. Асушка гэтай плошчы—ёсьць толькі маленькая частка ўсяе працы па асушцы беларускіх балот. Але сяляне, бачачы моцную і вялікую падмогу з боку Савецкай улады, з такім запалам

і шчырасьцю ўзяліся за працу, што цераз некалькі год усе балоты Беларусі будуць асушаны, узораны і будуць карміць людзей.

* * *

У Палесьсі ёсьць Мар'іна балота. Гэта—аграмадная плошча ў 800 гэктараў; да рэволюцыі яна належала паном. Яшчэ пазалетась яно было дзікім і непраходным. Тут ня ступала чалавечая нага. Сяляне аб'яжджалі яго за дзесяткі вёрст на лодках. А ў мінулым годзе цераз балота лягла дарога ў 5 кілёмэтраў. У гэтым годзе дарогу працягнуць на 11 кілёмэтраў. Ля дарогі ёсьць рабочы пасёлак, дзе жыве армія па асушцы балот.

На асушцы Мар'іна балота працуе звыш 400 чалавек. Цяжкая гэта праца! Капаючы каналы, людзі стаяць па пояс у вадзе. Па магчымасьці ўмовы працы стараюцца палепшыць. У рабочым пасёлку ёсьць кухня, лазьня, аптэка, коопэрацыйная крама. Будуюць тэатр. Там-жа ёсьць цагляны завод, які вырабляе цэглу для ўласных патрэб.

На Мар'іным балоце, пасьля асушкі і апрацоўкі яго, будзе заложана 800 сялянскіх гаспадарак.

* * *

47.000 сялян, аб'яднаўшыся ў 716 таварыстваў, добраахвотна ўзяліся за цяжкую працу. Старыя і моладзь, старухі і дзяўчаты з лапатамі і сякерамі выходзяць на балоты, капаюць равы, канавы, робяць насыпы, працуюць упарта, доўга, запэцканыя гразьзю, аблепленыя камарамі. У іх мала струмантаў, няма тэхнікаў, але яны неяк наздагад капаюць каналы і даволі ўдала.

У гэтым годзе сялянам дапамог Наркамзем, які дастаў з заграніцы 200 балотных плугоў, некалькі зямлячарпалак і організаваў склады струмантаў, адкуль сяляне бяруць гэтыя струманты на-пракат.

На асушаных вучастках Наркамзем організаваў узорныя пасевы кармовых траў, аўса і г. д.

У Магілеўскай акрузе сяляне пракапалі 140 вёрст канаў, асушылі 3.200 дзесяцін дзікага балота. Летась засеяна было толькі 100 дзесяцін, а рэшту дзесяцін расчышчаюць і карчуюць пні.

І вось на гэтых 100 дзесяцінах у першы-ж год вікі і аўсу ўрадзіла ў сярэднім па 250 пудоў сухога корму з дзесяціны.

У Аршанскай акрузе сяляне на сваіх балотных узорных вучастках дабіліся ўраджаю ў 180—220 пудоў сухога корму з дзесяціны.

* * *

На асушаных вучастках добра працуюць трактары. Сталёвыя коні, ня гледзячы на сваю вагу, з шумам і грукатам бегаюць па асушанаму балоту, падымаюць цаліну.

У Беларусі зараз працуе звыш 100 трактараў, і большая іх частка працуе на балотах.

Асушка спрадвечных балот на Беларусі наглядна паказвае, што колектыўнай працай ды яшчэ пры дапамозе тэхнікі мы ня толькі пераможам балоты, але заваюем сабе лепшае жыцьцё.

---

Па Г. Грыгор'еву

## Першыя дзянькі Асінаўскай электрычнай станцыі

На вялізным непраходным Асінаўскім балоце, што чорнай плямай села на беларускіх прасторах, дыхнула новым жыцьцём. Адвечную цішыню гэтага балота парушыў бадзёры грукат сякер і рыдлёвак.

На станцыі сёлета пачаліся работы. Яны вымагаюць перш за ўсё добрых памяшканьняў для рабочых, выгадных шляхоў зносін, таму яны з гэтага і пачаліся.

Калісь на Асінаўскім балоце быў Выдрыцкі хэмічны завод. У часе вайны завод спыніўся. Рабочыя разышліся. Ад заводу засталіся толькі голыя сьцены, а побач разбураная сяліба рабочых. Цяпер будова Выдрыцкага заводу перарабляецца пад часовую электрастанцыю. Сяліба папраўляецца, каб было дзе жыць рабочым. Але яна малая, таму будуецца яшчэ тры вялікіх дамы.

Гэта важная праца на Асінаўскай электрастанцыі: рабочыя павінны жыць як мага лепей. Разам з кватэрамі будуецца больніца, клюб з тэатрам, лазьні, вадаправод.

Далей патрэбна добрая сувязь з чыгункай, бліжэйшымі станцыямі, Воршай, дзе цяпер кіраўніцтва галоўнага інжынэра.

Цяпер балота, як балота. Нават на конях ня скрозь можна праехаць па гэтай дрыгве. Таму папраўляюцца старыя, робяцца новыя масты і мосьцікі, робіцца шаша ды чыгунка.

Гэтыя працы скончацца сёлета ўвосень. З наступнага году яны дадуць магчымасьць распачаць самую галоўную працу—пабудову электрычнай станцыі.

Маленькая вёсачка Арэхі пяройдзе ад балота далей. На ёй будзе красавац будынак электрастанцыі. Будынак

робіцца такі, каб яго ў любы момант можна было пашырыць. Станцыя будуецца на 30.000 кілёват, але калі патрэбна будзе для беларускай прамысловасьці, то яна пашырыць сваю магутнасьць да 80.000 кілёват. І тады гэта будзе вялізная станцыя. Электрычнасьць ад яе дойдзе і да Менску.

Ці хопіць апалу? Так, торпу з балота хопіць больш чым на 100 год.



**Былы царскі палац у Крыме—цяпер тут дом адпачынку для хворых сялян.**

Уся праца на Асінаўскай станцыі павінна быць скончана ўвосень 1929 году.

Спрадвеку Асінаўскае балота ня толькі не давала карысьці, але і шкодзіла чалавеку. Яго абыходзілі, аб'яжджалі. Сям-там на ўскраінах яго туліліся пагорбленыя сялянскія хаткі. Жыхары іх былі бадай жабракі. Але цяпер акрыялі і яны. Шмат надзей і шмат дабра наперадзе.

---

**Я. Колас**

## Няхай жыве свабодная праца

Зашумелі, зазьвінелі маладымі галасамі і звонам рыдлёвак Сухія Груды. Дваццаць хлопцаў і сем дзяўчат прышлі на работу. І работа закіпела адразу. Паставілі дзьве высокія тычкі з саламянымі мётламі каля рэчкі Міранкі, вызначылі месца, дзе павінен прайсьці канал, і правялі дзьве роўныя баразначкі пад шнур на адлегласьці ў сажань адна ад другое. Далёка тыя тычкі, чуць зглелзіць

зоркае маладое вока. Залацеюць на першых праменьнях сонца пяскі Сухіх Грудоў, сівым туманом атулілася Гнілое Балота, а старэнькі дубок, што за балотам, маўкліва стаіць і грэе на сонцы сваю лысую галаву ды пасьмейваецца. «А ну, паваюйце»,—як-бы падзадорвае моладзь. Трывожыцца Аленка: «Ці здолееш ты, Сьцёпачка, да канца работу давесьці?» думае яна. А Сьцёпка, сур'ёзны і спакойны, парадак работы наладжвае, ад балота заставу пакідае, каб у канал вада не найшла, рабоце ня шкодзіла. Разьмеркавалі хлопцы работу сабе.

— Даеш два сажні на брата?—чуецца голас.

— Не гарачыся, таварышы!—спыняе Сьцёпка:—памалу, паволі возмемся, каб не таміцца адразу—работы нам будзе. Канал тут, хлопцы, будзе глыбокі: тут самая высокая часьць груду, а далей пойдзе лягчэй.

— Пачынаем,—гукнуў Макар Лагун.

Зашорхалі рыдлёўкі ў зямлі, паляцелі кідкі направа і налева.

— Павольней, павольней, хлопчыкі!—стрымлівае Сьцёпка заўзятых таварышоў і сам марськае ў паветра зямлю. Расьце земляны вал, ніжэй у дол уваходзяць зямлякопы.

— Адпачні, хлопцы!—падае Сьцёпка каманду.

Вылазяць маладыя работнікі, твары іх ад работы разгарэліся, весела жартамі перакідаюцца ў часе адпачынку.

Хлопцы-падлеткі прыбеглі. Паглядзелі на сьвежы вал, весела стала ім. Хапаюць рыдлёўкі, у роў лезуць, капаюць, стараюцца.

— Вось нам і зьмена прышла,—кажуць старэйшыя хлопцы.

— Малайцы, хлопцы!—пахвальвае іх Сьцёпка:—вучэцеся гуртом працаваць. Акуратенька, браткі, капайце, вось як тут пачалі: зьверху шырока, а пад ніз вузей.

Старыя збораўцы—раскіданыя хмары пасьля навальніцы. Яны яшчэ не сталкаваліся, ні да якага пэўнага погляду ня прышлі. Адны ходзяць ды ў вус пасьміхаюцца: заядла штось адразу моладзь узялася, глядзі, каб на заўтра-ж не астыла. Другія проста не даюць веры, каб можна было на работу столькі народу паставіць, а тыя патузаюць, патузаюць ды кінуць. Трэціх зайздрасьць трохі і страх забірае, каб з носам не астацца. Чацьвертыя навока прыкідаюць, колькі-б з гэтага Гнілога Балота можна сена сабраць. На адным толькі ўсе схадзіліся: Гнілое Балота прыцягвала цяпер увагу кожнага з іх. Проста цікава было, што з гэтага выйдзе. І ўжо пасьля паўдня то той, то

другі заверне пад Гнілое Балота хоць здалёк паглядзець, што там робіцца.

Дзядзька Сымон тайком захапіў рыдлёўку і таксама папёр на Сухія Груды. Схаваў рыдлёўку ў кустох, а сам на месца работы падыходзіць, крок прыпыняе, разглядаецца. Бачыць—высокі вал расьце, дружна ў паветры зямля мільгае, толькі шапкі і хусткі зямлякопаў відаць. Сам сабою сьмех набягае н агубы дзядзькі Сымона. Ідзе работа, а дзядзька Сымон і дараду любіць даць. Падходзіць.

— Памажы вам...—пачынае дзядзька Сымон і не канчае: богавай дапамогі ім ня трэба:—ну, Троцкі, ці што,—канчае ён.

— Піонэр!—загукалі хлопцы з рову:—ура, дзядзька Сымон прышоў!

— А чаму гэта, дзядзька, бяз рыдлёўкі?—запытаў яго хтось.

— Я толькі проста паглядзець хачу.

— Добра ўжо і тое, што дзядзька хоць і паглядзець прышоў.

— Эх, вы!—сказаў дзядзька Сымон і крута ў кусты павярнуў, а адтуль з рыдлёўкаю йдзе.

— Брава, брава, дзядзька Сымон!

— А вы што-ж думалі, уломак дзядзька Сымон?

І захапіўшы дзялянку зямлі, пачаў кідаць яе ня горш маладых.

— Ня бойся, Аленка,—гаворыць да яе цішком Сьцёпка:—глядзі, унь яшчэ два дзядзькі каля балота пахаджаюць.

Аленка радасна ўсьміхаецца яму, у вочы заглядае.

І праўда, што ні дзень, новыя работнікі прыбываюць. Ня прыдзе адзін, на яго месца два стануць. Сама ўжо праца пакарае, захапляе чалавека, бо ў гэтай дружнай грамадзкай працы так многа і музыкі, і поэзіі, і сілы, і хараства.

Яшчэ гучней загаманілі Сухія Груды, а Балота маўчыць панура, закрыўшыся зялёнаю коўдраю. Дзед-дуб з-за балота глядзіць на Сухія Груды, як-бы грамадою любуецца. А грамада працуе. Яшчэ гусьцей ляцяць сінія, жоўтыя, белыя камякі зямлі, срэбрам і золатам кладучыся па адзін і па другі бок каналу. На ніжэйшае месца выбраліся, яшчэ спарней выцягаецца канал. Паглядзець.—любата. Усё сяло часам зьбіраецца тут. Адны—працаваць, другія—проста так сабе, палюбавацца. Нават чужыя людзі заходзілі сюды. Глядзяць ды галовамі трасуць.

— Сенакос, сенакос будзе!—кажуць, і Гнілое Балота аглядаюць.

— Спусьціць-бы і нам сваё балота!

— Няма каму пакамандаваць намі!

— Ї няма ў нас блізка такой Міранкі!

А забораўцаў яшчэ больш ахвота падшыбае.

Каля Гнілога Балота пастануць часамі дзядзькі, глядзяць, мяркуюць, проекты строяць. Тут і тэхнікі—спэцы ёсьць: што ні скажа, як у сьцяну ўлепіць.

— Гэта што!—па суху капаць усякі патрапіць, а вось як ты на балоце паскачаш?—часамі пачуецца і голас няверы.

— Дармо, дзядзька: і балоту пашэпчам, дамо рады,—заспакойвае Сьцёпка.

— Маладыя ногі і ў балоце ня гразнуць,—задорыста адгукнецца хто з моладзі.

Цяпер старых і не адгоніш адгэтуль, у смак увайшлі. Уся гэтая справа сталася блізкаю, душу мазоліла, думкі займала. А работа была нялёгкая, перашкоды былі: расьцелюць тут свае срэбраныя невады грымотныя хмары, дажджу нальлюць у канал, а там работа надышла, сенакос, жніво. Рабочыя рукі адкідаліся. Але Сьцёпка ўпарта вядзе сваё, ні разу ня спынілася работа. У дваццатых чыслах ліпня роўны, глыбокі, акуратны канал ляжаў між Гнілым Балотам і рэчкаю. Але наперадзе было яшчэ многа работы: трэба пратоку зрабіць на балоце ды прарэзаць заставу, злучыць канал.

Тут было многа гоману і спрэчак і розных проектаў, як наладзіць работу на балоце. Адны казалі, што трэба насьцілаць грэблю з двух бакоў, дзе-б маглі стаяць рабочыя, каб прачысьціць пратоку.

— А мы гэта зробім прасьцей і скарэй,—сказаў Міхась Барута.

Ён таксама блізка да сэрца прыняў гэтую справу і дапамагаў сыну. Зьбілі яны дзьве пары перакідных кладак з дошак і прывезьлі іх. Палажылі кладкі на балота, на кладкі работнікі пасталі і пайшлі варушыць Гнілое Балота. Мацюта-каваль зрабіў спэцыяльныя рыдлёўкі-каўшы і сам прывёз іх сюды. Перад заставаю для вады расчысьцілі шырокае месца. Работа к канцу падыходзіла. Сяло валнавалася. З нецярплівасьцю чакалі таго дня, калі будзе прарэзана застава.

Тры дні заставалася да «іспаса».

— Мы свой «фэст» устроім,—казаў Сьцёпка, бо моладзь згаварылася пусьціць канал якраз у гэты дзень, калі зьбярэцца народ каля «сьвятога калодзежу». Падгатава-

лися, як мае быць. Процiў заставы набралася многа вады з балота. На расчышчаным месьце цэлая сажалка стаяла, і вада ўсё прыбывала. Процiў уваходу ў канал зрабілі дашчаную заставу, а зямлю выбралі. Праз дошкі ў канал вада патрошкі прасочвалася, і малюсенькая крынічка пакацілася па каналу ў Міранку.

На «іспаса» дзень выдаўся ясны, цёплы, такі, як і два гады таму назад. Народ пачаў зьяжджацца ў Заборцы з самага ранку. Усе двары пазаймалі прыежджыя людзі. А Заборцы гулі гутаркамі аб іх канале. На Сухіх Грудох каля каналу народу было, як маку, і свае і чужыя. У поўдзень, калі зьбіраўся крэсны ход пад «сьвяты калодзеж», хлопцы-школьнікі загаласілі:

— Ваду спускаць! Ваду спускаць!

Народ замітусіўся, паваліў агромністаю грамадою. Азірнуўся а. Ціт і ня ведаў, што думаць: ці гэта пад «сьвяты калодзеж» народ валіць, ці на канал глядзець. І сэрца яго затрывожылася. «А можа ізноў дапаможа мне гэты лайдак», падумаў ён і з непакоем правіў сьвятыя літаньні.

Каля «сьвятога калодзежу» спыніліся толькі старыя бабкі, калекі, а некаторыя жабракі з лерамі і гармонікамі таксама пайшлі за народам на Сухія Груды.

Каля дашчанай заставы насыпалі хлопцы курганок зямлі. На гэтым курганку стаяў Сьцёпка Барута і ўся моладзь, што дзень-у-дзень ваявала тут на фронце працы. Загарэлая, зморанaя цяжкаю працаю, яна была вясёлая, жывая. Яна была горда сьвядомасьцю, што зрабіла вялікую справу, бо падышла цяпер важная мінута, якою жылі яны ўвесь час свае ўпартае працы.

— Таварышы-грамадзяне!—зазьвінеў малады голас.

Узбарухнуўся народ і заціх, а на самым версе курганка стаяў бяз шапкі Сьцяпан Барута і гаварыў:

— Мы вельмі рады, што прышлі вы на наш «фэст», на наша маладое сьвята працы. Мы працавалі, каб спусьціць з быстраю рэчкаю гніль Гнілога Балота, каб на яго месцы зазелянеў муравою грамадзкі луг. Сотні гадоў пакланяліся вы «сьвятому калодзежу», і сотні гадоў стаяла тут Гнілое Балота, заражала паветра і разносіла хваробы. І «сьвяты калодзеж» не памагаў вам. Таварышы! задумайцеся над гэтым. Не «сьвятыя калодзежы», не малітвы бацюшак дадуць вам шчасьце і дабрабыт, бо шчасьце і дабрабыт—у вас самых. Тут зроблена спроба, каб паказаць сілу дружнай грамадзкай працы, і вы бачыце вынікі яе, бачыце сваімі вачамі. Але мы зрабілі маленькую частку таго, што нам трэба зрабіць і што мы можам зрабіць.

У нас няма добрага будынку для школы, а дзе і ніякай няма школы, у нас няма народнага дому, бібліотэкі, нашы дзеці ўлетку бяз догляду, нашы саламяныя стрэхі спрыяюць пажарам, нашы дарогі топяцца ў гразі, на нашых грэблях гразнуць коні, на нашых мастох калечацца людзі і жывёла. А ўсё гэта можна ўхіліць, сваімі рукамі пабудаваць новае, моцнае, прыгожае і канечна патрэбнае нам. І гэта вы зробіце, калі будзеце выступаць грамадою, дружна, згодна. Дык няхай жыве свабодная праца! Няхай закрасуюць і разаўюцца грамадзкія «колектывы працы»! Няхай наша нядбаласьць пройдзе разам з гэтым Гнілым Балотам!

Тут Сьцёпка з моладзьдзю з аднаго боку і сталыя сяляне з другога падняли дашчаную заставу, праз якую чуць-чуць не пераліваласяа вада.

З шумам хлынула вада ў канал і пабегла далей і далей, нясучы з сабою пясок, кусочкі дрэва, траву. Удоўж каналу стаяў пасьвяточнаму ўбраны народ, моўчкі слухаючы музыку вады. А з-пад «сьвятога калодзежу» даляатаў, як-бы з разьбітага чыгуна, нудны, гнусавы звон, але з-за шуму вады ў канале яго бадай што і ня чуваць было.



# Сашка будаўнік

П'еска ў 2-х дзеях

## АСОБЫ:

1. **Сашка**—11-гадовы хлопчык
2. **Бацька Сашкі**
3. **Маці Сашкі**
4. **Сьцёпка**—таварыш Сашкі
5. **Юзік**
6. **Волька**
7. **Мішка**
8. **Ягорка**
9. **Шурка**
10. **Гэлька**
11. **Маша**
12. **Міколка**
13. **Аўхім**

(5–13: вучні, піонэры, рэдколегія школьнай насьцен. газэты)

## ДЗЕЯ I

Адбываецца ў хаце Сашкі, якая мае небагаты выгляд. У задняй сьцяне двое дзьвярэй: адны ў сенцы, другія ў кухню. На сцэне 9—15 хлопчыкаў. Заслона падымаецца пад сьпевы піонэрскіх песень. Некаторы час пяюць пры адчыненай заслоне.

### ЗЬЯВА I

**1 Хлопчык.** Ну, давайце, як у лягерах, станавіўся Юзік.

*(Юзік схіляецца, гуляюць у чахарду. Пераскочыўшы, кожны куляецца праз галаву і становіцца, а калі праз яго пераскочаць, то ён куляецца праз галаву назад і тады ўжо бяжыць пераскокваць. Так са сьмехам пачынаюць гуляць усе. Можна яшчэ зрабіць практыкаваньне на „вольны рух“).*

**Юзік.** Давайце яшчэ так: першы лажыся.

**Усе.** Ну, давайце. *(Бяруцца 10 хлопчыкаў, разьлічваюцца на „першы, другі“ і пачынаюць кружыцца).*

### ЗЬЯВА II

**Маці** *(уваходзіць з кухні).* Што вы нарабілі тут? Гэта-ж падумаць, столькі пылу, ды яшчэ паварочаеце мне што.

**Ягорка.** Ня бойцеся, цётачка, мы нічога не паварочаем, мы асьцярожненька, далікатна.

**Маці**. Да-лі-катна... многа ў цябе далікацтва, вось пад носам паглядзі. *(Ягорка, шмаргануўшы, выцірае пальцам нос. Усе сьмяюцца).* Упыну на вас няма. Ішлі-б дзе ў большую хату або на двор.

**Міколка.** Калі-ж на дварэ макравата, цётачка.

**Маці**. Макравата, а тут што за гульня ў гэткай цеснаце, а яшчэ калі прыдзе бацька, то ён тут ня будзе з вамі цацкацца.

**Юзік**. О, дзядзьку мы ведаем... Трэба тады скарэй выносіцца. Ня злуйцеся, цётачка, на нас, мы тут лягеры ўспомнілі, ну і пачалі куляцца. Хацелася-б яшчэ засьпяваць „вераб'я“.

**Маці**. Якога гэта вераб'я?

**Юзік**. А вось такога. Давайце хлопцы. *(Усе скоранька становяцца ў кола і пяюць, аднача́сна перастаўляючы ногі адну наперад, другую назад).*

Чы-чы, чы-чы, верабей,
Ня клюй маіх канапель,
А я таму вераб'ю
Калом ножку пераб'ю.
А на тую ножку
Куплю я панчошку,
А на тое цельца
Куплю палаценца.

*(З словамі „а я таму вераб'ю“—ногі пераменяюцца хутка. Маці з усьмешкаю пазірае на іх).*

**Усе**. Пойдзем ужо, пойдзем.

**Маці**. Ляцеце, вераб'і.

**Усе** *(хорам).* Бы-вайце зда-ро-вы. *(Адыходзяць).*

**Сашка** *(да Сьцёпкі).* Застанься, Сьцёпка, пагуляем яшчэ крыху ў нас. *(За сьцяной чуваць):*

Бывайце здаровы,
Мае бацька й маці.
Паганю каровы
Я на сенажаці.

**Маці**. Ну, а вы чаму ня йшлі на вуліцу, ці куды там? Чаго засталіся?

**Сашка**. Яны ў клюб пойдуць, а я дзе дзенуся?

**Маці**. Ну, і ты разам з імі.

**Сашка**. А вы-ж дазволілі мне ў піонэры паступіць?

**Маці**. А я табе, сынок, і не перашкаджаю вельмі.

**Сашка**. Цяпер вы не перашкаджаеце, а татка дык гатоў з хаты мяне прагнаць.

**Сьцёпка**. І праўда, цётка, чаму ваш дзядзька такі сярдзіты, а яшчэ калі падап'е, дык такі страшны...

**Маці**. Такі ўжо ў яго выгляд і характар, але ён б'ецца рэдка калі.

**Сашка**. Добра рэдка...

**Маці**. А нашто бярэш яго струмант ды тупіш?

**Сашка**. Я ня туплю яго, ні разочку нічога ня вытупіў, толькі...

**Маці**. Толькі вышчарбіў сякерку.

**Сьцёпка**. А як ты вышчарбіў?

**Сашка**. Я сьсякаў сухую вішаньку, мне хацелася з крывенькімі карэнчыкамі, а там камень, ну й крышку, зусім крышку вышчарбіў.

**Сьцёпка**. І папала добра?

**Сашка**. Няўжо-ж не папала.

**Сьцёпка** *(сьмяючыся)*. А куды?

**Сашка**. Папругаю па плячах, але больш сюды. *(Паказваеззаду)*.

**Сьцёпка**. А нашто табе было сьсякаць тую вішаньку?

**Сашка**. Як нашто? А я-ж нештачка раблю, ня ведаеш? Вось я табе зараз пакажу.

**Сьцёпка**. Пакажы, пакажы.

**Сашка** *(дастае з-пад ложка, ці адкуль там, невялічкую, недабудаваную хатку)*.

**Сьцёпка**. Ого-го! Што гэта? Хатка нейкая, уй-юй-юй, што ты майструеш... *(Сашка задаволена пазлядае)*. І вокны, і дзьверы будуць, і столік там, нават печка, а гэта лавачка каля хаты... А каго ты пасадзіш сюды?

**Сашка**. Сядзем і я, і ты.

**Сьцёпка**. Сядзеш, тут-жа мая нага ня зьмесьціцца.

**Сашка**. Вядома, што не, а я сюды такія лялькі пасаджу.

**Сьцёпка**. Якія лялькі, а дзе ты іх возьмеш?

**Сашка** *(дастае з-пад ложка, ці адкуль там, лялькі: мужчыны, жанчыны і начовачкі)*. А вось яны, гэта вось гаспадар гэтае хаты, а гэта гаспадыня, а гэта дзіця ў начоўках.

**Сьцёпка**. А нашто дзіця?

**Сашка**. Як нашто? Сям'я каля сваёй хаты...

**Сьцёпка**. У белай кашулі з паяском... але-ж нейкая вельмі ўжо простая хата.

**Сашка**. Дык ты-ж ня ведаеш, нашто гэта я раблю ўсё.

**Сьцёпка**. А нашто?

**Сашка**. А выстаўка будзе!

**Сьцёпка**. А... вось нашто ён майструе.

**Сашка**. Вось я й раблю простую сялянскую нашу беларускую хатку.

**Сьцёпка**. А ці будзе хто глядзець на яе?

### ЗЬЯВА III

**Маці**. Зноў майструеш? Глядзі-ж, як увойдзе бацька, то вечарам у печы будуць твае гэтыя цацкі. А гэта-ж што за лялькі?

**Сашка** *(хапае і хавае ззаду).* Нічога, гэта так сабе. *(Сьцёпка сьмяецца).*

**Маці**. Ну, дзе-ж ты гэту хатку дзенеш?

**Сашка**. Заўтра, мамачка, тут яе ня будзе, толькі каб сёньня татка не паламаў.

**Маці**. Глядзі сам. *(Пайшла).*

**Сьцёпка**. Гэта-ж заўтра адчыняецца выстаўка.

**Сашка**. Я ведаю, браток, дык вось ты памажы мне скончыць, а то я не пасьпею. Памажы, браток, я цябе прашу.

**Сьцёпка**. Добра, толькі каб не папсаваць чаго замест помачы.

**Сашка**. Ты хоць будзеш глядзець у вакно, і калі будзе ісьці тата, дык скажаш, тады я зноў схаваю.

**Сьцёпка**. А, гэта можна. А з якога боку ён павінен ісьці?

**Сашка**. З таго й таго. *(Паказвае на вокны).* Наглядай.

*(Бярэцца за працу, кладзе пілку, ставіць клей, кавалкі дрэва. Сьцёпка глядзіць у вакно і пяе на мотыў „Чырвоная армія“ піонэрскую):*

Мы піонэры працоўнай сям'і*),
Дзеці з загонаў чырвоных краін,
Сьцяг вызваленьня на захад нясем,
Сьмерць капіталу: узрасьцем—растрасем.
Пылае помстаю
Наш дух юнацкі...
Мы зьнішчым зьдзекі і прыгон
І... *(Углядаецца).*

**Сашка** *(устрывожана).* Што, хто там?

**Сьцёпка**. А, гэта Мотка, боты панёс некаму, а я думаў... *(Пяе далей).*

І на ўсім сьвеце працоўных дзеці
Убачаць сонца ясных дзён.

Мы, піонэры,—комуны сыны,
З намі працоўныя—мы не адны.
Сьцяг наш чырвоны затопіць зямлю,
Працы свабоднай зьяднае сям'ю.

Пылае помстаю...

**Сашка**. Ну, вось шчыток зараз будзе гатоў.

**Сьцёпка**. А ведаеш, Сашка, успомніў я гэта, браток, лягеры... *(Адыходзіць ад вакна).* Вось раніцою ўсе сьпім, а сыгналы: ту, ту, ту... Эх, усе ўсхватваемся, адзяваемся, пасьля бяжым на рэчку, умываемся халоднай вадзіцай, а пасьля на гімнастыку, а пад вечар раскладваем агонь. Тут расказваюць, якія ар-

---

*) Збор піонэрскіх песень.

ганізацыі дзяцей за межамі. А то, бывае, як наладзім хор, такі камічны, от весела!!!

**Сашка**. Глядзі-ж ты, братку, у вакно.

**Сьцёпка**. А, я й забыўся, бадай ты спрахла. *(Глядзіць у вакно, насьвістае кракавяк, а пасьля пяе на гэты-ж матыў):*

Нас ня любяць, нас баяцца *)
Поп кудлаты і кулак,
Бо рашыў запраўды ўзяцца
Комсамольскі маладняк.
Хто супроць нас—прэч з дарогі!
Бачыш гэту грамаду—
Абламаем чорту рогі,
Богу вырвем бараду,
Іду-ду і-ду-ду

— Іду, іду, ідуць, ідуць!!! *(Сашка ўсё хавае).*

**Сьцёпка** *(азірнуўшыся).* Нашто ты схаваў?

**Сашка.** Ну, а як-жа, ты-ж кажаш, ідуць?

**Сьцёпка**. Хто, ты думаеш, ідуць?

**Сашка.** Татка ідуць.

**Сьцёпка**. Каровы з поля ідуць, а ня татка, вось і ўсё.

**Сашка**. Ка-а-ровы... Хай бы-ж адразу казаў так. *(Дастае хатку і зноў пачынае майстраваць).*

**Сьцёпка**. Ты рабі, пакуль я не скажу табе: „хавай". *(Глядзіць у вакно).* Фу-р-р. На лісафэце нехта паляцеў. *(Паўза).* Люблю лісафэт. Я, ведаеш, Сашка, як вырасту і будуць грошы, перш за ўсё куплю сабе лісафэт і буду выкручвацца. *(Паказвае).* А ты што сабе купіш?

**Сашка**. Я ня ведаю. Патрымай, Сьцёпка, я адрэжу калодачкі, аднаму дрэнна. *(Сьцёпка трымае).*

**Сьцёпка.** Каб ты хоць па пальцах ня цяў мне.

**Сашка.** Ня бойся, я асьцярожна, хоць раз зьнячэўку шмаргануў сябе. *(Рэжа).* Вось яшчэ два адрэжу, дый будзе. Каб мне татка пазваляў, то даўно скончыў-бы. *(Адыняюцца дзьверы, на парозе паказваецца бацька).*

## ЗЬЯВА IV

**Сьцёпка** *(спуджана).* Хавай! *(Сашка абхапіў хатку і так і застаўся).*

**Бацька**. Што хавай, што такое?.. *(Бярэ за руку Сашку ды адрывае ад хаткі і аглядае. Маўчаньне).* Дай сюды пілку. *(Сашка дае, бацька глядзіць, ці цэлы зубцы).* Дай сюды сякеру. *(Сашка дае, бацька прабуе пальцамі ці вострая).* Яшчэ хавацца будзе ад бацькі...

---

*) Збор піонэрскіх песень.

ЗЬЯВА V

**Маці.** Ну, ідзі палуднуй, а то вечар на дварэ, а ён ходзіць ня еўшы. *(Бацька пайшоў. Маці да Сашкі).* Забірай усе свае цацкі ды ўцякай куды. *(Пайшла).*

**Сьцёпка.** Пойдзем да нас, а я памагу табе забраць усё, там і скончым. *(Сашка бярэ хатку, а Сьцёпка іншыя рэчы і выходзяць за дзьверы. Сьцёпка ў дзьвярох, паглядзеўшы на хату).* Здаецца, выратаваліся.

*ЗАСЛОНА*

## ДЗЕЯ II

### ЗЬЯВА I

Адбываецца ў школе. Сабраліся вучні, пераважна піонэры. Разглядаюць матэрыял для насьценнай газэты.

**Волька** *(супакойвае).* Ціха. Я думаю, далей трэба зьмясьціць артыкул Мішы аб сельска-гаспадарчай выстаўцы. Прачытай, Міша.

**Міша** *(чытае).* Яшчэ за некалькі дзён да адчыненьня выстаўкі пад'яжджалі фурманкі і прывозілі розныя рэчы. Перад адчыненьнем і раніцою ў дзень адчыненьня вялі розную жывёлу: коні, каровы, сьвіньні, авечкі і нават куры.

**Ягорка** *(перабівае).* Эх, жарэбчык адзін быў зграбны такі, калі заіржэ—і-га-га-га!.. *(Заіржаў, усе засьмяяліся).*

**Шурка**. А я бачыла хорашанькія цялядкі...

**Волька**. Дзеці, няможна так, нашто траціць час. Давайце паслухаем да канца, зробім, якія патрэбны, папраўкі і зьмесьцім у газэце, гэта будзе цікава.

**Ягорка**. А ў мяне і малюнкі прыгатаваны.

**Волька**. Добра, паглядзім. Чытай, Міша.

**Міша** *(чытае).* На выстаўцы больш усяго было з савецкіх гаспадарак і мала з сялянскіх. Было два агароды: культурны і някультурны. На першым бручка, капуста, буракі былі тоўстыя і ўсё было харошае, а на другім—усё дробнае і дрэннае, бо вельмі густа пасаджана.

**Гэлька**. А можа там гною больш паложана, дзе лепш расьце.

**Міша**. Можа і гною больш паложана, але там і пасаджана інакш, у радочкі, а можа і гатунак лепшы. *(Чытае далей).* Калі ўвойдзеш у царкву...

**Ягорка**. Не ў царкву, а ў музэй.

**Міша**. Ну, ня ўсё роўна.

**Волька**. Так, Міша, тут трэба паправіць, напісаць: „у музэй—быўшая царква“. Згодны, каб зрабіць такую папраўку?

**Усе**. Згодны, трэба зрабіць.

**Міша** *(чытае).* Калі ўвойдзеш у музэй—быўшая царква...

**Ягорка**. А старыя баяліся зайсьці, ня ўсе, але некаторыя, здалёк паглядалі.

**Волька**. Не перабівай, Ягорка,

**Міша** *(чытае)*. То ўбачыш многа, многа чаго: розных яблык, вялізныя галоўкі капусты, гарбузы, снапы жыта, аўса, розныя зярняткі, а пасярэдзіне вельмі прыгожа выглядае Ленінскі куток. Людзей заўсёды многа там. Кожны дзень іграе музыка. Усім весела. Ёсьць і школьны куток. Туды вучні прынесьлі розныя свае рэчы. Там відаць малюнкі і нашай школы. А ідзеш па калідоры, дык убачыш многа чаго там выстаўлена. Усё людзі аглядаюць: як гвазды робяць, як друкуюць кніжкі. Усяго не пералічыш. Выстаўка навучае нас, як трэба паляпшаць гаспадарку, каб мець вялікую карысьць, каб усім сялянам і рабочым было добра, каб была моцнаю Савецкая ўлада, каб перамагала ўсіх буржуяў. Далоў капіталістых! Няхай жыве Камуністычная партыя!

**Усе**. Добра напісаў, брава, Мішка, брава!

**Волька**. Якія хто хоча зрабіць папраўкі?

**Ягорка**. Упісаць трэба пра мядзьведзя, што вадзілі па выстаўцы. Я нават намаляваў яго.

**Усе**. Пакажы, пакажы *(хапаюць з рук малюнкі)*. У-у-у, Мішка *(сьмяюцца)*, на заднія лапы стаў, а ззаду людзей колькі.

**Маша**. Трэба зьмясьціць гэты малюнак.

**Волька**. І я так думаю: малюнак мы зьмесьцім, а пісаць аб тым, як яго там вадзілі, ня варта.

**Ягорка**. Ну, добра. А цяпер глядзеце мае іншыя малюнкі.

**Усе**. Давай паглядзім.

**Ягорка**. Вось тут прывязаныя коні стаяць, а гэта той жарэбчык, а гэта клетка з парасяткамі, а гэта царква са сьцягамі.

**Волька.** Добра, мы іх зьмесьцім. У каго яшчэ ёсьць матэрыял?

**Маша**. У мяне ёсьць.

**Волька**. Чытай, Маша.

**Маша** *(чытае)*. У нашай клясе завёўся вялікі мастак. Замест паперы і алоўка свабодна крэйдаю піша на сьпінах вучняў. Работы спаўняе хутка, без заказу і без задатку. Глядзі, мастак, каб хто не намаляваў табе чаго на носе!

**Некаторыя.** О, добра, добра! Ха, ха, ха!

**Гэлька.** Ён заўсёды бегае з крэйдаю...

**Ягорка.** Тут абавязкова трэба даць малюнак і падпісаць: „Янка Кучанок“. Ха-ха-ха... Добра напісала.

**Юзік.** Для гумару ў мяне ёсьць яшчэ. Вось што я напісаў. *(Хоча чытаць)*.

**Волька**. Пачакай. Паправак да заметкі Машы ня будзе якіх?

**Усе**. Не, ніякіх.

**Волька** *(да Юзіка)*. Ну, чытай ты сваю.

**Юзік** *(чытае)*. Дастаецца сабакам, калі Мікола Якімавых

ідзе ў школу або з школы. Яму мала падражніцца, яму трэба пазаганяць іх дзе далёка. Пазаганяўшы, ён спакойна ідзе ў школу на другі або трэці вурок. Паглядзі, Міколка, на расклад вурокаў. Там, здаецца, такія заняткі не напісаны. Пара заняцца справай.

**Волька**. Гэта добра.

**Юзік**. Толькі малюнак у мяне ня вышаў.

**Ягорка**. Пакажы малюнак. *(Глядзіць)*. Так, у цябе вышла галава сабакі ў два разы большая, чым галава Міколкі, і тут нядобра. Я папраўлю.

**Волька**. Ты паправіш, Ягорка. Яшчэ ў мяне ёсьць адна заметка, я сёньня скончу яе, зьмесьцім, ды на гэты нумар хопіць.

**Мішка**. А яшчэ тут ёсьць задачкі, шарады.

**Волька**. Так, гэта добра. Я думаю, заўтра так, як сёньня, зьбярэмся і пачнем перапісваць. Рысавальная папера ў нас яшчэ ёсьць?

**Ягорка**. Ёсьць яшчэ.

**Аўхім**. А, ведаеце, што трэба было напісаць яшчэ. А вось, як Сашка на выстаўцы стаіць з сваёю хаткаю. Як людзі аглядаюць. Там заўсёды спыняюцца, а ён аб'ясьняе. А раз падыходзіў бацька яго, дык ён хацеў уцячы, прасіў Сьцёпку, каб папільнаваў, а пасьля пабаяўся, каб бацька не забраў. А ён падышоў, паглядзеў, засьмяяўся, нічога не сказаў дый пайшоў.

### ЗЬЯВА II

**Міколка**. *(Убягае)*. Што, ужо газэту напісалі, напісалі?..

**Ягорка**. Не, цябе чакалі.

**Міколка**. А каго на тачку працягнулі?

**Гэлька**. Без цябе тачка не абышлася. *(Сьмяюцца)*.

**Міколка**. Чаму не абышлася? Я нічога... а вы ведаеце, ведаеце... не, ня ведаеце.

**Ягорка**. Ведаем, што ты сабак ганяеш і позьнішся ў школу.

**Міколка**. Якіх сабак. Ты можа сам ганяеш. Я з выстаўкі бягу, там нагароды раздавалі,—і ведаеце каму далі?

**Усе**. Каму далі, каму?

**Міколка**. А вось і не скажу. Здымеце з тачкі, тады скажу.

### ЗЬЯВА III

**Сьцёпка** *(убягае)*. Сашку нагароду далі. Зараз нясе сюды тапор, пілу...

**Юзік**. О, о, можа мядаль з печанае рэдзькі далі.

**Сьцёпка**. Ніякае печанае рэдзькі, а малаток, і серп, і пахвальны ліст... А вось ён ідзе.

### ЗЬЯВА IV

*(Сашка з сярпом і молатам, за ім некалькі хлопчыкаў).*

**Усе** *(убачыўшы)*. А праўда!..

**Волька**. Табе далі за хатку нагароду?

**Сашка**. А вось яна. Пілу і тапор пакінуў дома тату.

**Усе**. Брава, маладзец, Сашка!

**Сьцёпка**. У піонэры ўжо бацька пушчае.

**Усе**. Пушчае?

**Сашка**. Пушчае ўжо.

**Усе**. Добра, Сашка-піонэр.

**Міша**. Я лічу, што трэба ўпісаць усё гэта ў нашу газэту.

**Усе**. Абавязкова трэба ўпісаць.

**Волька**. Добра, мы ўпішам.

**Сьцёпка**. Ён спачатку ня верыў, як выклікалі яго, а я яму крычу—табе Сашка, табе, а нехта з боку кажа—правільна, яму, яму.

**Волька**. Хатка там засталася?

**Сашка**. Там.

**Волька**. А сярпок і малаток дзе дзенеш?

**Сашка**. А серп і молат я хачу аддаць у школу, хай яны будуць тут у нас.

**Волька**. Гэта вельмі добра.

**Усе**. Гэта добра.

**Сашка**. Вось вам. *(Перадае Вольцы).*

**Волька**. Мы будзем ха аць у нашай школе, як памятку, як падарунак за працу нашага вучня будаўніка-Сашкі.

*(У часе гэтых слоў усе становяцца так, што Сашка пасярэдзіне, крышку ззаду з аднаго боку Волька з сярпом, а з другога Ягорка з молатам, а іншыя за імі з бакоў).*

**Волька** *(дэклямуе)*. Мы дзеці ўсе
працоўныя.
Адзін з другім
мы роўныя.
Мы будучыны цьвет.

**Усе** *(хорам паўтараюць)*. Мы дзеці ўсе...

**Волька**. Ня ў шатах мы...

**Ягорка**. Ня ў золаце...

**Волька**. З сярпом ў руках...

**Ягорка**. І молатам...

**Удваіх**. Збудуем новы сьвет.

**Хорам** *(ідучы, паўтараюць усе)*. Ня ў шатах...

*ЗАСЛОНА*

# Інтэрнацыянал.






2 Ніхто ня дасць самохаць волі:
Ні бог, ні цар, ні багатыр-
Даб'ёмся самі лепшай долі...
Дабро для ўсіх наш правадыр
Каб ня згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас; —
Адважна плаўма сталь у горнах,
Пакуль у кузьні жар ня згас!
Гэта бой... і г. д.

3. Мы ўсе-работнікі, сяляне, —
Сусьветны рой працаўнікоў
Мець будзем на зямле ўладаньне
А дармаеды-прэч! далоў!
Жывіцца целам нашым годзе
Усім трутнём і груганом:
Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,
Сьвяціць нам будзе век вякоў!
Гэта бой... і г. д

# Чырвоны сьцяг.

Бадзёра.




Над Савецкаю старонкай
Вецер кліч наш разьнясе.
І пачуюць браты нашы.
Нас пачуе увесь сьвет!
З-за далёкіх гор і мораў,
Ад пустыні да лясоў.
Адусюль тагды адказ наш
Загудзіць „Заўжды гатоў!“

# Дзецям будучай камуны

Словы М. Кудзелькі
Муз. М. Т. М




Хто пажар запаліць у сьвеце,
Што шугае да набёс?
Толькі вы - камуны дзеці,
Вас чакае лепшы лёс
Хто тварыць жыцьця людзкога,
Вам, шчасьця. пекнаты?
Хто к жыцьцю кладзе дарогу?
Ведай, моладзь, гэта - ты!

